Генадзь Кляўко

# вязьмо



ВЕРШЫ, ПАЭМЫ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1984

# ШЧОДРЫ РУПЛІВЕЦ

Не прыгадаю, калі душой прыгарнуўся да чалавека, які стаў сябрам і спагаднікам надоўга, які сваёй вонкава спакойнай усмешкай распагоджваў любыя чорныя хмары смутку, а добры дзень настрою яшчэ святлейшым рабіў. Запомніў яго мажным і немітуслівым. Так спаважна і ўпэўнена думку думае лес, што сустрэў сваю маладую восень.

Генадзя Кляўко ўбачыў я ўпершыню на радыё, дзе запісваліся універсітэцкія паэты ўсіх курсаў, убачыў хударлявага, цыбаташыяга, востраабліччнага юнака ў нацыянальнай кашулі, дзе вясёлы ўзор бег, як стракатая сцяжынка ў летнюю спёку, па грудзях, поўных парыванняў і трывогі. Чытаў ён свой верш «Вясельны каравай», напісаны па ўсіх канонах паэзіі пачатку 50-х гадоў. (Верш гэты, тлумачыў мне пазней Генадзь, першы ўзяў у «Полымя» Сяргей Дзяргай, які, дарэчы, з клапатлівай увагай сачыў за ростам маладзейшага таварыша на працягу ўсёй іхняй творчай дружбы.

Часта па сваёй маладой няўважлівасці даводзіў я, што Міншчына — родны край Генадзя — сумнаватая, аднастайная. Чалавеку з бароў, азёраў, рэк, мне адразу было цяжка звыкнуць да стрыманага, з затоенай красой краявіда, які ўспамінае шум баравы, нібы той дзядзька рана палыселы сваю юнацкую чупрыну, з неадчэпным сумам.

У Генадзя Кляўко ў характары шмат было ад прыроды Міншчыны. Не вонкавая адрознасць і нечаканасць, а ўнутраная глыбіня, узважлівасць вызначалі ягоныя паводзіны, манеры, ягоны паэтычны свет. Ён быў рахманы, але рашучы, крыху замкнёны, задумёны, але надзвычай субяседлівы і адгуклівы на чужое гора. Не любіў дзяліцца сваёй бядой, але ўмеў радасці сябравай, як уласнай, радавацца.

Сцяжына на строму майстэрства не была роўная і простая. Яна і збочвала, і пятляла, і назад вярталася, але свая, высненая, вымроеная, раз і назаўсёды абраная, мэту бачыла.

Даволі доўгі быў час маўчання. Маўчання адноснага. Паэт гаварыў з жыццём, якое вывучаў пасля заканчэння універсітэта, працуючы баронавалокам у рэдакцыі газеты «Калгасная праўда» — наводзіў стыль. Паэт вёў гутарку са сваёй памяццю, з аднагодкамі, што падлеткамі палі на крывавых загонах вайны. Адным з першых пасля роздуму ў некалькі гадоў загучаў і ўразіў чытачоў верш «Другу невядомаму»:

Сёння дваццаць гадоў,
    як расстаўся ты з домам.
Сёння дваццаць гадоў,
    як ты стаў Невядомым.

Дык дазволь жа лічыць
    ад імя пакалення
Дзень пачатку вайны
    днём твайго нараджэння.

Пачынаўся новы паэт Генадзь Кляўко. Верш, здавалася б, прысвечаны даце пачатку вайны, але ён задужа не агульны, ён сагрэты пачуццём, ускалыхнуты параненай, прастрэленай памяццю. І радок «ад імя пакалення» гучыць дакладна акрэслена, гэта ўжо не абстрактна-зборны герой паэзіі 50-х гадоў, гэта пакаленне паэта, якое прайшло школу жаху, гневу, нянавісці і любові.

Тэма вайны, творы ваеннай тэматыкі — гэта літаратуразнаўчыя тэрміны, яны ад кніг, яны з кабінетаў. А вайна ў вершах, у паэмах паэтаў ваеннага пакалення як радыяцыя ў крыві.

У сваіх аўтабіяграфічных накідах у лютым 1968 года трыццаціпяцігадовы Генадзь Кляўко пісаў:

«...зранку 22 чэрвеня сорак першага года «масершміты» пачалі ставіць крыжы на маленстве маім і маіх аднагодкаў: каму навечна абарвалі жыццё, а каму наканавалі прайсці праз пекла вайны. Мы з маці ў час пакінулі хату, каб уцякаць на ўсход: ад прамога пападання снарада ад яе застаўся толькі ўспамін. З гэтай пары мы сталі звацца бежанцамі. Магчыма, дзецям больш, чым дарослым, уелася гэта горкае слова. Для мяне і сёння самае крыўднае і балючае».

Гэта вачмі маленькага бежанца глядзеў праз шмат гадоў паэт на спілаванае дрэва:

Спілавалі дуб купчасты.
Зглухла пушча.
Вечарэе.
У паветры кружыць птаства —
Не прытулішся на дрэве.

Поўнач зябне.
Праз дрымоту
Быццам чую: птушкі недзе,
Як бяздомныя сіроты,
Нанач просяцца ў суседзяў...

Зноў і зноў вяртала памяць маленства, уражлівая, крыўдлівая, недаравальная, «у той дом, дзе гарачыя пахнуць аладкі».

Зараз боязна мне
Пакідаць гэты дом на хвіліну:
Я калісьці у ім
Назаўсёды дзяцінства пакінуў.

Толькі выйду на шлях,
Азірнуся з узгорка —
Над садам
Ён ізноў запалае,
Разбіты варожым снарадам.

І ў паэме «Прыстань», эпіграфам да якой узяты словы з лясной песні, а яе чуў малы Генадзь ад партызан і ад партызанак, ад родных сваіх — народных помснікаў, уражваюць сваёй канкрэтнасцю, да жудасці асязальнымі маналогамі Голад, Холад, Тыфус, Страх. Яны не абстрактныя, адцягненыя паняцці — іхнюю ласку адчуў на сваёй скуры падлетак — сын першага старшыні калгаса і сельсавета Генадзь.

Бязбацькавічаў
Шмат на Беларусі...
Павыраслі.
Мінула й маладосць...
Я часта сам сабе
Згадаю ў скрусе:
Яшчэ ў нас і бязвёскавічы ёсць...

Бязвёскавічы. У гэтым слове шчыміць трагедыя нашай зямлі ў часе вайны. Тут асабістае і агульнае. Боль, які ні на хвіліну не заціхаў у сэрцы паэта, не даваў яму супакойвацца, дыктаваў радкі трывалыя і гранічна дакладныя.

У пустых гаршках
На дне жыву я,
Лыжкамі шчарбатымі шкрабу іх,
Над карой трасуся,
Над мякінай,
Жорны аплятаю павуцінай.

Гэта пра сябе кажа Голад. Канкрэтная атрыбутыка побыту спрадвечная, але яна па-новаму будзіць гнеў памяці, яна прымушае паверыць, згадаць і задумацца.

У Холада больш абагуленае мысленне, іншая маштабнасць:

Хоць, можа, калі
Пад дзяругай нябёс
Ад хат вашых жар і астыне,
Ды будзе ў нашчадкаў
Па скуры мароз
Ісці аб адным успаміне...

Тыфус прагавіты ў сваіх падліках:

Цэлыя вёскі

Лажыў я снапамі упокат,
Мною забраных
Лічылі, бывала, на копы.

Снапы і копы — мера сялянскага клопату асабліва жахліва гучыць у голасе Тыфусу.

Страх, ён змяняў сваё аблічча разам з часам:

Гляджу я з рулі адным, маленькім
І не міргаючым чорным вокам...
...А рукі
Заўсёды ўгору, заўсёды ўгору —
Я і на міг не спускаў з іх вока...

Памяць малечых рук, якія прымушаў захопнік уздымацца ў бяссіллі, не можа забыцца абразы бездапаможнасці.

Яна таксама з ліхалецця, з пасляваеннай галечы — прага працы як прычашчэнне да волі. А працаваў Генадзь Кляўко з нейкай прымхлівай затоенасцю, з сарамліва-пудлівай радасцю, баючыся, каб не ўраклі, марным словам не абразілі.

...Я на словы скупы,
калі гэтыя словы
Толькі раз у жыцці
гаварыць я павінен.

Наогул, са словам, з роднай беларускай мовай у паэта былі асаблівыя адносіны: улюбёнасць сыноўняя і ашчаднасць аратайная, бо ведаў сейбіт, што

У кожным слове корань ёсць
І нельга сілай
вырваць слова,—

вырваць з сэрца народнага, вырваць з адгранёнай вякамі фразы на тлум, на глум, на пустую забаву.

І слова давяралася святочна-ўражлівай душы, спрагнёна-бянтэжлівай думцы паэта. З роднай Рудзеншчыны прыходзілі як блізкія сваякі, як дарагія землякі, сцежкі, студні, млыны, гукі, пахі — іх прыводзіла роднае слова, матчына, суседчына, зямляцкае. Праз усю творчасць Генадзя Кляўко праходзіць вобраз сцяжынкі той, што бяжыць з маленства, з успамінаў, з пажарышчаў і чарэмхавых вёснаў. І ўвесь час падспудна жыў страх, што сцяжынка гэтая можа абарвецца. Бо паэт прадчуваў сваё расстанне са сцяжынай жыцця. Адсюль і такая прага працы, жаданне паспець сказаць, хоць акрэсліць абсяг задуманага і прадуманага.

«Сцежкаю месяца ходзяць у лета казулі», «дзесьці на сцежцы нясмела ціўкнуў сініцай лядок» — паўтараецца вобраз. Першая правадніца ў свет клопатаў і чаканняў, яна хатняя, свойская:

Штодзень уранку летам,
Ледзь-ледзь пачне світаць,
Бяжыць сцяжынка з дому
Па лесе пагуляць.

Яна заўсёды знае,
Дзе ягады растуць,
Дзе перайсці па кладцы,
Балотца абагнуць.

А толькі звечарэе,
І стане цёмна зноў,
У лесе не заблудзіць
І прыбяжыць дамоў.

Гэтая сцяжынка і прыбегла ў спаленую вёску, дзе «...палі прыстані — Абгарэлыя каміны Трымаюць памяць вайны». Сцяжынка памяці, сцяжынка крэўнасці з роднымі мясцінамі не парывалася праз усё нядоўгае жыццё паэта.

Праца і толькі праца гаіла памяць, а памяць у сваю чаргу працу жывіла. Апошнія гады, калі Генадзь Кляўко

пасля сакратарства ў «Вожыку» працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» неабходна-звычным было мне чуць па тэлефоне ранішні голас паэта, у якім хрыпавата-аглухла ад доўгага начнога маўчання, ад маўклівага заклінання радка бяссоннем гучала стома і радаванне плёну. Пісаў шмат, пісаў па-майстэрску стала, так, як пішуць, развітваючыся, калі мала часу, а сказаць трэба багата.

А сцяжына дапытлівасці, жаданне ўбачыць новыя мясціны, далёкія і незнаёмыя, каб даражэйшыя ды балючэйшыя родныя сталі, клікала ў свет. Гэтая сцяжына і завяла Генадзя, Уладзіміра Караткевіча і мяне, трох адназастольнікаў, на бераг Ціхага акіяна, у горы Сіхотэ-Аліня і ў фадзееўскую з не прыручанай яшчэ тайгой Чугуеўку. Пасля Уладзімір Караткевіч напіша «Чазенію», а Генадзь успомніць, як у акіяне

Гайдае,
        люляе
                сейнер,
Паветра ловіць рука...
Як быццам на возе сена
Праз луг,
        па мяккіх валках.

Сейнер нагадаў паэту той «воз аж да нябёс», дзе ўзятак лета везлі двое і дзе

Бяроза, ўскубшы сена жмут,
Ад смеху аж затрэслася.

Сейнер у акіяне і воз сена з вёскі Варонічы сустрэліся. І ў Варонічах, дзе нарадзіўся будучы паэт, пашанцавала мне разам з Генадзем быць на вяселлі ў ягонага пляменніка. Яшчэ мацней, чым сейнер, гайдала нас з нетрывалымі бартамі трохтонка па лугавіне, усіх гасцей забраўшы разам са смехам, песнямі, жартамі, нават скокамі. І сыпалі за сталом, калі адарвалі маладых, і звонкую манету, і яшчэ званчэйшыя словы: «Дару кучу медзі, каб сыны былі, як мядзведзі. Дару бульбы падполле, каб было дзяцей застолле...» А на раніцу, нашчачыся і расолам, і не толькі ім, пачулі мы з Генадзем ад ягонай цёткі Надзі — былой партызанскай сувязной вясёлую, крамянейшую за тыя гуркі, якімі мы снедалі, песню —

Ад панядзелка да панядзелка
Смачна п'ецца нам гарэлка.

Увесь тыдзень песня па-гаспадарску разабрала. Дасціпна, з гумарам. Пасля гэтую песню прывезлі ў Мінск, і пайшла яна гаспадарыць у застоллях. Нават у «Паэтычны слоўнік» Вячаслава Рагойшы трапіла як узор.

Іскрыстае, з гумарынкай, з хітрынкай слова было па натуры Генадзю. Гумар ягоны быў натуральны, з народных крыніц зачэрпнуты, з ведання побыту і характараў людскіх узяты.

У блакноце з грыфам уладзівастоцкай газеты, дзе стажыраваліся мы ў 1965 годзе, на першай старонцы вокладкі рукой Генадзя напісана мне прысвячэнне:

Павер мне, дружа, верыць я пачаў:
На свеце не адзін, а два багі.
Бо столькі год нас першы разлучаў,
Навекі пазнаёміў нас — другі.

Другім быў бог паэзіі, бяседы, застолля, вандровак, спрэчак і згод — у адной асобе, шматаблічны. Бо сам Генадзь Кляўко быў шчыра і да безабароннай наіўнасці аддадзены паэзіі. Ён быў гасцінным і шчодрым гаспадаром, які мог у любых умовах зрабіць стол, нібы разаслаўшы абрус самабраны. У вандроўках, у падарожжах ён выклікаў узаемны давер і прыязнасць. У спрэчках Генадзь як чалавек фізічна і духоўна надзелены здароўем быў спагадліва-разважлівым. У згодзе, у сяброўстве ён быў верны і далікатна ўважлівы.

Памятаю, як ён прыкідваў, каго запрашаць будзе на сваё пяцідзесяцігоддзе (сяброў меў багата — вялікі спіс бясконца цягнуўся), як ён хацеў жыць, бо пачынаў пісаць лепей і лепей. Але першы паўстагадовы юбілей адзначалі сябры і родныя Генадзя Якаўлевіча без яго (нарадзіўся ў 1932 годзе, а памёр — у 1979).

Гучалі вершы, песні. Успаміналі, шкадавалі, сумавалі. Радаваліся таму здабытку, што паспеў зрабіць паэт. Плакала жонка, плакаў бацька. Маці маўчала з сухімі вачыма — яна ўжо выплакала свае слёзы. І самі гучалі радкі верша Генадзя Кляўко «Добры чалавек»:

Ішоў — і ўпаў,
Навекі анямеў:
Сляпы пярун
ударыў рыкашэтам.
І чалавек, бадай, не зразумеў,
Што здарылася з гэтым светам.

Яго пагляд —
Успыхнуў і пагас.
Ні змроку,
ні святла ўжо больш не будзе...
Падумаў Чалавек у свой апошні час:
«А як жа людзі?..»

З турботнай думкай пра людзей, пра родны край жыў і працаваў шчодры руплівец Генадзь Кляўко. Чалавечная творчасць яго будзе яшчэ доўга зразумелая і патрэбная людзям.

*Рыгор Барадулін*



# Абветраныя даляглялы

*(1962)*

## ЗАЦІШКІ РОСНЫЯ ПАЛЯН

Зацішкі росныя палян
Ніколі сонца не праспалі,—
Красу вясны ў сябе ўвабралі
Зацішкі росныя палян.
У час суровы, ў дні вайны
Тут ракаталі грозна сосны,
Сваіх братоў хавалі сёстры
У час суровы, ў дні вайны.
Яны навек тут засталіся,
Каб смерцю смерць перамагчы,—
Красу зацішкаў берагчы
Яны навек тут засталіся.
І ў лесе —
мір і цішыня,
Якіх так праглі партызаны.
Паслухай вечарам ці рана:
У лесе —
мір і цішыня.

Зацішкі росныя палян
Спавіты ранішнім спакоем...
Не, нездарма грымелі боем
Зацішкі росныя палян!..

## ТОМ ЛЕНІНА

Вось Леніна чырвоны том.
Жывым святлом
Гарадь радкі у томе.
Я гэты том
Прынёс сягоння ў дом —
Адразу пасвятлела ў доме.

## ВЯСЕЛЬНЫ КАРАВАЙ

Узыходзіў ясны
месяц над зямлёй...
Трактарыст дзяўчыне
гаварыў сваёй:

— Падару табе я
светлую зару,
Гэты ж месяц сёння
ў полі заару.

Каб не зваў за вёску
ноччу цябе ён,
Каб спакойным, светлым
быў дзявочы сон.

Каб сцяжынкі зніклі
ў цемені начной,

Што вядуць да хаты
    і душы тваёй.

Па загонах трактар
    ходзіць — не суняць...
На плугах адбіткі
    месяца гараць.

Чорныя, як хмары,
    сцелюцца пласты
І ў раллю хаваюць
    месяц залаты.

Раніцай дзяўчына
    глянула ў акно —
Месяца на ясным
    небе не відно.

Дзе араў хлапчына
    поле за ракой,
Там пшаніца хутка
    вырасце сцяной.

На сцяблінах моцных,
    быццам на руках,
Жмені зерня ўзніме
    ў буйных каласах.

Прымуць з рук тых людзі
    восенню ўраджай,
Выпекуць к вяселлю
    белы каравай.

Віншаваць са шчасцем
    пойдуць маладых,

Каравай пшанічны
панясуць да іх.

І на стол паложаць
ясны месяц той,
Што хлапчына ў полі
зааpaў вясной.

## МАТЧЫН АГАРОДЧЫК

На зямлі куточак запаветны,
Родны, ўтульны матчын агародчык...
Хоць нічым між іншых не прыкметны —
Часта сыну сніцца ён уночы.

Як пачую: макаўкі зазвоняць —
І палоніць сэрца шлях далёкі...
Цераз плот шурпатую далоню
Мне падасць гарбуз ружовашчокі.

Семкамі сланечнік пачастуе,
Што на скавародцы лета пражыў.
Маці тут усё мне расталкуе,
Агарод да каліўца пакажа.

Пахнуць градкі кменам і чарнушкай,
Памідоры — проста дзіву дацца:
Падвязаўся кожны куст істужкай,
Быццам ён звярэдзіўся у працы.

Спрытны хмель на дах палез па сценах,
Свой зялёны дрот віе ў спіралі.
Ён барзджэй нацягвае антэны —
Ловіць з даляў восеньскія хвалі.

Кветкі прытуліліся да тыну,
Як дзяўчат цікаўныя чародкі.
Пэўна, будзяць матчыны ўспаміны
Пра былых сяброўак-аднагодкаў.

Зноў тады бярэ яе дакука,
Што таварыш мой даўно жанаты,
Што пара ўжо няньчыць ёй унукаў,
Ім было б ласункаў тут багата!

І частуе хлапчукоў суседніх,
А сама прагледзела ўсе вочы...
Матчыных спадзеваў запаведнік —
У асеннім цвеце агародчык.

## АБВЕТРАНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ

Я люблю пазіраць, як раніцай
Сонца ўсім раздае нарад,
У празрыстай расе купаецца,
Белым воблачкам уціраецца,
Аглядае свой далягляд.

На двары ж — раскашуе верасень.
З яго ветрам я заадно
Далягляды свае праверу ўсе,
Мо забыў што на ўзлеску ў верасе,
Калі бегаў там басанож?..

Атрымаўшы нарад нялёгкі свой,
Паспяшаю-лячу ў бары.
Чую, рэха маё галёкае...
І сягоння яно, далёкае,
Адбіваецца на пяры.

Вецер крочыць у замець пожняю,
Трэба ў лес мне за ім паспець,
Зазірнуць там пад хвою кожную,
Мо зямлянка дзе ёсць парожняя
Ці касцёр, каб радок сагрэць?

А на крылах гаючых ліпеня
Я ў сваё завярну сяло.
Трэба мне пустазелле выпалаць
І хутчэй тое зерне выспеліць,
Што для радасці прарасло.

Крылы ветру заўжды патрэбны мне,
Каб не змог запыніць спакой.
З даляглядамі, што абветраны,
Я здружыўся не кіламетрамі,
А ўсім сэрцам, усёй душой.

## ДАРАГІЯ КРОПЛІ

Ад спёкі жураў і гарэў
Засмяглы ліст таполі.
Дажджу ж хмурынка, як на грэх,
Прынесла у прыполе.

Далонь падставіў кожны ліст,
Ды сціхла ўраз стыхія.
І смаглі ўнізе на галлі
Лісты зусім сухія.

Тут раптам зноў пачуўся звон...
Лістам, што не намоклі,
Сябры з далоні на далонь
Перадавалі кроплі.

Пад дрэвам стоячы сівым,
Я слухаў і дзівіўся,
Як скарбам самым дарагім
Лісток з лістком дзяліўся.

## МОЙ КЛОПАТ

І шэсць мацерыкоў — не воз...
З дугой-вясёлкай фарбаў
Зямля ў сусвеце, як абоз,
З усім рухомым скарбам.

Ды дзесьці зноўку для вайны
Няспынна грузы грузяць.
Кладуцца каменем яны
Усёй зямлі на грудзі.

Яна, здаецца, не сцярпіць,
Цяжару не ўтрымае...
Я нават чую, як рыпіць
І гнецца вось зямная.

І клопат мой — дапамагчы
Зямлі ў вялікай справе:
Перакаваць хутчэй мячы
На кельмы і аралы,

Каб толькі — мір быў для людзей
І — перапёлкі ў жыце...
І стане ўсёй зямлі лягчэй
Каціцца па арбіце.

## ВЕЧНЫ КАСЦЁР

Помнік, што ўзняўся да зор,
Парой нагадае былое...
Не гасне тут вечны касцёр
Між вечназялёных хвоек.

Верныя доўгу свайму,
Сябры, ідучы на заданне,
Здубелыя рукі яму
Працягвалі на развітанне.

Ён доўга з-за хвой сачыў
Прыжмураным, цёплым вокам...
Знікалі ў цемры начы
Паджураныя ватоўкі.

Касцёр то ярчэў, то чэз...
Сябры, што разам хадзілі,
Змахнуўшы слязу з вачэй,
Ядлоўцавы дым вінілі...

Заўсёды з тых даўніх пор —
Ці ноч, ці настане ранне —
Гарыць, не згасае касцёр:
Сябры не прыйшлі з задання.

* * *

К нам перажытае прыходзіць на ўспамін...
І ў памяці не сцерці час далёкі:
Зямлянкі ў лесе, плот з жывых хваін,
Што ад варожага маскіравалі вока.
Гады пакут ў былое адплылі.
Зямлянкі след даўно зарос травою,
Вянкамі ў зрубы новыя ляглі
Смалістыя, разважыстыя хвоі.

Хоць шмат прайшло з памянутых часін,
Хоць выгляд краю роднага змяніўся,—
Ніколі не забудзеш тых мясцін,
Дзе ненавідзець ворага вучыўся.

## ЗІМОЮ Ў ЛУЗЕ

Скача ветрык ціха
Па галлі куста,
Як чаўнок ткачыхі,—
Некалі й прыстаць.

Хоць вятры бушуюць,
Іх пара міне.
Новую кашулю
Зноў куст апране.

## НЕЎМІРУЧАЯ БАЛАДА

Яе называюць баладай —
Скульптуру дзяўчыны з Палесся.
Былі ў яе вочы, як неба,
І звалі дзяўчыну — Алеся.

У вайну на чужыне далёкай
Сустрэў яе скульптар.
Быў рады.
Жадаў з паланянкі ён гордай
Стварыць пра бяссмерце баладу.

Дзяўчыну забраў ён з няволі,
Сказаў, што ўратуе ад смерці,

Што з каменя зробіць ёй рукі,
І ногі, і вочы, і сэрца...

— Ды рукі, скажыце, нашто мне,
Калі тыя рукі не змогуць
Для любай, для мілай Радзімы
Зрабіць ужо болей нічога?..

Таксама скажыце, навошта
Патрэбны мне гэткія ногі?
Каб толькі яны абівалі
Заўсёды чужыя парогі?..

У грудзях каменнае сэрца...
Навошта мне гэткае сэрца,
Калі на чужыне далёкай
Яму давядзецца памерці?..

А вочы... Навошта мне вочы?
Яны мне таксама не трэба.
Ніколі ўжо болей не ўбачыць
Ім роднага неба.

Дзяўчына адказвала гэтак.
Тым часам яна камянела.
І сэрца, і рукі, і ногі —
Каменнае стала ўсё цела.

А вочы...
Дзявочыя вочы...
Яны засталіся жывымі,
У іх — невыказная скарга
І сум па Радзіме.

# ЗГУБІЎСЯ ХЛАПЧУК

Мо вам давялося чуць
Ці, выпадкова, бачыць?
У горадзе дзесьці хлапчук
Згубіўся і, пэўна, плача.

Мо сорам яму запытаць,
Як дайсці да вакзала?
Будзе ён доўга блукаць
Па гарадскіх кварталах.

Сэрца яго апякае боль:
Дома і плачуць, і клічуць...
Не, ён не ўбачыць больш
Маленькіх сваіх сястрычак.

І думкам тут волю дасць.
Такія, вядома, дзеці!
Горад пачне разглядаць,
Забыўшы пра ўсё на свеце.

Дзе помнік на плошчы старой
Узняўся пад неба пікай,
Уявіць, што ён герой
Ці нават пясняр вялікі.

Што шлях яго быў цяжкі,
Змераў свет пехатою,
Што ён,— быццам Горкі, які
Рос між людзей сіратою.

І вось ён вяртаецца ў дом,
Да родных сваіх і блізкіх...
Няўжо што здарылася з хлапчуком?..
Няўжо заблудзіўся ў Мінску?..

Не будзем, сябры, пацець
І строіць замнога згадак.
...Проста я ўспомніць хацеў
З дзяцінства свайго выпадак.

## ВОЗЕРА ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

Ля берага вецер калмаціць
Густую чупрыну трысця.
Спіць возера чутка, як маці,
Што чуе спрасонку дзіця.

У час гэты возеру сніцца,
Як чорнай навалаю хмар
Інакшыя тут навальніцы
Увесь засланялі абшар.

Раскажуць у вёсках і сёння,
Хоць многа мінула ўжо год,
Як тут, у затоках азёрных,
Знаходзіў прытулак народ.

Ад грукату блізкіх грымотаў
Змаўкалі кулік і дзяркач.
Праз ноч усю чуўся ў чаротах
Дзяцей напалоханых плач.

І возера іх суцяшала,—
Не спала зусім давідна,—
На хвалях нястомна гайдала
Ў драўляных рыбацкіх чаўнах.

Той час адышоў назаўсёды,
А возеру сніцца адно...

Прыслухайся — ў час непагоды
Глыбока ўздыхае яно;

Маланка пачне толькі бліскаць,
Здалёку грымоты чутны,—
На хвалях, нібыта калыскі,
Пустыя калыша чаўны.

* * *

Незнаёмая вёска...
А ўсё тут да болю знаёма —
Мо па рысах, што змалку
У сэрца ўвабраў назаўжды:
І па гучнай гамонцы,
І ціхай вячоркавай стоме,
І па тым, як запахне
Цыбуляй падсмажанай дым.
Не заходзячы ў хату,
Ты ведаеш добра наперад,
Як цябе тут прывецяць
І шчыра запросяць к сталу.
Твайму кожнаму слову
Тут людзі заўсёды паверацць,
Раніцою ж навіны ўсе
Будуць вядомы сялу.
Правядуць, нібы госця,
Пакажуць сцяжынку на грэблю
І раскажуць, як выйсці
Прасцей і найлепш да шашы.
І хоць ведаеш добра,
Што дзякуй ім твой не патрэбны,
Скажаш дзякуй вялікае
Ім ад сыноўняй душы.

## СНЕГ НА ДОСВІТКУ

Яшчэ не дымяць каміны,
А ўжо завіхаецца неба,
Як быццам яму на бліны
Насеяць пытлёўкі трэба.

То з левай, то з правай рукі
Падсітак трасе старанна.
Ў палях, нібы горкі мукі,
Белыя скрозь курганы.

## ШЧАСЦЕ

1

Вокал нас, між нас схавана шчасце...
Як жа на ягоны след напасці?

Маладыя, у жытное вы ідзіце,
Толькі лішніх сцежак не рабіце.
Здарыцца ж: няма, здаецца, выйсця,—
Сябар сябру шчыра памажыце
І ажно да ста гадоў у жыце
Сцежкі сваёй вернасці тапчыце.
Вечна яны злучаны з дарогай,
Дзе людскога шчасця гэтак многа.

2

Давядзецца існі вам сцяжынай
Над крутою, бяздоннай цяснінай,—
Смела шчасцю насустрач ступайце
І прыкметы яго заўважайце:

Шчасця след на сцяжыне коўзкай —
Дапамога рукі сяброўскай;

След яго на зямлі —
баразна на загонах,
След яго на паперы —
радок натхнёны,
У жыцці яно след свой няспынна меціць
З кожным нумарам у партбілеце.

3

У зямлю угрызайцеся чорную,
Пакарайце яе, непакорную:
Маладыя такія нетры ў ёй,
Быццам сёння далі ёй метрыку;
Каб сляды засталіся глыбокія,
Тэрыконы сыпце высокія.
І падорыць здабыча спорная
Вам красу сваю непаўторную:
Самацветы, ў глыбінях схаваныя,—
Самацветы душы неспазнаныя.

## Я Ў СВОЙ ГАСЦІННЫ ГОРАД ЗАКАХАНЫ...

Я ў свой гасцінны горад закаханы.
Сюды ў любую завітай пару:
Самое сонца тут вітаюць краны,
Да неба ўзняўшы сотні дужых рук.

Пасля дажджу праспект спявае звонка,
З канца ў канец адбіткамі блішчыць.

Здаецца ён бясконцай кінаплёнкай,
Што разгарнулі к сонцу прасушыць.

Аўто турыстаў коцяцца па Мінску,
За кадрам кадр — пракручваюць шасе.
Маленькі здымак плошчы з абеліскам
Па свеце нашу славу пранясе.

А звечарэе — ў скверыку Купала,
Я знаю, на хвіліну не засне...
На горад неба зорнае апала,
І ён здаецца дзіўнай казкай мне.

І мусіш ты міжволі прыпыніцца
(Няхай зямляк ты ці замежны госць),
Зірнеш наўкруг,— на прыгажосць сталіцы,—
Людскую нашу ўбачыш прыгажосць.

## ДРУГУ НЕВЯДОМАМУ

Сёння дваццаць гадоў,
як расстаўся ты з домам.
Сёння дваццаць гадоў,
як ты стаў Невядомым,

Дык дазволь жа лічыць,
ад імя пакалення,
Дзень пачатку вайны
днём твайго нараджэння.

Пэўна, людзі цябе
гэтым імем назвалі,
Каб усе ў табе сына
свайго пазнавалі.

Час імкліва бяжыць...
З кожным днём, Невядомы,
Ты усюды становішся
людзям вядомы.

І ў сягонняшні дзень,
дзень тваіх імянінаў,
Я бліжэй да грудзей
прыгарну свайго сына.

## ПЦІЧ-РАКА

Нібыта думкі земляка,
За хваляй хвалю гонячы,
Ля роднай вёскі Пціч-рака
У свет плыве, гамонячы.

Каб дружба ўсіх сясцёр, братоў
Павек не разлучалася,
Яна вясёлкамі мастоў
Дарогі пазлучала ўсе.

А зброд
Не мог яе і ўброд
Усёй прайсці навалаю,—
Зрабіўся пікамі чарот,
Аер устаў кінжаламі.

Нат і цяпер прыгледзься ты:
З пары тае далёкае
Стаяць, як выбухі, кусты
Над тонямі, затокамі.

І каскі,
Што той зброд насіў,
На дне ў вірах валяюцца,
У іх сягоння карасі
Ад шчупакоў хаваюцца.

Гамоніць Пціч ва ўсёй красе.
І хвалі, быццам скібіны
Раллі,
Ўзаранай пад засеў
Любві бязмежнай сынавай.

З любоўю роўнім нездарма
Жывы зямны выток яе.
Ёй, як любві, канца няма,
Імкне яна, глыбокая.

Нібыта ў грудзі,
Ў берагі
Б'е пругкай хваляй, руліцца...
Ад роднай вёскі плынь ракі
Ніколі не адступіцца.

Усё аддадуць па дарозе,
Да кроплі апошняй.
Заплачуць па іх бярозы,
Травы і пожні.

* * *

Хмаркі вецер займае —
Пасвіць гоніць наранкі.
Пыл на шляху ўздымае,
Пяе на жывых берасцянках.

Куды ён пагоніць статак?
Пад лес або ў галу?..
Усюды пашы багатай
Ім будзе нямала.

На травах агнём гараць
Мірыяды расінак.
Хмары будуць збіраць
Росы з травінак.

Пугай маланка ўдарыць,
Гром ім пратрубіць рогам,—
Здабытак данесці хмары
Дахаты не змогуць.

## ДАРОГА ЎСПАМІНАЎ

Міма хат, шырокіх ніў, дзядзінцаў
Нас яна імгненна прывядзе
Да ўспамінаў горкіх аб дзяцінстве,
Аб вясне і першай лебядзе.
Альбо ўміг напомніць пра жаданні
І пра ўсё, аб чым ты марыў, сніў,
З чым усё жыццё сваё дазвання
Ты навекі моцна параднііў.
Яна пройдзе сцежкаю цярністай,
Што таптаў ты на сваім пуці,
Ды заўсёды будзе светлай, чыстай,
Хоць нямала зведана ў жыцці.
Мне не сорам гэткую дарогу
Мець з сабой заўсёды пра запас
І ў любой хаціне за парогам
Выкладжыць, як сэрца, напаказ.

* * *

Кусты крушыны маладой
Карэннем дол прашылі.
Жывою сочацца крывёй
Надрэзы на крушыне.

Так верш, набраклы пачуццём,
Жывым, усхваляваным...
Здаецца, закрані лязом,—
І пырсне кроў, як з раны.

* * *

Гэтак разгаворымся, бывае:
— Бульба з агурком!.. А ты забыў?..
І наперабой успамінаем,
Што ў дзяцінстве кожны з нас любіў.

І здаецца, зараз у паветры —
Пара клубам, нос казыча пах,
Вочкамі падміргвае прыветна
Бульба, звараная «ў мундзірах».

І заўзята чысцім мы лушпіны
З накіпам на полымі-агні...
Набягаюць гэткія ўспаміны,
Што хоць зараз слінку праглыні.

І з размовы, бачу,
Прамяніста
Вочкамі ўсміхаецца здаля
Нашае бульбянае дзяцінства
У старых, па пяты, шынялях.

## БЯРОЗА ДЗЯЎЧЫНУ УСПОМНІЦЬ

Дзяўчына маўчала зацята...
І ў поўнач яе да бярозы
Прыгналі фашысцкія каты,
Раздзелі на лютым марозе.

Пакрыліся інеем вейкі,
Мароз адабраў усе сілы.
І мужнае сэрца навекі
У грудзях дзявочых застыла.

За гэтыя здзекі і мукі
Бяроза адпомсціць хацела,
Ды сцюжа скавала ёй рукі —
Галіны павіслі знямела.

Цяпер, у марозную поўнач,
Як інеем толькі павее,
Бяроза дзяўчыну успомніць,
Успомніць — і ўся пасівее.

## ЛЯ МАГІЛЫ ГЕРОЯЎ НА ВЯРШЫНІ АЙ-ПЕТРЫ

Дзесьці ўнізе Ялта пад гарою
Мірна спіць пад песню шумных вод.
Мы ж стаім ля помніка героям,
Каб сустрэць з вяршыні сонца ўсход.

Раптам, як са дна марскіх глыбіняў,
Выплыў куль праменнага святла...

Змрок над Ялтай быў яшчэ ў нізіне,
Даль смугой спавітая была.

А праменні водбліскам чырвоным
Тут ужо на абеліск ляглі,
Каб жывыя літары імёнаў
Мы перш-наперш прачытаць маглі.

## ТРЫПУТНІК

Пылок курыцца пад нагамі,
Трашчыць, гаркавы, на зубах...
Ды люб над роднымі шляхамі
І гэты пыл, і жытні пах.

Навекі ў край свой улюбёны,
Ты ўволю гэты пыл глытаў
І ўзбоч дарог дзірван зялёны
Нагамі босымі таптаў.

Там ёсць трава, што гоіць раны,
Як прыдарожны чарадзей.
Яна трыпутнікам названа
З часоў далёкіх між людзей.

Яго ў старонцы нашай многа.
Расце ён толькі з веку ў век
Там, дзе пракладвае дарогу
У свет нястомны чалавек.

## КАМЕНЬ У ПАДМУРАК

Трымае ён падрубы,
Маўчыць, як чалавек.
На ім нямала зрубаў
Свой выстаялі век.

У зямлю па пахі ўехаў,
Маршчыны на ілбе.
Відаць, не шмат уцехі
Ён зведаў на сабе.

Хадзіў, блукаў мо недзе
Сівы, далёкі дзед
І камень той нагледзеў,
Аблюбаваў як след.

Хацеў пад зрубам камень
Такі ён палажыць,
Каб праўнук тут вякамі
Мог будавацца, жыць.

Я ж родны дом пакінуў.
Свой шлях сягоння ў нас!..
Сюды ж мо на хвіліну
Заеду ў вольны час.

Няўрымслівых унукаў,
Мой дзед, не дакарай.
Сябруючы з навукай,
Будуем родны край.

Такі сягоння камень
Пад зрубам мы кладзём,
Каб дом стаяў вякамі,
З усёй зямлі відзён.

## ПОЗНЯЙ ВОСЕННЮ

Вецер, як гаспадыня,
Што чакае гасцей,
То смецце, то лісце ўздыме,—
Рупна хату мяце.

З веніка дождж цярусіць
І палівае дол.
Заўтра зіма ўжо, мусіць,
Абрусам накрые стол.

## РАЗВІТАННЕ

Адзвінела песня развітання
Каля школы у апошні раз.
Ты навек запомні гэта ранне,
Нашага юнацтва светлы час!

Мы ідзём сцяжынкаю дадому,
Ты рукой кранаеш каласы...
А над полем, змалку нам знаёмым,
Жаўрукі спрабуюць галасы.

Доўга мы чакалі дня такога,
Калі з першым ранні́м цягніком
У паход пакліча нас дарога
Ад сцяжынкі гэтай за сялом.

А цяпер паслухай, як уранні
Над зямлёй праносяцца гудкі —
Гэта клічуць нас на развітанні
У дарогу нашы цягнікі.



Ім страшна адным сярод ночы,
Анюцінным кветкам ля гаю.
Далоньмі-пялёсткамі вочы
Да рання яны закрываюць.

А раніцай сонца купаецца,
З кветак раса асыпаецца...
І людзям здаецца, няйначай,
Кветкі ад радасці плачуць.

## ДАРОГА ДАДОМУ

Дарога дадому,
Між родных палёў,
Мне любая шумам
Высокіх жытоў.

Тут колас шчаслівую
Песню пяе,
На ветры калышучы
Зерні свае.

Жняяркі застылі
З узнятым крылом.
І сонца не хоча
Плысці над сялом.

Вятрак з-за узгорка
Махне вось рукой,—
І зерне няспыннай
Пальецца ракой.

І вырвецца песня
Сама на разлог,
Якую так доўга
Знайсці ты не мог.

## МАТУЛЯ ДА СЫНА ПРЫЕХАЛА...

Здаецца, нядаўна, здаецца, учора
Ён быў яе любкай, уцехаю.
А сёння старая матуля у горад
Пажыць да сыночка прыехала.

Сыночак, як лялька, сыночак што трэба,
Матулі б ім толькі і цешыцца.
Ды вырас, як кажуць, пад самае неба...
(Аб рыфму язык так і чэшацца.)

Хоць часам сціскаецца сэрца матулі,
Ды з думак благое ўсё гонячы,
Маленькага ўнука і песціць, і туліць,
Пра штось з ім няспынна гамонячы.

Малы ж, пасля працы бацькоў як убачыць,
Штось бабчынай мовай ляпеча ім.
Тут тата адразу сыночку зазначыць,
Маўляў, сваю мову засмечваеш.

А здарыцца: суп ці там боршч недасолен,
Не скажа па-шчыраму ў вочы ёй.
А ўсё штось капыліцца, ўсё нездаволен,
Ад міскі свой нос адварочвае.

Сыночку ж нязвыкла, сыночку аж смешна,—
Якая з матулі кухарка тут? —

Пюрэ — ў яе каша, амлет — дык яешня,
І нат эскалоп заве скваркаю.

Другія вунь маці пра новую моду
Вам выступяць з цэлай прамоваю.
Яна ж вечна з хусткаю пад падбародак,
І ўсе ў яе звычкі вясковыя.

Няйначай, душа ў сына чэрстваю стала,
Забыўся пра ласку ён матчыну.
А колькі ж матуля начэй недаспала,
Каб век ён не знаўся з нястачаю!

— Ідзіце, мо разам што выпіце, з'ешце,—
Свой такт пры гасцях ён паказвае.
— Нічога, сыночак, я потым, нарэшце,—
Гаворыць матуля ў адказ яму.

На покуце ж месца пачэснае — скону,
Спрадвеку належыць па праву ёй.
Дык хай жа няпісаным будзе законам
Святое вось гэтае правіла!

## ХЛОПЕЦ З ВЯЛІКАЙ БУДОЎЛІ

Прыехаў хлопец з будоўлі
Да даўніх сваіх сяброў,
З якімі вучыўся ў школе,
Марыў пад шум дуброў.

Сябры абступілі шчыльна,
Не зводзяць з яго вачэй.

І кожны з іх хоча шчыра
Здзівіць навіной хутчэй.

— Пасля ўсё агледзім пільна,
Цяпер жа — гайда ў кіно:
Ў глушы ты такога фільма,
Бадай, не глядзеў даўно.

Збянтэжаны, ён тлумачыў:
— Хапала ўсялякіх спраў...
— Ты там, браток, няйначай,
Зусім ад жыцця адстаў...

І кпілі сябры па школе,
Не зналі яны той парой:
Быў хлопец з вялікай будоўлі —
Фільма галоўны герой.

## КАЛІ З-ЗА ЎЗГОРКА...

Калі з-за ўзгорка ясна ўбачыш
У зеляніне гурбы хат
І сэрца радасна адзначыць,
Што да сустрэчы ўжо няшмат;

Калі пачуеш пах мядовы
Вясной успененых садоў
І адгукнецца гул вясновы
У далях рэхам трактароў;

Калі павее ў твар з аселіц
Смалістай, свежаю сасной,
Дзе не адно ўжо наваселле
Згулялі дружнаю сям'ёй,—

У грудзях стане сэрцу цесна.
Вось хутка хата і парог...
Сустрэчу гэтую, як песню,
Ў душы выношваў і бярог.

## ВЯСНА Ў КОСМАСЕ

Сягоння май не мае сну.
Па-над зямлёй абветранай,
Як лук, вясёлку нацягнуў
І ўвысь пульнуў ракету ён.

І спадарожнік каля зор,
У той касмічнай далечы.
Звініць, шуміць на ўвесь прастор,
Зямлі сваёй сігналячы.

І ў небе май, зялёны май...
Здаецца нат часінаю,
Што там звініць зялёны гай
І песня салаўіная.

І, пэўна, некалі вясной,
Ад воч людскіх схаваныя,
Ў ім змогуць дзесьці над зямлёй
Сустрэцца закаханыя.

І каб не траціць марна час,
Не разлучацца з любымі,
Там на самой Венеры загс
Аформіць хутка шлюбы ім.

А Млечны Шлях сыпне да ног
На шчасце зоры-зерні ўсе...

І праз сто год на свой парог
З іх кожны юным вернецца.

Унукі будуць сустракаць
Іх радаснымі весткамі.
На касмадроме віншаваць
З касмічнымі нявестамі.

Па нашай звычцы па зямной
Раскажуць, як жылося ім...
Спявае ў лад з людской вясной
Вясна ў далёкім космасе.

## ШЧЫРАСЦЬ ТВАІХ СЛОЎ

Хоць пралескі на палянах
Не цвітуць яшчэ,
Зацвілі яны ўжо ў сэрцы
Ад тваіх вачэй.

Хоць не чуць яшчэ павеву
Веснавых вятроў,
Ды сагрэла маё сэрца
Шчырасць тваіх слоў.

## АГНІ ДРУЖБЫ

Ужо год, як закончыла
Ты інстытут,
Ужо год, як цябе
Не відаць было тут.

Ты сваe запаліла ўжо
Зоры кругом —
Над ракой, над шляхамі,
Над родным сялом.

Хоць даўно прамінулі
Сустрэч нашых дні,
У тых зорах гарацъ
Нашай дружбы агні.

Хутка еду і я
У калгас працаваць.
Будуць зоры мае
Над ракою палаць.

Пасля доўгай разлукі
Вячэрняй парой
Прывітанне пашлю табе
Яснай зарой.

Ты адкажаш мне тым жа...
І хто будзе знаць,
Што адзіным святлом
Нашы сэрцы гараць.

## ПАХ ЧАРОМХІ ВЁСКУ НАПАІЎ

Пах чаромхі вёску напаіў.
І чуваць з адчыненых акон,
Як дзівосна сёння салаўі
Заспявалі песні у гаі,—
Проста не бярэ нікога сон.

Пэўна, кожны думае сваё...
І кагось настрой апанаваў:
Каб не напалохаць салаўёў,
Песню склаў ён з самых шчырых слоў
І за ўсіх ціхутка заспяваў:

«Спі спакойна, любая мая,
Хай цвітуць чаромхай твае сны.
Аб каханні нашым песні я
Навучуся пець у салаўя,
Каб не быць ніколі без вясны».

## ЖЫТНЁВЫЯ СЦЕЖКІ

Разбегліся ў полі
Жытнёвыя сцежкі...
— Ці стрэну тут болей
Я любую ўсмешкай,
Што ў радасны час той,
Як светлага рання,
Чакаў гэтак часта
Сюды на спатканне?

— Не стрэнеш, любімы...—
Жытнёвыя хвалі,
Праходзячы міма,
Мне ціха шапталі.—
У грозным змаганні
З варожай навалай
Тут куля дзяўчыну
Навек пакахала.

Зноў сонца над краем
Сяўню сваю носіць,

Зноў вецер гуляе
У спелых калоссях,
Зноў друга усмешкай
Каханая дорыць.
...Маўклівыя сцежкі
Аб многім гавораць.

## НЁМАН І ЛОША

Быў Нёман — прыгожы хлапчына,
Ён з Лошай каханаю цёк,
Узяўшы пад ціхай ляшчынай
Жывучы крынічны выток.

Плылі па зялёным прасторы
Суладна і спеўна ўдваіх,
У іх заглядаліся зоры,
Каханню зайздросцячы іх.

А вербы расчэсвалі косы,
Іх гоман пачуўшы здалёк.
І падалі звонкія росы
З галінак у той ручаёк.

І вось на змярканні аднойчы
Яны прыляглі адпачыць.
І Лоша рашыла той ноччу
Адна ад яго уцячы.

Драмаў яшчэ Нёман спакойна,
Устала яна давідна
І, ўбок скіраваўшы, павольна
Пабегла лугамі адна.

Пабегла між вербаў пахілых
Ціхутка па гладкім жвіры,
Абходзячы ўзгоркі і схілы,
Груды і крутыя яры.

А Нёман, прачнуўшыся ўранку,
Над гаем ледзь сонца ўзышло,
Гукаць стаў і клікаць каханку,
Ды побач яе не было.

І Нёман праз долы і горы
Пабег на шырокі прасцяг,
Дзе лугам квяцістым, дзе борам,
Наўпрост прабіваючы шлях.

Ніякая тут перашкода
Яго прыпыніць не магла:
Наперад бурлівыя воды
Нястрымная сіла вяла.

І шчасце навек сваё Нёман
У гэтым імкненні знайшоў.
А Лоша — малой, невядомай
Рачулкай плыве з тых часоў.

## ЖЫТА КРАСУЕ

Мне помніцца: жыта на сонцы красуе,
Хмаркай нясецца пылок...
Хлопчык цікаўны, у шапцы нясу я
Зялёны жывы каласок.

Як толькі сцяжынку між жыта прайду я
І змусіць ён там расцвісці,

Дык спраўдзіцца некалі ўсё, што задумаў,
Чаго пажадаў у жыцці.

Сягоння ж, у поле звярнуўшы з гасцінца
(Напэўна, па звычцы старой),
Па вузкай, знаёмай з маленства сцяжынцы
Я сталаю крочу хадой.

А жыта красуе, а жыта красуе,
Каб потым наўсцяж палавець!..
Калісьці задумаў вось гэту красу я
У песні няхітрай апець.

Жывы каласок я зрываю ізноўку
І ў шапку кладу за брылёк.
Сцяжынка віецца далёка-далёка...
Карціць, ці зацвіў каласок?

## БАЛАДА ПРА КАХАННЕ

За вёскай, дзе ў свет разгарнуўся сувой
Дарогі нязнанай, вялікае,
Юнак развітаўся з дзяўчынай сваёй —
Радзіма ў паход яго клікала.

— Каханне табе я сваё аддаю,—
Сказала дзяўчына каханаму,—
Няхай яно сілу дае і маю,
Як будзеш біць зграю паганую.

А здарыцца што на шляху на тваім
І будзеш ты горам засмучаны,
Успомні тады аб каханні маім,
Што з сэрцам навекі заручана.

Ці быў у паходзе далёкім юнак,
Ці ў бітву хадзіў ён на ворага,
Ніколі ні смагі, ні стомы не знаў,—
Каханне наперад вяло яго.

Ды куля ліхая ў няроўным баі
Юначыя грудзі параніла.
Упаў ён на кветкі, што буйна цвілі,
На росы гаючыя раннія.

І ў краі далёкім між стэпавых траў
Каханне дзявочае ўспомніў ён...
І помста, з якою паранены ўпаў,
Зноў сілаю грудзі напоўніла.

З сябрамі сваімі зноў стаў ён у строй,
Зноў нішчыў ён зграю варожую,
Дамоў жа вярнуўся — з дзяўчынай сваёй
Садамі зямлю ўсю ўпрыгожылі.

Каханне з тых пор яшчэ больш расцвіло,
І стала яно неўміручае,
Бо сэрцаў дзявочых, напэўна, было
Не менш як паўсвета заручана.

* * *

Са звонкім смехам ручаіны
Імчалі, радасць несучы,
Свой смех пазычыўшы ў дзяўчыны
Пад ціхім клёнам уначы.

А вецер той, што неахвоча
Галінкі стылыя лічыў,

Падслухаў шэпт яе дзявочы —
З сабой забраў удалячынь.

Той смех і шэпт увесь, няйначай,
Тады ўзяла з сабой вясна.
Перад душой маёй юначай
Заўжды ў даўгу была яна.

## ВЕЗЛІ СЕНА ДВОЕ...

Накладзен воз аж да нябёс
І рублем добра ўціснуты.
Для вараных — пушынка воз,
Адно ім толькі свісні ты.

Воз — здрыгануўся, кракгануў,
Паплыў зялёным воблакам...
Хлапец дзяўчыну прыгарнуў,
Дваім наверсе добра так!

На небе копы хтось растрос,
Як луг, яно аздоблена...
Дарога ж — скрозь паміж бяроз,
Дарога ўся ў калдобінах.

І воз — набок раптоўна тут.
Эх, што за ліха стрэслася!..
Бяроза, ўскубшы сена жмут,
Ад смеху аж затрэслася.



# Сто крокаў

*(1967)*

* * *

Праўда, мусіць, баліць траве,
Калі яе рана косяць?
Краскі ў валках,
галава к галаве,
Слёзы пракосы росяць.
Праўда, мусіць, баліць дубам,
Калі ўвап'юцца сякеры?..
Застогнуць,
на рукі ўпадуць сябрам,
Не хочуць у смерць паверыць.
Праўда, мусіць, баліць зямлі,
Калі аруць яе міны?..
Бо дзірванеюць палі,
Зярняты гінуць.
...Не знаю, ці праўда твая,
Ды рад, што ты гэткі зроду,
Што, друг мой, табе ўдвая
Іх раны баляць заўсёды.

* * *

Сэрца — кулачок маленькі.
Нават не чуваць з-за тонкай сценкі.

А ўзбунтуецца — такую сілу мае,
Што ніхто на свеце не стрымае
Сэрца — кулачок маленькі,
Што ў грудзях жыве за тонкай сценкай.

Пад цяжарам кулакоў не здасца
І пакорна толькі ціхай ласцы.

* * *

Толькі сынок прачнуўся —
Свет за акном адгукнуўся:

Спевам раннім птушыным,
Звонам гарачых расінак,

Шумам травінак чуйных,
Граннем нябачных струнаў...

Пэўна, са шчырым смехам
Дружыць гэтае рэха,

Бо й без зялёнага бору
Смеху дзівосна ўторыць.

## ПЧАЛА

Яблыня
белая,
белая,
белая.
Медным званочкам
у кветачцы
звоніць пчала,
Праменні і водар
злучае ў адзінае цэлае,
Злучае з зямлёю
крыніцу святла і цяпла.
За лета ёй роднаю
стане галінка тут кожная.
А ўвосень,
здзівіўшыся працы сваёй,
Над яблыкам будзе
кружыцца яна
спадарожнікам
І прызямліцца
на мяккай далоні маёй.

## Я ПРЫЙШОЎ У ТОЙ ДОМ...

Я прыйшоў у той дом,
Дзе гарачыя пахнуць аладкі,
Я прыйшоў у той дом —
Захацелася матчынай ласкі.

Захацелася мне
На хвіліну назад азірнуцца
І з узгорка гадоў
У дзяцінства на хвілю вярнуцца.

Я прыйшоў у той дом —
Ён стаіць пасярэдзіне саду.
Я прыйшоў у той дом,
Што ў вайну быў разбіты снарадам.

Вось на ганак ступіў
У кароценькіх штоніках шэрых
І дзіцячай рукой
Адчыняю рыпучыя дзверы.

Мне ўсміхаюцца ў доме
І печка,
і вокны,
і сцены...
Толькі штосьці сягоння
Твар маці такі задуменны.

Ціха кажа:
— Відаць,
Нам тут жыць засталося нямнога.
Сёння трэба, сынок,
Нам збірацца хутчэй у дарогу...

Азірнуліся мы,
Калі выбух пачулі снарада,
І з узгорка убачылі,
Як зашугала над садам.

...Я прыйшоў у той дом,
Дзе гарачыя пахнуць аладкі,
Я прыйшоў у той дом —
Захацелася матчынай ласкі.

І баюся цяпер
Пакідаць гэты дом на хвіліну:
Я калісьці у ім
Назаўсёды дзяцінства пакінуў.

Толькі выйду на шлях,
Азірнуся з узгорка —
Над садам
Ён ізноў запалае,
Разбіты варожым снарадам.

* * *

Не шкадую зусім,
што даўгая размова
След парою цяжкі
ў тваім сэрцы пакіне.
...Я на словы скупы,
калі гэтыя словы
Толькі раз у жыцці
гаварыць я павінен.

## РАНА, РАНІЦА...

Да ямы каты
людзей зганялі.
А над зямлёю ўставала сонца —
Жывых заспелі ў час абаронцы.
І да грудзей, як жывую рану,
Баец прыціснуў дзяўчынку Рану...
Дзяўчынка Рана
ўставала рана,
Спявала рана
дзяўчынка Рана,
І гукалі яе кожнай раніцай
Імем ласкавым:
— Рана, Раніца...

Ледзьве ўсход зарой зарумяніцца,
Да людзей бяжыць Рана, Раніца.
Закаханым яна —
Рана, Ранічка —
Нерастрачанае каханнечка.
І жадаюць ёй кожнай раніцы:
— Добрай раніцы, Рана, Раніца!..

## ТРЫПЦІХ

### СЕЙНЕР У АКІЯНЕ

Гайдае,
люляе
сейнер.
Паветра ловіць рука...
Як быццам на возе сена
Праз луг,
па мяккіх валках.

Сонца у спіны
смаліць.
Пахне сыры мурог...
Сёння не вудзіць —
траліць
Кожны будзе за трох.

Міраж пустыні бязводнай:
Вакол акіян вады,
Блакітнай,
зялёнай,
халоднай,—
За борт апусці гладыш.

Не п'ецца,
зусім не п'ецца,
Хоць акіян навакол...
Нептун насаліў ад сэрца —
Любіць так рыбакоў.

## ГАЙДАНКА ЎНАЧЫ

На хвалях сейнер —
як бляшанка,
Пад поўняй
бліскае
луской.
Гайданка,
суткі ўжо гайданка...
Ўтапіўся
ў бездані
спакой.

У цемру хваль
ныраюць зоры,
То месяц знікне,
то ўсплыве...
Ланцуг Мядзведзіца працёрла,
Ў бакі кідаецца, раве.

І ўжо наяве нам здаецца,
Што сейнер —
астравок зямлі,
Між грэбняў хваль
не зварухнецца —
Папоўну смела ў шклянкі лі.

І ўвачавідкі Ной біблейскі
(Наш капітан — былы матрос)

З'явіўся тут,
каб у каўчэг свой
Хоць пару зор узяць з нябёс.

А нам —
яшчэ стаяць «на банцы»,
Сачыць
сузор'яў
віражы,
Што ашалелі ў дзікім танцы,
Хоць іх да мачты прывяжы.

## ПАСЛЯ ШТОРМУ

Мы —
паміж небам і зямлёй,
Між двух блакітных акіянаў.
Той,
што ўначы быў сам не свой,
Ляжыць, як леў утаймаваны.

І пашчапаныя барты
Ён вінавата
ліжа
хваляй.
Суцішыў нораў свой
круты.

Ды мы яго не дужа хвалім,—
Хоць ачунялі пакрысе,
Нас
не кідае адчуванне,
Што не інакш
як чэрці ўсе
Вядуцца ў Ціхім акіяне.

Цяпер, напэўна, спяць яны.
Дзевяты вал ім смачна сніцца...
А ты,
рыбак,
забудзь пра сны,
Павінен ты
на ўсё забыцца.

За борт — маркоту,
трал — за борт,
Ты ў працы ўвесь —
навідавоку...
Пакуль дамоў,
пакуль у порт,
Цадзі валоку за валокай.

А сейнер —
быццам паплавок,
Ледзь-ледзь пагойдваемы штылем.
Касяк натрапіцца —
рывок!
І мы
на дно
нырнём
на хвілю...
І раптам за кармой,
як ртуць,
Вада ўскіпела,
забурліла...
Натужна ваеры гудуць,
Гудуць
натруджаныя
жылы.

І поўны трал —
Нептунаў дар,

Абраслы цінай і травою,
Навіс
над палубай
з-пад хмар
Гіганцкай рыбінай жывою.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Галовы звесіўшы,
з кармы
Глядзімся ў люстра акіяна.
На нас —
і прадоння —
анты-мы
Глядзяць з вялікаю пашанай.

* * *

Сонца — вялікае,
жоўтае куранятка —
Наклюнула
свінцовую шкарлупіну неба.
Дзюбкамі промняў
шукаць пачало
зярняткі,
Схаваныя ў глебе.
Дастаць з-пад зямлі іх
было нялёгка.
Сілы не шкадавала...
Раптам безліч
раслінак крохкіх
Наверсе закрасавала.
Пад вечар
ад гэтакага занятку

Яму зрабілася
парна...
Сонца —
жоўтае куранятка —
Палезла
пад крыльца
хмары.

* * *

Цябе я сустрэну
чаромхавым маем,
Як дождж намочыць,
дагнаўшы ля весніц
(Хусцінка твая
мне вясёлкай заззяе,
Калі яе сохнуць на сонцы
павесіш);
Як вечарам хлопцы,
спыніўшы гаворку,
На неба бязмоўнае
будуць дзівіцца,
Дзе ціха звіняць
перамёрзлыя зоркі —
Забытыя, пэўна, табой
завушніцы;
Як будуць спатканняў
шукаць аж да рана...
Ты ж пойдзеш са мною
дарогаю новай,
Пакінуўшы толькі
хлапцам закаханым
Свой пах на чаромхах,
на кветках вясновых.

* * *

Пра ласку згадаў я —
пра гэта вялікае дзіва,
Што ў сэрцы ўзрастае
і каласіцца ўрадліва.
...Палетак даўно ўжо
ласкава звініць каласамі.
Відаць, у цябе там
не сэрца, а камень.

## НА ПАМЯЦЬ

Дарма фатограф
з мяне шуткуе,
Што сядзець,
як мумія,
не магу я.
Дарма фатограф
з мяне шуткуе...
За неспакой мой
няхай даруе!
...Ляжаць буду ў куфры,
на самым дне,
Пажаўцею і высахну,
бы ў труне.
Нехта падніме
цяжкое века,
Дастане на свет
з труны чалавека.
Буду жмурыцца я
ад праменняў.
Пальцамі рук варушыць
на каленях,

Не сасчапіўшы
у вечны вузел.
На каўняры —
незашпілены гузік,—
Бо знаю,
як толькі
святло я ўбачу,
Градам пасыплецца
пот гарачы.
Асабліва няхай
варушацца рукі,
Што ў рабоце цяжкой
не зналі прынукі...
І калі праўнук
патрэбным палічыць
На памяць
картку маю
павялічыць,—
Хай фатографы
гальштука мне
не чапляюць.
Хай фатографы
рук маіх
не чапаюць:
Столькі звязалі
рукі мае
перавяслаў,
Столькі звязалі
мярэжаў частых,
Столькі звязалі
вянкоў для зрубаў,
Столькі звязалі
рукі мае
вянкоў для любай,
Ды колькі яшчэ
звязаць не паспелі!..

А гальштука нат
завязаць не ўмелі.
Дык хай фатографы
гальштука
не чапляюць —
Рук мазолістых
не чапаюць.
Я й з таго свету
ім не дарую...
Такую картку
на памяць
дару я.

* * *

Даслухаць не змог цішыні да канца...
Вецер прайшоўся нясмела —
Расінкі
са звонам
далі
нырца
З вербаў,
з лілеяў
белых...
Недзе разбілася шкло азярца.
Чуеце, як зазвінела?

* * *

Уроскід разараная зямля
Перада мной уся —
раскрытай кнігай...
Я кожны дзень,
ледзь займецца світанне,

Яе гартаю лемяхамі плуга.
Выворваю з дзярністае зямлі
Былыя вёсны,
туманы дасвецця,
Нямую стому, босыя сляды
І конскае зазыўнае іржанне,
Праслухваю аратых галасы,
Іх ноканні, пяшчотныя і злыя,
Разблытваю халодныя вятры
Пакрэплымі рукамі ў конскіх грывах...
Так кожны дзень
гартаю кнігу кніг,
Буджу яе адвечнае маўчанне...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі б магла яна загаварыць,
Маўчалі б мы
з маленькім нашым горам.

## ОХ, ГЭТЫ ЯНКА...

У нядзельку — вольны час.
Я — ў брусніцы зранку.
І надарыўся ж якраз...
Ох, гэты Янка!

Не ўзнімаючы вачэй,
Ён бесперастанку
За мяне збіраў ямчэй...
Ох, гэты Янка!

Ані слова за паўдня,
Быццам без сняданку.

Цэлы кошык — не падняць...
Ох, гэты Янка!

Цёмны лес з усіх бакоў,
Светлая палянка!
Янка рупіцца дамоў...
Ох, гэты Янка!

Сёння ж, трэба на бяду,
На сяле гулянка.
Я наўмысна не пайду...
Ох, гэты Янка!

Ў небе зорак, як брусніц.
Адхіну фіранку.
Што сягоння буду сніць?..
Ох, гэты Янка!

## НЕДАСОЛ-ПЕРАСОЛ...

Калі наш продак упершыню
(Час той ніхто не памятае)
Пасыпаць соллю паспрабаваў
Кумпяк асвежаванага маманта,—

Наладжан быў з гэтай прычыны банкет.
Адны тое мяса хвалілі,
Другія — лаялі на чым свет,
Трэція — яшчэ больш салілі.

Тады й ахрысцілі, па густу свайму,
Тое, што гэтак ганілі:
Адзін — Недасол,

Другі — Перасол.
Трэці, што пасярэдзінцы,
трапіў у безымянніkі.

Ўжо з'едзена солі — не пуд і не тры,
Даўно ўжо ўсе вымерлі маманты,
А Недасол і Перасол
Жыць не могуць
без шуму, без ляманту.

Варыцца каша —
і той, і другі
(І не паспееш агледзецца)
Заўсёды хапаюцца за чубы —
Высвятляюць трэцяга,
што пасярэдзінцы.

І гэтак заведзена ўжо здаўна:
Калі толькі страва ўежная,
Ніхто не кінецца
бегчы ў загс —
Сярэдняму выбраць імя належнае.

А Недасол і Перасол
Гнуць сваё, не ўвярэдзяцца.
Так і цяпер жыве без імя
Трэці, што пасярэдзінцы.

## ВЕТРУ-ВЕТРАВЕЮ

Аднойчы, калі
Агарнула дакука,
Ты з добраю весткай
Мне ў шыбу пастукаў.



Бацькі паэта: Марыя Іванаўна
і Якаў Сафронавіч Кляўко, 1977



Генадзь Кляўко з жонкай Янінай Восіпаўнай,
дачкой Марынай і сынам Артурам, 1973



Студэнт філалагічнага факультэта
БДУ імя У. І. Леніна
Генадзь Кляўко, 1951

— Заходзь, адпачні,
Паштальён мой крылаты,—
Як другу, табе
Адчыняю я хату.

А помніш, бывала...
Ды што там таіцца,
Ці мала было нам
За што пасварыцца!

Не раз мяне ў сцюжу
Хапаў ты ў ахапку,
Зрываў з галавы
І каціў маю шапку...

Як [redacted] цацкаю, часам
Са мной забаўляўся,
Да слёз працінаў,
Сам у вочы смяяўся.

І толькі паверыў,
Што я не скаруся,—
Як друг, ты лагодна
Ка мне павярнуўся.

Калі да спаткання
Лічу я хвіліны,
Прыносіш ты першы мне
Голас дзяўчыны.

Прадвесняй парою
Мне шэпчаш на вуха,
Каб першым я жаўранка
Ў полі паслухаў.

З гаёў парыжэлых
Ты першы прыносіш

Лісты развітання,
Што піша мне восень.

Ў дарозе далёкай
Згадаеш, крылаты,
Як пахне палын
Каля роднае хаты.

І толькі для тых
Ты не маеш навінаў,
Хто любіць, каб дзьмуў ты
Не супраць, а ў спіну.

Для тых жа, хто век
Прад табой не скарыцца,
Ты ўсёю душою
Гатовы адкрыцца.

...Відаць, ты не любіш
Хвалебнай гаворкі,
Што бразнуў дзвярыма
І знік за пагоркам.

А можа, пачуў:
Там у свет нехта рушыў?..
Шчаслівай дарогі,
Крылаты мой дружа!

## КНІГАЎКА

...Кігікае птушка.
                    То ўгору ўзмывае,
То раптам к зямлі прыпадае.
Далей ад дзяцей сваіх ліха адводзіць —
Агонь на сябе выклікае.

* * *

Сузор'і над хатай гараць нерухома.
Адзін Валапас, быццам даўні знаёмы...

«А ў таго хлопца валы ды каровы,
А ў беднае сіраціначчкі толькі чорны бровы...»

Адкуль жа, адкуль гэта гукі нясуцца?..
Чые там валы ды каровы пасуцца?..

У хлопца, што сватаўся да чарнабровай,
Даўно паздыхалі валы ды каровы...

Сузор'е над хатай гарыць, не міргае.
І смутак, і горыч, і жаль агартае:

Дзесьці ў сусвеце маркотна дубровамі
Ходзіць дзяўчына з чорнымі бровамі.

## ВІШНІ

Дзеці завей вясновых,
Што спалі ў карунках белых,
Цяпер у садах вішнёвых
Зорачкамі заружавелі.

Глядзяць са спалохам спрасоння
На свет з-пад зялёнага лісця...

Напэўна, ім снілася сёння,
Як мерзлі ў пялёстках калісьці.

## БЭЗ

Бэз расцвітае кожны год,
Каб прыгажосці стала болей...
Ён пазірае цераз плот,
Ці хутка прыйдзем мы з табою.

Ты голле нахіні яго —
Табе глядзіць ён проста ў вочы:
— Між цвету хмельнага майго
Ты шчасця знойдзеш
колькі хочаш.

На час
пялёсткі я раскрыў
І зноў заплюшчу неўзабаве...
Букет сяброўцы падары —
На свеце радасці прыбавіш.

Бо я расцвіў не для сябе —
Я,
як і вы,
з душою рупнай...

Не абламаеш сёння бэз —
Не зацвіце вясной наступнай.

* * *

Сцежка ў вавёркі —
на кожнай галінцы,
У лесе не ўгнацца за ёй
навальніцы:

Бліснe між дрэў,
як маленькі клубочак,
Скокне ўгары
праз нябачны масточак.
Хутка зачыніць на засаў
дупельца,
Будзе за поўнач
разводзіць цяпельца...

Лес мой бяссонны!
У час навальніцы
Буду разгадваць
твае таямніцы.
Ты пашумі сабе,
я ж прыгадаю,
Як вецер
вавёрчыны сцежкі
гайдае.

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Ён — гаспадар,
што ўстаў раней за сонца,
Каб зерня для сяўбы
нарыхтаваць.
Было нялёгка
вузкія загоны
Спустошанае нівы
засяваць.
Ён — гаспадар.
Ён добра ведаў сілу
Тых слоў,
Што сейбіт
кажа да раллі.

Сыпнуў ён зерне —
буйна ўскаласіла
Краса тых слоў
на ўсёй яго зямлі.
Красуе ніва,
буйна каласіцца,
Яе сцяжынкі
ў новы свет вядуць...
Прыйшоўшы
гэтай ніве пакланіцца,
У дарогу ўзяць зярнятаў
не забудзь!

## ПЕСНЯ ЖНІЎНЯ

Раніца хуценька ўстала,
Ледзьве ўмыцца паспела —
З нівы раса апала,
І песня жніва даспела.

Голасам звонкім раннім
Будзіць смуглую далеч,
На ўвесь акіян бяскрайні
Калыша камбайны ў хвалях.

З бункераў б'юць крыніцы —
Вадой залатой цярусяць...
Плыве каравай пшанічны
У небе на сінім абрусе.

* * *

Вось падхапілі мары-крылы
(Так, можа, толькі ў сне лятаў),
І я падняўся ўвысь на хвілю
І ў светлай хмарцы
кропляй стаў.

І вось ужо набракла хмарка.
Спрабуй, бяскрылы, ўніз зірні!..
Зямля ляціць насустрач шпарка...
Як страшна падаць з вышыні!

Ніхто не бачыў першай кроплі —
Ушчэнт разбілася аб дол.
Расліны ссохлыя прамоклі,
Павесялела ўсё вакол.

Гудзе, буяе ў садзе квецень
У звонкім ззянні кропель-рос.
...Ніхто, напэўна, не прыкмеціў,
Як падаў я аж з-пад нябёс.

* * *

На фоне нябёс чарнее
Яліна крыжовым верхам.
Тры зоркі над ёю ў небе,
Нібы над радкамі верша.

Звіняць нябачныя рыфмы,
Махаюць у такт галіны.
Зліваюцца гукі, рытмы
У безназоўным гімне.

Мару дай чалавечую —
Вырве з зямлі карэнне
І паляціць у вечнасць
Гімнам жыцця, натхнення.

## ХАТА НА СОПЦЫ

Аблокі наплываюць нетаропка,
Чапляюцца за нізкія платы,
Па сцежках падкрадаюцца да сопкі,
Як белыя калматыя каты.

Атуліць сопку вечар светла-шэры,
На сон пацягне палыновы хмель,
У хату расчыні шырока дзверы —
Пуховай коўдрай лягуць на пасцель.

І толькі выйдзеш падзівіцца ўранку —
Яны пабеглі шпарка ўдалячынь...
Адно з іх кацянём ляжыць на ганку —
У вулцы заблудзілася ўначы.

* * *

Хмурыць дуброва
Рыжыя бровы:
Пацеркі
 на шыях рабін...
Чырванеюць і самі
 лясныя ўдовы —
Што з пацеркамі рабіць?

Граб — ля бярозы.
Ён люб ёй і нецвярозы.

Каля вязаў — вольхі,
Шчаслівыя Волькі.

Што ж рабіць рабінам?..
Што рабіць Галінам?..

Паў, зламаны, ясень...
Не вярнуўся Ясік.

Лясныя ўдовы — ўсё забылі.
Лясныя ўдовы — ўсё згубілі.

Убор вясельны яны надзелі —
Не згубілі надзеі.
Свякрухай дуброва
Нахмурыла бровы:
Пацеркі
                на шыях рабін...
Чырванеюць і самі
                                        лясныя ўдовы —
Што з пацеркамі рабіць?

## ВОСЕНЬ

Развіталася з кожным дрэўцам,
Паабтрэсла гаі,
                                    сады,
Да кастроў прыбягала грэцца,
Бручкай ласавалася з грады.

Толькі ў замаразкі сцюдзёныя
Ногі босыя апякла.
Вокал лісце —
сляды чырвоныя...
Галяком у зіму ўцякла.

## СПОВЕДЗЬ НЯМОГА

Спытайце
ў нямога,
Што страціў мову
У бойцы за Немкавічы,
за Без'языкавічы,—
За Палессе,—
Адкажа слязьмі ён —
бязмоўным словам:
— Фашыст на вусны
замок павесіў,
Замок
у сто тысяч пудоў —
Замок
у сто тысяч слоў.
Адамкні —
і пальецца песня,
Нанова
свет для нямога ўваскрэсне:
Загавораць Немкавічы,
Без'языкавічы заспяваюць,—
Рэхам паўторыць
усё Палессе.

## САСНА

Стаіць яна, расахатая,
Наводшыбе асабняком,
Ды не сумуе, што ў хату ёй
Легчы нельга вянком.

Ёй іншая доля суджана:
Летапіс піша свой,
Колькі зімаў са сцюжамі
Тут прагуло над ёй.

Дакладна яна адзначае,
Колькі летаў было,
Колькі разоў над краем
Сонца ўзышло, зайшло.

Карэнне — ў глыбокіх нетрах:
Не ведаць сасне бяды.
Сурова шумяць на ветры
Сівыя
яе гады.

## РАБІНАВЫЯ ПАЦЕРКІ

Была я сарамліваю.
Употайкі ад мацеркі
Нізала пад рабінаю
Рабінавыя пацеркі.

Спатканні прызначаў ён мне —
Прыходзіла, ўцякала я...
Пасля кусала пацеркі
Гаркавыя-гаркавыя.

Ды пра каханне любы мой
Даводзіў безупынку мне
І вусны называў мае
Салодкімі рабінкамі.

Мы з любым цалаваліся,
Аж позна спахапіліся:
Рассыпаліся ягадкі,
Далёка закаціліся.

Згадаю пра каханне я,
Пра першае, кароткае,
Ды ўспамінаю пацеркі
Салодкія-салодкія.

Рабінавыя пацеркі,
Чырвоныя гарошыны...
Іх маладая кроў была
Марозам падсалоджана.

* * *

На хвілю за хмарку
Схаваецца сонца —
І падаюць долу
Дажджу валаконцы.

І тчэцца нябачна
Густая выснова
Тканіны зялёнай
Для ўбораў вясновых.

І слухаюць людзі,
Палі і дубровы

Пяшчотную, цёплую,
Шчырую мову,

Якою ў нас неба
З зямлёй размаўляе,
Якая для ўзлёту
Душу скрыляе.

## СТО КРОКАЎ

...Здружыліся ў ночы доўгія
Сто крокаў,
як сто сяброў.
Балюча ставілі ногі іх
У попел,
у снег,
у кроў.

Чатыры вясны грымотныя,
Чатыры зімы даўгіх
Багна і твань балотная
Засмоктвалі
прагна
іх.

Ніводзін не знаў з іх,
дзе яго
Люты пільнуе звер.
Пароўну
былі
падзелены
Яны —
на жыццё і смерць.

Ім не выпадала грэбаваць
Адной між усіх дарог:
Крок —
да скарынкі хлеба
І да магілы —
крок.

Ад сённяшніх ста —
варожыя
Крокі іх сцераглі:
Дротам скрозь адгароджвалі
Ад волі,
цяпла,
зямлі.

Навекі тады запомнілі
Сцежкі,
ступалі дзе
Гэтыя сто,
нястомныя,
Крокі —
з ночы у дзень.

Ўтапталі
у гразь дарожную
Нямала слядоў яны.
Загінуць
было няможна ім,
Не прычакаўшы
вясны.

Ў дарозе —
ні на хвіліну ім
Нельга было прыстаць.
Дачакацца яны
павінны былі

Гэтых,
сённяшніх
ста.
Пад імі
зямля стагнала ўся —
Пекла спазналі яны.

Так яны пачыналіся,
Крокі маёй вясны.

Нямала ў той час ім выпала
Сцежак,
дарог крывых.
Да стрункі яны
нязвыклыя —
Сціраюцца да крыві.
Знаюць
адзін закон яны:
Ніколі
ні кроку назад!
Закон свой
яны выконваюць,
Як баявы загад.

Ім грукату,
стуку мала ўсё,
Ім падавай прастор,
Каб аж зямля ўгіналася,
Ў бакі
расступаўся
бор...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зямля
была б
невясёлаю,

Зямля
не была б
зямлёй,
Калі б
на дыбачках,
кволыя,
Людзі
ішлі
па ёй.

Ёй гулкіх
патрэбна крокаў,
Каб адступала ноч,
Каб кожны —
не менш, як кроква,
Ці ў ботах ты,
ці — басанож.



Генадзь Кляўко (крайні справа ў верхнім радзе)
вучань 10«Б» класа Рудзенскай сярэдняй школы, 1949



Літрэдактар газеты «Калгасная праўда»
Генадзь Кляўко, 1957



Генадзь Кляўко
на вайсковых зборах, 1956



# Прыстань

*(1974)*

## Далёкі гром

### СНЕГ

Снег...
Над Рудзеншчынай нізіннай
Кружацца
                    белыя матылі.
Міне паўгадзіны —
                                        і мяккай прасцінай
Прыкрыты агрэхі ўсе на зямлі.
І на душы —
                    быццам нейкае свята,
Што з неба звалілася сапраўды.
Глядзяць святочна
                                        платы і хаты,
У хустках белых стаяць сады.
Гадай — дзе поле, а дзе дарога...
Хоць прыхарошванняў не люблю,
А ўсё ж прыемна, хоць і нядоўга,
Чыстай бачыць
Усю зямлю.



А цудаў не бывае, не бывае,
Ды ўваскрасіла іх вада жывая —
Матуль жальбу сыны з магіл пачулі,
Прынеслі ім памыць свае кашулі.
Матулі ад світання шчыравалі,
Салдацкія кашулі шаравалі
Над ночвамі, балеямі, катламі,
Пакуль не паадмылі тыя плямы
Ад спечанай крыві, ад солі-поту,
Ад пораху, ад пылу, ад журботы,
У рэчках, у крыніцах спаласнулі...
Як лёгка іх сыны тады заснулі!
Кашулі, вымытыя мацяркамі,
Марозам пахлі, сінімі вятрамі,
Травой мурожнай, першай баразною
І блізкай і далёкай стараною...

А цудаў не бывае, не бывае.
Ды памяць ёсць: яна — вада жывая.

## КОЖНЫ МІГ

Недзе куля жоўтаю дзюбкай
Прабіла наскрозь мішэнь...
Недзе птушаня шкарлупку
Наклюнула:
— Добры дзень!..

Недзе аб дамавіну грукнулі
Бязлітасна камякі...
Недзе упершыню на рукі
Ўзялі немаўлят мацяркі...

У вечнасць ляцяць гадзіны.
І на зямлі кожны міг —
Смерць і радзіны,
смерць і радзіны...
І побач — мы.

## МАНАЛОГ ТЫХ, ХТО ЗАГІНУЎ

...Мы не ляжым у магілах.
Вочы прымружце,
Прыгледзьцеся:
Мы на ўвесь рост
Жывыя стаім перад вамі.
...Мы не маўчым.
Вочы прымружце,
Прыслухайцеся:
Мы крычым і крычым «ура!» —
І будзем гэтак крычаць
На самым апошнім дыханні
Гэта наша апошняе слова.
Яно
Паходзіць ад самага першага крыку...
Між імі самая кроўная сувязь...
І словы,
Якія ў жыцці мы сказалі,
І словы,
Якіх мы сказаць не паспелі,—
Усе іх вы чуеце ў слове «ура!» —
Усе яны ў ім у адно зліліся.
Можа, таму,
Што мы
Крычым і крычым няспынна,
Даўно вы пачуць не можаце

Слоў іншых без ценю трывогі —
Ласкавых і ціхіх...
Не засмучайцеся.
Скончыцца бой —
Мы змоўкнем,
Вінтоўкі саставім у козлы,
Няхай яны ўсім нагадаюць
Няхітры буданчык начлежны,
Калі над усёю зямлёю
Чуваць толькі звон камарыны...
Яшчэ яны хай нагадаюць
Жытнёвыя бабкі на полі,
Калі наспяваюць дажынкі...
Не засмучайцеся.
Нам крычаць засталося не доўга:
Каму год...
Каму два...
Каму тры...
Да Дзевятага мая
Сорак пятага года.

## ХЛЕБ

Вялікія вочы — па бохану
У людзей галодных,
Асабліва ў дзяцей, якім
Не зразумець ніколі:
«Трэба араць»,
«Трэба сеяць».
А чым араць?! А чым сеяць?!
Яны толькі ведаюць хлеб
Як смачны вялізны бохан
З мецінамі ад пальцаў,

Што маці для ўкрасы зрабіла
Перад тым, як садзіць у печ...
Яны толькі ведаюць нож,
Якім кроюць хлеб,
Яны першабытна чуюць
Пах аржанога хлеба,
Ён кружыць ім галаву,
Схапіць яны хлеб гатовы,
Калі нават сказаць ім,
Што ён замініраваны,—
Яны не вераць вачам,
Яны толькі чуюць пах
Аржанога хлеба...

У тыя гады галодныя
Мы нават на маладзік глядзелі,
Як на надкусаны бохан.

І раптам па вёсцы чутка:
Зіна, наша суседка,
Вучыцца едзе на пекара!
Адразу для нас яна стала
Загадкаваю асобай,
Не нашаю, не вясковай,
А незямною ўладай надзеленай,
Хоць разам па загароддзях
Збіралі мы лебяду.
І ўжо яна ў нашых думках
Не ў вёсцы жыла, не з намі,
А недзе далёка-далёка,
У казачным нейкім палацы,
Дзе белыя, белыя сцены,
З самых бялюткіх булак.
І Зіна — у гэтых сценах.
Відаць толькі ўсюды
Шчаслівыя Зініны вочы.

Я ехаў нядаўна ў трамваі.
Разгаварыліся дзве дзяўчыны:
— Дзе ты працуеш?
— На хлебазаводзе.
— Падабаецца хлеб пячы?
— Ат, няхай яго ліха...

Як мне хацелася крыкнуць:
— Не крыўдзіце хлеб, ён — жывы!

## МАЛІНЫ САЛАСПІЛСА

Наўкол паляны Саласпілса,
Дзе сосны гонкія звіняць,
Кусты малінніку спляліся,
Гарачым водарам п'яняць.

Сюды, на выклятае ляда,
У лагер звозілі дзяцей.
Былі, някемлівыя, рады,
Што столькі ягад тут расце.

За агарожаю калючай
Блукала ценьмі дзетвара.
А навакол — вачам балюча —
Маліны спелі, як зара...

Галоднай смерцю паміралі
Марылькі, Ганкі, Васілі...
І на маліннік пазіралі —
Кругі чырвоныя плылі...

Якім ж ты, голад, немінучы?!
«Хутчэй... праз дрот... а там — у роў...»

З іржавых драцяных калючак
Звісала ягадкамі кроў...

Балюча колюць успаміны...
Пракляты будзь,
                    фашысцкі род!
Я дакрануўся да маліны —
Калючы дрот...

* * *

*Мастаку Яўгену Буслу*

Сустрэнеш яго:
                    — Колькі лет і зім!..
Далонь працягнеш дарма —
Не парукаешся з ім,
Рук у яго няма.

Не можа ў прыгоршчы
                    вады набраць,
Не можа весці дзіця,
На развітанне друга абняць,
Чарку падняць у гасцях...

Чуў я,
        на выстаўцы мастакі
Хвалілі ягоны твор:
Аберуч трымае
                    выбух цяжкі
Над ямай мінёр...

* * *

Помніце?
Ўпала
Знічка над намі —
Паранены быў
Баец у В'етнаме...

Бачыў і сам я
Малюнак гэткі:
Сталь аўтамата...
Сонца...
Кветкі...

Кветкі...
Сонца...
Сталь аўтамата
Заходзілі ціха
Ў вачах салдата...

Не стала в'етнамскага
Брата,
друга.
Да веку мяне
Не пакіне скруха...

І не хапаць будзе
Мне да веку
Сонца...
Кветак...
І чалавека.

* * *

Не, не язычнікі...
І не Мекка...
Паломнікі дваццатага веку —
Людзі цалуюць камень,
Цалуюць,
абхапіўшы рукамі,
Да болю прыціснуўшы вусны,—
Таджыкі,
украінцы,
беларусы...
Цалуюць камень, халодны, шурпаты —
Цалуюць бацьку,
сына,
брата,
Што быццам вярнуліся
з беззваротнай дарогі...
Цалуюць да забыцця,
Да знямогі.

Не, не язычнікі...
І не Мекка...
Людзі дваццатага веку
Ідуць,
ляцяць,
спяшаюцца цягнікамі,
Каб пацалаваць камень,
Што ляжыць халодны,
шурпаты
На магіле
Невядомага
салдата.

## РОЗДУМ НАД МАГІЛАЙ ДРУГА, РАССТРАЛЯНАГА Ў СОРАК ПЕРШЫМ

З табой у нас і хлеб,
і верш —
Усё напалавіну...
І ты са мной
ва ўсім жывеш,
І я з табой
загінуў.

## ЛЕПЕЙ АБДЫМКАЎ ТАКІХ НЕ БАЧЫЦЬ

Лепей ніколі, нідзе
Абдымкаў такіх не бачыць,
Калі вырываюць дзіця
З матчыных рук гарачых;
Калі адрываюць яе
Ад цела забітага мужа,—
Лепей не бачыць нідзе
Гэткіх абдымкаў дужых.
Да хрусту ў суставах рук
Абдымкі байца-героя,
Што ранены, ледзь жывы
Сціскае рукамі зброю...
Абдымкі расстанняў, стрэч
З таварышам,
Другам,
Бацькам...
Абдымкаў век не разняць
У магіле брацкай.

## ДАРОГА З МЛЫНА

*(Балада)*

Вёска — адна на дваіх,
Адзін на дваіх успамін...
Вёску спалілі іх,
Засталося двое жывых —
Вазілі малоць у млын...
Завіхаліся там дарма:
Мёртвым — не памагчы.
Печы такой няма
Хлеба ім напячы.
Павезлі тую муку
Па вёсках усіх яны...
Рады былі праснаку
Галодныя дзеці вайны.
Помняць іх гэткіх
На ўсім пуці,
Слоў не забылі іх:
— Жывіце, дзеткі,
Па два жыцці —
За сябе і за тых...

## ПАЭТ

Яго не прачытаеш вершаў —
Іх напісаць ён не паспеў.
Пайшоў юнак у сорак першым —
У бой вялі
любоў і гнеў.
Паэма з прозвішчаў...
Трапеча
Па-над плітою лісцем клён...

Сябе юнак увекавечыў
Адным радком сярод імён.
Якое трэба мець натхненне,
Каб подзвіг іх апець, паэт!
Магчыма, той, сапраўды геній,
Яшчэ народзіцца на свет.
Як за Радзіму трэба пасці,
Які глыбінны мець выток
Любві і гневу,
каб укласці
Усё жыццё ў адзін радок!

## ДАЛЁКІ ГРОМ

Маланка вогненным багром
Цяжкія крыгі хмар разводзіць,
Па небасхіле ўладна ходзіць
Далёкі гром.

Цярэбіць пушчу напралом,
То глуха стогне, то вуркоча...
Не дасць заснуць сягоння ноччу
Далёкі гром.

Грыміць над Прыпяццю, Дняпром,
Як водгук колішняга бою.
Душу сціскае ціхім болем
Далёкі гром.

Грукоча тут у кожны дом
Адвечным рэхам неспакою
Ледзь чутны дзесьці за ракою
Далёкі гром.

## ЖАЛЬБА ДЗЯЦЕЙ СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ

— Чаму не па́ліцца ў печы?
Прастыла — як лёд, чарэнь.
Накрыйце нам коўдрай плечы —
Агонь нас зусім не сагрэў...

— Гуляе вецер па хаце,
Цярусіцца дождж праз столь.
Дзе ўрач у белым халаце?
Агонь не суцішыў наш боль...

— Няма ані сцен, ні вокан,
Па хаце пасвіцца конь...
А цёмна чаму навокал,
Хоць гэтак шугае агонь?..

...Чытаю імёны, даты.
Па колечкі ж ім гадоў!..
Здалося, іх вачаняты
Выглядваюць з-за камяноў.

## ЗАХАД

Была ў цёткі Зосі хата
Вокнамі ўся к усходу.
І толькі адно акенца
Сумна глядзела на захад.

Была ў цёткі Зосі радасць —
Саша, сын паслухмяны.
Ў пятнаццаць гадоў быў рослы —
Не па гадах мужчына.

Вясною ў сорак чацвёртым
Праз вёску ў імклівым маршы
Ішлі нашы часці на захад,
Пайшоў Саша разам з імі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Увечары цётка Зося
Садзілася ля акенца,
Глядзела на захад ружовы —
Там закацілася сонца...

## ДЗЯЎЧЫНКА МАЛЮЕ...

Хоць за смерцю стаяць у чарзе,
Дзеці ёсць дзеці.
Скачуць на адной назе,
Забыўшы пра ўсё на свеце.

Жыццё іх — на валаску...
Кат, не чапай малую!..
Трэсачкай на пяску
Дзяўчынка малюе.

Сонейка — ясны дзень! —
Хата над рэчкай.
З коміна дым ідзе —
Паліцца печка.

Мама
Смачнае самае
На абед гатуе...

Хто іх сягоння з мамаю
Ад смерці ўратуе?!.

Жыццё іх —на валаску...
Кат, не чапай малую!..
Трэсачкай на пяску
Дзяўчынка малюе.

Сонейка — ясны дзень!
Рада малеча.
З коміна дым ідзе...
І з асвенцімскай печы.

## НА АПОШНЯЙ ДАРОЗЕ

Прайшлі па дарозе Апошняй,
Хто катам не даўся скарыцца...

Бліжэй падыдзі, падарожнік,
Павінен ты ім пакланіцца.

...Вялі іх к магіле, лядашчых,—
Суровыя, мужныя твары...

Таму тут ніколі не ўбачыш
Усмешкі ніводнае зараз.

...З надзеяй шапталі пра волю,
За спінамі ж — звязана крылле...

Таму не пачуеш ніколі,
Каб голасна тут гаварылі.

...І вязні галоў не схілілі.
Аб літасці — нават ні слова...

Таму вось на іхняй магіле
Мы нізка схіляем галовы.

## ВЫ СА МНОЙ

*Хлапчукам-аднагодкам,*
*якія загінулі ў час*
*мінулай вайны*

Калі мы святкуем вясной
Дзень Перамогі жаданы,
Заўсёды вы, хлопцы, са мной,
Я з вамі навек паяднаны.

Падхопіць, нясе нас рака
Радасці, слёз чалавечых.
І я вас нясу на руках,
Саджаю сабе на плечы.

Ці ёмка сядзець табе, Ясь?
Ці ўсё відаць табе, Саша?
Вышэй, Міколка, залазь,
Свята сягоння наша.

Дзяліцца я з вамі гатоў
Усім, што пачую, убачу...
Мне столькі ж, як вам, гадоў —
На ўсё гляджу па-дзіцячы.

А вы было ў слёзы, дальбог...
Хто з вас падумаў такое?!.
Як бы пайсці я мог,
Вас не гукнуўшы з сабою?!.

Ці ёмка сядзець табе, Ясь?
Ці ўсё відаць табе, Саша?
Вышэй, Міколка, залазь,
Свята сягоння наша.

Вунь, бачыце, там, на рагу,
З марожаным прадаўшчыца?

Хлопцы, гайда ў чаргу —
За ўсіх магу разлічыцца.

...Эх, басаногая драбяза,
Што глядзіце з дакорам?
Я проста забыўся сказаць,
Што мне ўжо мінула сорак...

А потым — махнём на футбол...
Толькі з умовай адною —
Ў вайну не гуляем больш,
Ну яе, хлопцы, з вайною...

## РАНІШНІ СОН МАЦІ

Шкадуючы,
                    будзіць дзяцей
Маці на золку:
— Волечка, уставай.
Уставай, Міколка...

Аладак вам напякла —
Астынуць жа на пяколку.
Волечка, ідзі еш,
Ідзі еш, Міколка...

Суседскія,
                пэўна, ўжо
Сабраліся ў школку.
Волечка, паспяшай,
Паспяшай, Міколка...

Будзіць,
                будзіць дзяцей

Маці на золку...
Волечка не ўстае,
Не ўстае Міколка.

Трыццаць гадоў прайшло,
А ёй усё сніцца...
Маці бяжыць на сяло
Сном падзяліцца.

— Любая, іх у сне
Як жывымі бачу...

З іншаю — уздыхне,
А з іншаю — і паплача...

* * *

Дзялілі напалам вясной праснак,
Адна чарэнь зімою саграваля...
І думалася некалі інакш:
Век будзем сябраваць,
Што б там ні стала...

На скроні ціха
Ўпаў сняжынак рой —
Ляцяць гады клапотнымі чмялямі...
І толькі ў вёсцы,
Стрэўшыся парой,
Становімся ранейшымі сябрамі.

* * *

Падкова на пыльнай
дарозе вясковай...
Не веру, што шчасце
прыносіць падкова.

Віселі ж падковы
калісьці ў Хатыні.
Яшчэ і дагэтуль
яны не астылі...

А знойдзеш — прыбі
над парогам, каб помніў,
Што хтосьці твой блізкі
ў дарозе, не дома...

## ЛАКАТАРЫ

Напружылі
чуйны слых
Вушы зямлі — лакатары.
Праслухваюць
кожны ўздых
Стагоддзя дваццатага.

На падазрэнні —
ціша і гром,
Вясновыя навальніцы...
Чэрцяць крывую
ноччу і днём,
Не могуць на міг спыніцца.

Ды раптам —
куды крывая паўзе?

7*

Непрадбачаныя памехі...
Скасавалі
разлікі ўсе
Выбухі дружнага смеху.

А гэта што
за агністы след?!.
І гэткага не прадбачылі:
Дзень і ноч
напаўняюць свет
Пацалункі гарачыя...

...Прабачце
за незвычайную навіну,
Тут ні пры чым лакатары.
Я на хвілінку
ў век зазірнуў,
Што шчаслівей дваццатага.

## Я ХАЧУ ВАМ СКАЗАЦЬ, УЛАДЗІМІР ІЛЬІЧ...

Дарагі Уладзімір Ільіч!
Вельмі крыўдна
(Прашу мне прабачыць),
Што ніколі вы ў нас не былі,
Беларусь не паспелі пабачыць.

Вас як бацьку сустрэлі б сыны,
Вы пачулі б іх шчырыя словы,
Па сцяжынах хадзілі б лясных,
Па гаючых, па ціхіх дубровах.

Вас як друга сустрэлі б сябры,
Летам спалі б на сене духмяным...
Можа б, нашы крыніцы, бары
Загаілі пякучыя раны...

Тут бы кожны лісток, як жывы,
Вас далонню прыкрыў у спякоту...
Уладзімір Ільіч!
Знаю, вы
Мелі клопату шмат і работы.

Як былі б сёння рады мы ўсе
Разам з вамі прайсціся па краі,
Паказаць,
Як расцём мы ў красе,
Як нас ваша святло азарае.

Вас, найпершага друга,
Сябры
Хлебам-соллю сустрэлі б усюды,
Вам свае паказалі б капры —
Салігорскае нашае цуда,
Нашы МАЗы, што свет абышлі,
Магілёва праменную пражу...

Дарагі Уладзімір Ільіч!
Хіба словамі ўсё вам раскажаш.

Дзе гайдалася багна калісь,
Дзе жыла чараўніца Алеся,
Б'е сягоння фантанамі ўвысь
Наша нафта з глыбіняў Палесся.

Хоць і зроблена намі ўжо шмат,
Ды здзіўляць вас, я ведаю, рана,—
Гэта бачылі ўсё вы

Паўвека назад,
Нашых дзён разглядаючы планы.

Дарагі Уладзімір Ільіч!
Бачу, вы усміхнуліся ветла...
Гэта значыць, ідзём, як ішлі,
Мы за вашаю мараю светлай.

* * *

Раней, чым устане сонца
І падорыць святло і цяпло нам,
Устаюць ва ўсім свеце маці
І ў печы распальваюць дровы,
Кастры на падворках,
І прымусы,
І керагазы,
І пліты,
І электраплiткі,
Каб раней,
Чым устане сонца,
Накарміць нас і абагрэць.

Маленькія сонцы кухань —
Агонь трапяткі і зыркі
Адамашнілі, пэўна ж, маці,—
Я ўпэўнены,
Што агонь калісьці
Першыя здабылі яны.
Мусіць, таму,
Што на свеце ёсць маці,
У самыя чорныя-чорныя ночы,
Калі не было
І ў паміне запалак,—

Не звёўся агеньчык у печы:
З вугельчыка
На вугельчык
Ён пераскокваў
Чатыры гады —
З ночы ў ноч,
З году ў год.
І не гас,
І не тух
У іхніх гарачых далонях,
Іхнім дыханнем сагрэты.
І нават мужчыны
Прыкурвалі
Ад вугельчыкаў тых.

Раней,
Чым устане сонца,
Падорыць святло і цяпло нам,
Устаюць ва ўсім свеце маці,
Каб агонь распаліць...

Без яго
Мы людзьмі першабытнымі
Сталі б.

## РАДЗІМА КУПАЛЫ

Радзіма Купалы.
Вязынка.
Тут пачынаўся свет —
Купалаўскі свет вялікі.

У хаце Купалы — калыска...

Прывязаная навечна
За самую высокую зорку,
Над светам
Яна гайдаецца —
Будучых творцаў калыша...

## СЛОВА

Адшліфаванае ў вяках,
Гучыць то востра,
                    то ласкава:
І быццам брытва — *асака*,
І слова мяккае — *атава*.

Ёсць слова — *вораг*,
                    слова — *госць*,
У іх —
          трывалая выснова.
У кожным слове корань ёсць —
І нельга сілай
               вырваць слова.

## ДОБРЫ ЧАЛАВЕК

Ішоў — і ўпаў,
Навекі анямеў:
Сляпы пярун
               ударыў рыкашэтам.
І чалавек, бадай, не зразумеў,
Што здарылася з гэтым светам.

Яго пагляд —
Успыхнуў і пагас.
Ні змроку,
ні святла ўжо больш не будзе...
Падумаў Чалавек у свой апошні час:
«А як жа людзі?..»

## НА ВЫСТАЎЦЫ ПЕЙЗАЖАЎ

*Юзэфу Пучынскаму*

У гэтакі кут лясны
У горадзе грэх не трапіць.

...У векавухі сасны з вясны
Па сонцу на кожнай лапе.

...А пах баравы густы!
Настою — сто год, не меней.

...Немы ў паветры застыў
Рык маладога аленя.

...Сіні жар верасоў
Вецер раздзьмуў крылаты.

...Там абагні лясок —
Сцежкай выйдзеш да хаты.

...Пад вербамі ціха сны
Задумная сніць рачулка.

Быццам на мох лясны
Ступіў я на брук завулка.

* * *

Калі абрываю вішні,
Рукі —
аж за аблокі:
Перасыпаю
з далоні ў далонь
Гарачыя зоры.

## РАНАК

Упаў спелым яблыкам ранак
І, сонечным сокам наліты,
Па мяккай траве пакаціўся,
Па росных лугах,
Па рамонках,
Па жыце,
Па сініх валошках,
Па ўзлесках,
Сунічных палянах,—
Па шары зямным пакаціўся
Услед за начной цемнатою,
Сабраўшы ўсе пахі і фарбы...

Ніхто і ніколі не бачыў,
Як зернетка ён па дарозе
Губляе — для новага ўсходу,
Каб яблыкам круглым наліцца...
І гэтае дзіва падгледзець
Нікому яшчэ не ўдалося.
Прачнуцца, здзіўляюцца людзі,
Як зноў у разору,
У росы
Ён падае яблыкам спелым...

* * *

Шчырасці зерні!
Трывожыць сумленне,
Пакуль яны ў сэрцы,
нібыта у жмені.

Старанна іх сейбіт
у засек хавае...
Пара для іх трэба
свая, веснавая.

## СУСЕДУ

Жывём даўно
На вуліцы адной,
Шум гарадскі і тлум адзін трываем,
Адной бярозкай
Цешымся вясной,
На працу ездзім на адным трамваі.

Пры стрэчы ж —
Толькі галавой кіўнем,
Рукаемся —
Хіба калі па святах...
А стрэліся ў далёкай старане —
І кінуліся,
Быццам брат да брата!

## ЧАКАННЕ ВЯСНЫ

Вянок плялі вясне пралескі:
«Прыходзь, жаданая, хутчэй!»
Блакіт рассыпалі на ўзлеску,
І ён палае ўсё ярчэй.

Бялютка-беленькім бярозам
Вось-вось лістоту нараджаць...
Ім сняцца лютыя марозы —
На ветры ціхенька дрыжаць.

Няяснасць першых прадчуванняў
Святлее ў сэрцы з кожным днём...
Аднойчы белы гай уранні
Зялёным выбухне агнём.

Здаецца, ўжо чуваць здалёку
Зязюлі шэрай шчодры лік...
І, ад бярозавага соку
Схмялелы,
крочыць сакавік.

## КЛЯНОВЫЯ ЗОРЫ

Асеннія зоры
За ноч каля ганку
Гарачаю чырванню
Усыпалі дол...
Гляджу, як дзяўчынка
Пад клёнам уранку
Збірае, каляныя,
іх
У прыпол.

Ды знічкі яна
Не спрытна́ падымае —
Між самых прыгожых
Знаходзіць свае...
Прысняцца дзяўчынцы
У млечным тумане
Высокія зоры
Ў далоньках яе...

* * *

У вяках столькі раз апетае,
Сонца! Ты ад хвалы не меншаеш!..
Дык прабач мне й на гэты раз.
Я пра сына твайго — праменьчыка.

Я пра сына твайго — праменьчыка,
Што радзіўся ды быў маленечкі.

Толькі выпырхнуў з вечнай цемрані —
Не трымала ты пры сабе яго,
Хоць ляжаў прад ім шлях нязмераны
Незнаёмага свету белага.

Толькі выпырхнуў — і не вернецца:
Там вясной на зямлю ўпала зернейка.

Ад вятроў атуліў цёплай ласкаю,
Дзень у дзень шчырэў безупынку ён.
Стала сном яго, стала казкаю,
Стала сонечнаю былінкаю.

І былінка ў час наліваецца,
Хутка зернейкаў дачакаюцца...

Падружыўся навек з зямлёй
І працуе ўвесь дзень да поту ён.
У праменьчыка будзень свой,
У праменьчыка свае клопаты.

Саграваюць зямлю праменьчыкі,
Што радзіліся ды маленечкія.

* * *

Ніколі не папракнула хлебам
Цяжарная вечна зямля.
Рукі дрэў працягнула з пладамі:
— Спажывай, дарагі чалавек!
Мне тваё не патрэбны пакуты,
Я без іх прыгажэй, весялей,
Я і так наплакала моўчкі
Акіяны салёных слёз...

## ЗБІРАЮЧЫ ГРЫБЫ

Ступаеш па імшанні, па іглiцы,
Ўзіраешся на зманлівы лісток...
Што сэрца прымушае калаціцца,
Працяўшы нечакана, быццам ток?

І самы раз паляна баравая,
І баравік — стаіўся недзе тут...
Ты ступіш крок — і сэрца замірае:
Вось-вось народзіцца з-пад моху цуд!

А знойдзеш — і шчаслівы, як дзіця.
На кожным кроку радасць адкрыцця...

## ПАЦАЛУНАК

Гарачы ён заўжды — ў каханых,
Найшчыры — у сяброў адданых...
А найласкавы
пацалунак будзе,
Якім дзяцей матулі будзяць.

## ЛЯ ВОГНІШЧА

Гарыць,
патрэсквае лаўжняк,
Ядловец курчыцца,
курыцца.
Мы смажым сала на ражнах —
Свяшчэннадзейнічаем быццам.
Пах
разбудзіў усіх багоў,
Якім наш продак у ахвяру
Прыносіў некалі быкоў
І з дымам іх пускаў пад хмары.
Паляна — дрывасекаў дом,
Тут нам да поўначы не спіцца...
Сядзім ля вогнішча гуртом,
Прыпамінаем небыліцы.
А месяц
ласы свой язык
Загнуў,
Гарачы тук смакуе...
— Эх, брат!..
Наш скрыль бясследна знік...
За небыліцы —
Ахвяруем!

## ПЕРШАЕ ПРЫЗНАННЕ

Ажно пад ранак
табе прызнаўся...
Твар — рукой адхіліла...
След пацалунка
так і застаўся
На шчацэ небасхіла...

* * *

З акна дванаццатага паверха
На горад з бояззю глянуў:
Прасекі-вуліцы,
Плошчы-паляны...
Квадраты былога лесу
Кварталамі
Бачацца зверху...
На гэтым месцы,
Дзе шоргат шынны,
Дзе ўзняўся ў неба мой дом вышынны,
Шумеў надоечы бор стары,
Калышучы ў лапах шчэбет птушыны,
Чырванагрудыя снегіры
Яблыкамі-цыганамі
Ўгіналі галіначкі ў маразы.
Цвіў цнатліва зязюльчын мох,
Па ўсім бары,
Космы раскінуўшы дзеразы,
Алень трубіў у світальны рог,
За набіркамі і кашамі
Ляцела-галёкала рэха,
Вавёрка ў мядзведжы бярлог
Цаляла шкарлупінамі арэхаў...

Недзе пад домам маім
І цяпер
Выспяюць на імху журавіны.
У крапінку мухаморы — грыбкі-сальніцы,
З якіх у грузды-талеркі
З заечай капустай-кісліцай
Не высыпаецца соль,—
Стаяць пад кашлатай ялінай,
Якой пастухі
Аддавалі павагі даніну
На золкім
Туманным золку...

Адна яліна
Прарасла праз усе паверхі —
Праз перакрыцці бетонныя
І ўперлася ў самую столь
Непашкоджанаю верхавінай,
Пушыстай, зялёнаю...

Гэта мая навагодняя ёлка!

## КРЫГАХОД

...І вось затрашчалі зімы абручы —
Страляе маланкамі лёд на Пцічы.
Ільдзіна ўзвілася
калючым яршом —
Ды толькі
асколкі
далей
шарашом.
І ў небе блакіт...
І блакіт у Пцічы...

Спяшаюцца крыгі ад сонца ўцячы.
Растануць яны,
ды не хочуць спачынку...
Плывуць па разводдзю
ільдзін аблачынкі...

* * *

Ластаўкі!
Вы сваімі нажнічкамі
Зразалі ўсё лета промні.
У пучкі вязалі,
Нізалі ў нізкі іх,
Насілі ў гняздо нястомна.

Я не шкадую,
Што над акном маім
Ваша гняздо апусцела,
Што паляцелі
У краі незнаёмыя —
Наша цяпло несіце вы!

## ЗАМАЛЁЎКІ НАЧНОГА НЕБА

### 1

Ноччу сяўба залатая на небе —
Уроскід між хмарак разоркі.
Што за нябачны там
казачны сейбіт
Сее ў іх зерняты-зоркі?..

2

Толькі й глядзеў бы, здаецца, угору,
Як, чорнае лісце зрываючы,
Падаюць,
падаюць,
падаюць зоры,
Пад месяцам выспяваючы.

* * *

Эх, рыфма́чка старая — зязюля,
Вечна б'ёмся над новаю формай...
А вясною твой голас пачулі —
Як заўсёды, ён зноў непаўторны!

## ЗІРНУЎШЫ НА ТВАЮ ГАЛАВУ

Як гальку,
Яе шліфаваў
Час у сваіх калдобінах...
Нездарма
Твая галава
На шар зямны
Падобная.
Лягла
Не адна
Баразна
На шчокі —
Іржэўнікам колюцца.
Бялее здалёк сівізна
Шапкай Паўночнага полюса...

* * *

Куды вы, аблокі,—
Куды вы,
Лісты чарнавыя паперы,
Падхопленай ветрам дасвецця
У мяне са стала непрыкметна?!.
Куды вы?
Куды?
Пачакайце!..
Яшчэ не паспеў я паставіць
І кропкі апошняй у вершы...
І рыфмы — ягоныя крылы —
Не ўсюды яшчэ падагнаны...
Паправіць як след не паспеў я
І слоў вуглаватых, нязграбных,
Што вас да зямлі прыціскаюць...
Куды вы, скажыце?
Куды вы?!.
Нялёгка вам будзе ў дарозе,
Сустрэўшы заслон навальнічны...
І я не здзіўлюся, калі вас
Пакрэсляць без жалю маланкі...

## ЗГАДКА

Згінь ты, дрымота ціхая!
Што з гадзіннікам стала?!
Гэтак шалёна цікае!..
Сну — як і не бывала.

Глянуў: фурман пацмоквае —
Конь па асфальце цокае...

## ЗАБЫТАЕ ДРЭВА

Некалі,
Вельмі даўно-даўно,
Расло на зямлі
Адно
Незвычайнае дрэва.

Лісце такое на ім было —
У сем колераў вясёлкі
Цвіло,
Нечуваным гучала спевам.

Кожны лісточак
Спяваў на ім
Голасам непаўторным
Сваім,—
Усхліпвала скрыпка,
Звінелі цымбалы...

Міма ішоў
Глухі чалавек,
Дрэва пад самы корань ссек,—
Здрыганулася дрэва,
Упала.

Птушкамі
Лісце ва ўсе бакі
Пырхнула,
Агалелі сукі,—
Дрэва вясной анямела.

Птушкі,
Пабраўшы свае галасы,
Разляцеліся у бары-лясы
Па ўсім свеце белым.

Хоць і мінуў
Той далёкі час —
Птушкі і зараз баяцца нас,
Хоць і не крыўдзім мы́ іх.

Сядуць на голле
Вясновых дрэў —
Па ўсім наваколлі
Звініць іх спеў,—
Ажываюць галіны нямыя.

З дрэва на дрэва,
З тае даўніны,
Пералятаюць усё яны,—
Шукаюць тое,
                першае дрэва,
Што ў кожнай галінцы
Спалохана дрэмле...

## НАДЗЕЯ

Цябе я спапяліў,
Лічыў —
          забыта...
А ты ізноў травінкай прарасла
На голым даху,
На сцяжынцы бітай,
На чорнай пляме даўняга кастра.

## НАЧЛЕЖНЫ ЎСПАМІН

Белыя грывы туману,
Чорныя грывы лесу,
Барвовыя грывы вогнішча,
Пракурэлыя дымам начлежным,
Нада мной навісаюць нячутна,
Выплываючы з цемры...

Чорныя,
Белыя,
Чырвоныя коні,
Зялёнымі дакранаючыся губамі,
Нібыта паскардзіцца хочуць,
Што я іх быстрыя ногі
Да самай раніцы спутаў,
І ім цяпер не дабрацца,
Марудна перабіраючы
Пярэднімі спутанымі нагамі,
У даўнюю сваю даўніну,
Дзе іхнія табуны іржалі...
Таму,
        бадай,
Калі днец пачынае
І я распутваю коней,
Яны,
Ускідваючы да неба грывы,
Адбіваюць паклоны світанню,
Заўсёды, напэўна,
                                думаючы,
Што путы світанне знімае...

## НА ВАРЦЕ

Не моўкне
камарыны звон крынічкі,
Шматае вецер цішыню дасвецця...
Застыў на варце ў схове пагранічнік —
Расінка на штыку не здрыганецца.

## ЯБЛЫНЬКА

Чакала столькі ты
Жаданае пары.
Дарэмна праз платы
Пляткарылі вятры.

Я рады за адно:
Ты шчыраю расцеш!
Мне грукнула ў акно,
Што хутка зацвіцеш.

## ЗАМАЛЁЎКІ ЛЕСУ ПЕРАД СНЕГАМ

### 1

Лес —
пілой дрывасека дужага,
Зуб'е ўгору — да хмар дастаць
І на коўдру
для хвой прастуджаных
Пілавіння напілаваць.

2

Хвоі —
хмурай сцяной здзічэлаю,
Змрок пад пахі ў цяпло залез...
Па́даючы,
сняжынка белая
Перакрэсліла цёмны лес.

## УЛАЗІНЫ

Як паляна, дом прасторны,
На аконных ліштвах — зоры...
Гладка выскліюджаны бёрны,
Разамлелым пахне борам.

Касяком сучкі па столі,
Вочы зайцавы нібыта...
Госці ў хату з хлебам-соллю —
З пажаданнем дабрабыту.

Хтосьці з хлебам-соллю разам
Падарыў і вершаў томік,
Каб і потым, пасля ўлазін,
Гасцявала песня ў доме.

* * *

Спілавалі дуб купчасты.
Зглухла пушча.
Вечарэе.
У паветры кружыць птаства —
Не прытулішся на дрэве.

Поўнач зябне.
Праз дрымоту
Быццам чую: птушкі недзе,
Як бяздомныя сіроты,
Нанач просяцца ў суседзяў...

## ГОРЫ ПОЎДНЯ

Спакон вякоў лютуе мора,
Куды ні кіне хвалі, ўсюды
На іх шляху сівыя горы,
Нібы двухгорбыя вярблюды.

Гарбамі мора засланілі
У сваёй маўклівасці зацятай...
А дзесьці пасвяцца ў далінах
Спакойна іх вярблюджаняты.

## ДЗЕДАВА ХАТА

Дзедава хата...
Была ты сасною,
Вечназялёнай
Дамоўкай лясною.

Вокны і дзверы?
Не мела патрэбы!
Вокны і дзверы —
Між голля ўсё неба.

Гнёзды і ў сне ты
Стамлёна гайдала,

Шчабетунам
Калыханкі складала.

Ці вечарэла над лесам,
Ці днела,
Смела
Вясёлае птаства
Звінела.

Снегам цябе
Спавівалі завеі,
Ты ад завей
І ад моху ссівела.

І пад тваёю
Страхой-верхавінай
Казкі жылі,
Ажывалі быліны.

Дзедава хата маўчыць,
А бярвенне
Ў доле варушыць
Замлелым карэннем.

* * *

Жаўрук нябачную струну
Усё жыццё сваё імкнецца
З зямлі да сонца працягнуць,
Але яна ўсё рвецца, рвецца.

Уніз ён каменем ляціць,
Каб ад зямлі набрацца сілы.
І зноў звідна струна звініць,
Край сонца зноў трапечуць крылы.

Вось так і ты, паэт, калі
Струна раптоўна абарвецца,
Хутчэй да роднае зямлі
Зноў прыпадзі збалелым сэрцам.

## АД ОРШЫ ДА БРЭСТА

*(Лірычны рэпартаж)*

У ліпені 1900 года У. І. Ленін ехаў за мяжу чыгункай праз Оршу — Барысаў — Мінск — Бярозу — Брэст.

Імчы, цягнік!
Ты — быццам кінастужка,
Раскручаная волатам наўсцяж...
Ляцяць удаль
Акон нямыя кадры,
За вокнамі мяняецца пейзаж.

Пастой, цягнік!
Вазьмі мяне ў дарогу:
Хачу я стужку часу развінуць
І апынуцца
Ў самым ранку веку,
На кадры непаўторныя зірнуць.

* * *

Прыпынак — Орша.
У акне вагона —
Знаёмы, дарагі нам сілуэт.
Скажы, аб чым
Тады ён думаў, Ленін?

Раскрый мне, стужка,
Дум яго сакрэт.

...Гудзе натоўп.
Станцыйны звон ударыў.
Куды імкне людскі нястрымны вір?..
Бадай, Сібір
Не страшыць беларуса:
І Беларусь — не лепей за Сібір.

Як і астрог,
Дзе ўсё ж а кормяць хлебам,
Якога тут ніколі ён не меў...

Такою Леніна
Сустрэла явай Орша,
Такою явай край увесь сустрэў.

За Оршай ён,
Зірнуўшы на палоскі,
Ўсміхнуўся беларускім васількам...
Напэўна, ў думках
Іншым край убачыў
І памахаў прыветна пастушкам.

* * *

Імчы, цягнік!
Імчы дарогай тою,
Што Леніна ў далёкі шлях вяла,
Што праз гады,
Ад Оршы і да Брэста,
Ягонай марай светлай расцвіла.

* * *

У кадрах вокан —
Ільняное мора —

Бяжыць назад — спяшаецца ўцячы
Туды, дзе талачынцам
Выткуць «дзякуй»
На ручніках аршанскія ткачы.

* * *

Цішэй, цягнік!
Перад табой Барысаў —
Працоўная сімфонія гудкоў.
Прыслухайся —
І гукі піяніна
Табе пра ўсё раскажуць тут без слоў.

Сімфоніяй
Па-над гадамі будзе
Тут слава пра людзей яго гучаць.
І ў сэрцы — гукі
«Апасіянаты»,
Што гэтак чаравала Ільіча.

* * *

Гукнуў цягнік
Ля Жодзіна прыветна,
Убачыўшы «БелАЗы» на шашы.
Ішлі яны
Навыперадкі з ветрам —
Былі на міжнародным кірмашы.

Завод-гігант
Стаіць на месцы вёскі,
Дзе толькі й чуўся нудны рып калёс.
«БелАЗ»-асілак
Сёння тую вёску
Усю б адразу на кірмаш завёз.



Мой родны Мінск,
Гасцінная сталіца!
Вакзал гамонкай шчыраю гудзе...
Калісьці Ленін,
Выйшаўшы з вагона,
На горад наш задумліва глядзеў.

...Дзесь над ракою,
Аж на ўскрайку Мінска,
У Доме з'езда — цепліцца святло...
Як неабходна,
Як патрэбна «Искра»,
З якое б полымя на свет увесь было!..

Цяпер Дом з'езда
У цэнтры, на праспекце,
Што горда носіць Леніна імя.
Тут пра яго
Пяшчотна шэпчуць ліпы,
Заўсёды шэпчуць — лета ці зіма.

А сам ён —
На ўвесь рост ля Дома ўрада
Гаворыць з намі — чуе цэлы свет.

Што скажа Ленін
Сёння нам і заўтра,
Як мы яго здзяйсняем запавет?

І ў дні, калі
Да нас прыходзіць свята,
Калі над плошчай — ззянне кумача,
Ідуць сюды
Працаўнікі-мінчане
Парадаваць ад сэрца Ільіча.

* * *

Вось і Бяроза.
Тут яго, напэўна,
Тады праводзіў карагод бяроз.
У топку йшлі
Бярозавыя плахі —
І весялей пачмыхваў паравоз.

Цяпер — зірні:
Над Белазёрскам — зоры,
Бы Млечны Шлях павіс на правадах.
Па ім знаходзім
Мы любую вёску,
Па ім зямны свой вызначаем шлях.

Свяціце, зоры!
Сёння ваша свята.
Вы назаўжды імглу перамаглі.
Ў святле былая
Ўскраіна Расіі —
Навекі выйшла Беларусь з імглы.

* * *

Імчы, цягнік,
Пад віядукі Брэста!
Перад табою — новы далягляд.
І песні новыя
Лунаюць над Палессем,
Спявае ўся зямля
На новы лад.

Мы бачым тут
Гісторыі скрыжалі,
Што пісаны крывёю і агнём.

Над Бугам горад —
Будаўнік і воін —
Вітае пасажыраў з добрым днём.

З Радзімаю
Развітваўся тут Ленін,
Каб выкрасаць наступным дням святло...
Рубеж сустрэч,
Расстанняў і праводзін,—
Тут зерне дружбы шчодра прарасло.

Тут у адну
Зліваюцца дарогі,
Каб там, далей,— ізноў ва ўсе канцы.
А на платформах —
Трактары і МАЗы —
Савецкай Беларусі пасланцы.

У пазалоце
Брэсцкія каштаны,
І сняцца ім аб вечным сонцы сны.
А Брэст стаіць,
Як вартавы Радзімы,
Стаіць на варце міру і вясны.

* * *

Бывай, цягнік!
Да новых стрэч, дарога,
Што Леніна ў далёкі шлях вяла,
Што праз гады,
Ад Оршы і да Брэста,
Яго най марай светлай расцвіла.

# ПРЫСТАНЬ

*(Паэма)*

Прыстань, Прыстань,
знаёмая вёска,
Ці даўно ты садамі цвіла?..

*З лясной песні*

З няўмольнай халоднай рулі,
Балюча працяўшы ранне,
Дзень абарвала куля.
Капнула кропля крыві
З пякучай раптоўнай раны...
Памяць!
Той дзень ажыві!

За кропляю — кропля
З раны
Крывавай зарой крынічаць,
Капаюць на паляны,
На травы,
На бальшакі,
На паласу пагранічча...
Сцякаюцца ў раўчукі.

Цякуць раўчукі па барознах,
Па крэпасным каменні,
Па каляінах дарожных
І па маім радку...
Цякуць раўчукі,
Ў злюценні
Зліваючыся ў раку.

Паводка згрызае наспы,
Карчуючы, дрэвы нішчыць,
Сонца, не ўстаўшы, гасне,

Лавай кіпіць паток,
Крывёй залівае ўзвышшы...
Лютуе, вірыць патоп.

З віроў усплываюць пачвары:
Голад,
Хвароба,
Холад.
Прагнуць каты ахвяры
Безабароннай, нямой,
Паўзуць па сялібах голых
Зялёнаю саранчой.

Прайсці праз усе ўраганы
Мужныя здолеюць, змогуць,
І будзе той дзень жаданы
Ззяць і ўначы святлом,—
Той дзень, што днём Перамогі
Мы ўсе,
Хто выжыў,
Завём.

1

З крывёю бяда не сплывае,
Яна — мой боль,
Мой клопат...
І сёння мяне залівае
Злюцелая хваля патопу.

Патопу,
Што прывідам схлынуў,
Патопу,
Што ў нетрах схаваны
І новай надзеі плаціну
Гатовы прарваць нечакана.

І Ноем
Дваццатага веку
У ботах салдацкіх,
Кірзовых,
Плыву я
Праз чорныя рэкі,
Плыву я ў скрываўлены золак...

Сухою трымаючы зброю,
Наводжу масты-пераправы...
На бёрнах
Хаціны старое
Плыву я
Да жудаснай явы...

Вось гэтак штодзень я рыхтую
Ў дарогу
Нялёгкую мару.
Знаёмую вёску ратую,
Згараю штодзень у пажары.

...Наводжу
Ўспамінаў пантоны
Пад лютым агнём кінжальным.
Мне бачыцца
Бераг зялёны
Без чорнага смутку,
Без жальбы...

2

Дзень добры, штодзённы мой клопат!
Дзень добры, руплівая праца!
Што рана ўзбудзілі,
дзякуй!
Мне трэба за справу брацца.

А справа не церпіць адкладу —
Мне памяць збіраць у дарогу.
Яна паплыве праз часіны,
Яна папрастуе ў трывогу...

Бяру я ў дарогу з сабою —
Заўсёды спатрэбяцца, знаю,—
Бяру свае
Гнеў і любоў я,
Бяру
Дабрыню і нянавісць.

Сядай жа, мой клопат,
За вёслы,
Рыпіце,
Трывог маіх рэі,
Мне плыць успамінна да вёскі,
Дзе тлеюць у прысаку вёсны,
Дзе толькі дзядоўнік чаўрэе.

Павінен мой човен прычаліць,
Паклаўшы канец паняверцы,
Да прыстані з жальбаю чаіц,
Да Прыстані —
Памяці сэрца...

3

Стыгнуць Прыстані
Абгарэлыя каміны
Па́лямі
На вятрах прадвесня...
Да іх плыву я
Праз боль даўніны,
Плыву
Праз нявысненыя сны

Шукаць забытую песню.
Песня тая была.
Ды сплыла
Злым куродымам,
Чадам...
Песня тая
Некалі тут цвіла
Белым, у росах, садам.
З суседніх вёсак
Праставалі прыгажуны,
Да Прыстані прыставалі...
Туман бялёсы —
Неразвеяным дымам вайны
Клубіцца
На ціхай хвалі...

Два крылы,
Два бялюткіх вяслы,
У вадзе і ў блакіце світальным:
Пралятаючы міма,
Вясной буслы
Над Прыстанню робяць
Круг развітальны...
Не прыселі ні разу
З тае пары,
Зведаўшы свет няблізкі.
Крыўду горкую
Ім расказалі вятры,
Што гушкалі
Буслянкі-калыскі...
...Пáлі Прыстані —
Абгарэлыя каміны
Трымаюць памяць вайны.
Краніся цагліны —
Апячэш даланю.
На лежаку —

Рука пад шчаку —
Грэюцца расстраляныя сны...
Ноччу цвыркун,
Адзін на ўсё наваколле,
Цвеліць цішыню.
На сваё папялішча
Ад сажы яшчэ чарнейшы
Прыбягае на досвітку кот —
З даёнкай сустрэць гаспадыню...
Клямка ляжыць на месцы,
Дзе ў сенцы быў уваход.
Ніхто на парог не ступіць,
Клямкі ніхто не падыме...
Ні захмялелыя
У дарозе сваты,
Ні меншая,
Што загулялася да віднаты...

4

Усіх сагналі ў абору.
Роспач зайшлася нема...
Падскочыла полымя ўгору,
Лізнула крынічнае неба.

Лізнула полымя латы.
Хутчэй бы!..
Чаму так марудна?..

Зямля пахіснулася раптам,
Набгом нахіліўшы студню:
Нясцерпную смагу натоліць
Укленчыла дымная Прыстань.

Барвовая спёка вуголля...
Ройныя пырскі іскраў...

Не зашыпела ў горле
І кропелькай нават малою...
Гарачая смага вуголлем
У горле,
На горле —
Пятлёю...

Слязой не астудзіш салёнай
Счарнелыя, ссохлыя губы...
Па зрубу —
Зглушэламу звону —
Вядро паляцела ў прадонне...
Усплёску не чутна са зруба...

Дзе Прыстань глядзелася ў хвалі —
Ні хаты,
Ні саду,
Ні плоту...
А сваякі не хавалі
Нябожчыкаў...
Іх не было тут.

І толькі Марылька ды Янка
Ўдваіх засталіся жывыя —
Малыя тады
На світанку
На гала пайшлі ў журавіны...

5

Прыстань!
Шукаць дарма
Магілы твае прыйшлося б —
Ніводнага крыжа няма...
Дзе па табе загалосіш?!.

Прыстань!
Ты й сёння гарыш —
Попел заслаў паўсвету...

Дзесьці жалезны крыж
Хтось беражэ дагэтуль...

На тым крывавым крыжы
І я з табою распяты...

Прыстань!
Пакуль буду жыць,
Не будзе ў забойцы свята.

Начэпіць —
Агнём апячэ
Крыж той забойцу грудзі.
Ад Прыстані не ўцячэ —
У агні захлынацца будзе.

6

Вяслуйце,
Нястомныя вёслы —
Мае неспакойныя думы!
Узяў я матыкі і вілы,
Цяжкія лапаты,
Якія
Далоні мае паўтарылі...
Узяў іх з сабой, каб расчысціць
Жытла чалавечага ляда —
Прыбраць галавешкі, цаглінне,
Дзірван ускапаць скамянелы,
Каб там, дзе было папялішча,
Зноў вёска жывою паўстала
І зноў называлася — Прыстань.

7

Мне трэба зрабіць нямала,
Прыйшоўшы на даўняе ляда:
Перш-наперш — павыкапаць ямы...

Глыбокую самую яму —
Пад студню з вадой гаючай.
Бо што даражэй чалавеку,
Як вернецца з цяжкай дарогі,
За конаўку, поўную звону
Празрыстага, ледзяногаʔ!
Бо што даражэй чалавеку,
У якога вусны спякліся,—
За кроплю вады, за расінку?!
Бо што даражэй і жаданей
Дзядам,
маладзіцам і дзецям,
Якія вярнуліся з пекла,
Якія ў агні зайшліся,—
За тонкі цурок-праменьчык?!.

Якую ж прадонную студню
Мне ў Прыстані выкапаць трэба,
Каб полымя лютае знішчыць,
Заліць,
загасіць назаўсёды!
Каб іх наталіць,
перасмяглых —
На свет з небыцця ўваскрэсіць!..

8

...Прыйшоўшы на гэтае ляда,
Капаць і капаць мне ямы
Пад яблыні, слівы, ігрушы —

Пад прыстань бухматых аблокаў,
Што будуць вясной праплываць тут
І ціха вісець на галінах...
Бо чым жа дзяцей пачастую,
Калі яны ўвосень, па звычцы,
Пачнуць на сады зазірацца?..
Хачу, каб яны не пазналі,
Што ўсе іх сады абгарэлі
У тую пякельную восень.
Я ім не скажу, што бываюць
У печаных яблыках дрэвы...

9

...Яшчэ адну яму капаю —
Пад пограб,
                    каб быў ён прасторны
Для бочак з капустай, гуркамі,
Для бульбы, што сопкай завецца...
Усіх накарміць іх трэба,
За столькі гадоў згаладалых,
На ўлазіны перш запрасіўшы
У іхнія ж новыя хаты...
Хай бразгае весела клямка.
Мне трэба паўсцягваць на ліпы
Бароны — буслам на калыскі...

10

Ці даўно ты садамі цвіла,
Жыта спелае жала,—
Звонкай прыстанню песень была?..
Стала прыстанню жальбы.

Ці даўно ты садамі цвіла,
Земна цяпліла зоры,—

Зорнай прыстанню шчасця была?..
Стала прыстанню гора.

Ці даўно ты садамі цвіла —
Да нябёс завіруха,—
Светлай прыстанню мараў была?..
Стала прыстанню скрухі.

Прыстань ночы, самоты, імжы,
Прыстань болю і мукі...
Над садамі — крыжы не крыжы —
Распасцёртыя рукі...

А пад імі — і крыжыкаў рад,
Што ляжалі ў бяссіллі.
Ручкі ўроскід... Відаць, немаўлят,
Што яшчэ не хадзілі.

...А крыжы галасілі...

Крыкі болем гарэлі,
Ды іх
Разабраць немагчыма —
Вырываліся з глотак сухіх
Разам з полымем, з дымам.

І зліваліся ў лямант адзін,
У пякельнай няволі,
Каб знайсці маё сэрца,
І ў ім
Не замоўкнуць ніколі...

11

Капаю...
Зямля, як рана,
Крычала б, каб толькі магла...

То выблісне шкло нечакана
Разбітым кавалкам святла,
То скрыгне начынак гліняны,—
Адвечныя сведкі жытла.

Нібы скамянелыя горлы —
Пустыя глякі і збаны...
Хвароба, і холад, і голад
У іх засталіся з вайны,
Крануўся іх вецер — і ўголас
На ветры скуголяць яны.

*ГОЛАД...*
*Раніцаю — не снедалі.*
*Голад...*
*Вечарам — не вячэралі.*
*Адкуль ты зноў — немаведама —*
*Болем звёў маё чэрава?*

— Я не паміраў яшчэ ніколі
Там,
Дзе замест хат адно вуголле,
Замест хлеба — чорнае каменне,—
З чалавекам я —
Ягоным ценем...

У пустых гаршках
На дне жыву я,
Лыжкамі шчарбатымі шкрабу іх,
Над карой трасуся,
Над мякінай,
Жорны аплятаю павуцінай...

Калі ж раптам свет вайну забудзе,
За аралы возьмуцца ўсе людзі,
Як жабрак,

Не знаючы спакою,
Я пайду з працягнутай рукою,
Міласціну папрашу такую:
«Замест зерня сейце, людзі, кулі,
Бомбамі зямлю сваю арыце,
Ніву ў рытвы скрозь launch ператварыце,
Танкамі, зачахлую, здратуйце,
І на меч арала перакуйце...»
Там,
Дзе колас гіне з недароду,
Прыстань я сабе знайду заўсёды...

*ХОЛАД*
*Апёк знянацку —*
*Голас падаў здубелы,*
*Нібыта*
*Руляю парабелум*
*Сэрца маё намацаў...*

— Я — холад,
Я — полымю брат па радні,
Таму і пякучы, магчыма,
Што я нарадзіўся ў пякельным агні,
Дзе топіцца сталь, як вашчына.

Я, холад, адтуль,
Дзе і днём,
І ўначы
Курадымяць печы панура,
Дзе праз вякі
Куюць крыжакі
Мячы,—
Я з кузняў пякельнага Рура.

Да вас,
Беспрытульных, раздзетых,

Іду
На рулях, штыках заінелых.
Я вас і ў адрыне, і ў яме знайду,
Каля камінοў абгарэлых.

Хоць, можа, калі
Пад дзяругай нябёс
Ад хат вашых жар і астыне,
Ды будзе ў нашчадкаў
Па скуры мароз
Ісці пры адным успаміне...

На вашых пажарышчах
Прыстань знайшоў.
Люблю я пагрэцца ля цела.
Да вас я,
Абдзёртых вайною,
Ішоў
У лесе штыкоў заінелых...

*ТЫФУС,*
*Зноў твой голас пачуў,*
*І ў грудзях — напаленае каменне...*
*Зноў пацямнела ўваччу —*
*Нібыта сонечнае зацьменне...*

— Холад і голад
Заўсёды ў хаўрусе са мною,
Лёгка ісці
Па слядах іх, за іхняй спіною.

Цэлыя вёскі
Лажыў я снапамі упокат,
Мною забраных
Лічылі, бывала, на копы.

Ведаў усіх я
Ў бараках, канцлагерах, гета,
Рабіў я з людзей
Адмыслова калісьці шкілеты.

Хто выжываў
На счарнелым лушпінні ад бульбы,
Тым назаўсёды
Дарыў я пратэзы і кульбы.

Хоць і было ім
Па дзесяць гадоў ці па трыццаць,
Людзі другі раз
Хадзіць пачыналі вучыцца.

Часам бывалі
Ў мяне і нягоды, турботы —
Ў Прыстані я
Быў астаўся зусім без работы...

Болей за ўсё —
Дык баюся сканчэння вайны я:
Ў колбы запруць мяне —
Цьмяныя турмы шкляныя.

І вывучаць будуць
Пад мікраскопамі ў цішы...
Толькі і клопату —
Колбы ды белыя мышы.

Не, не паверу,
Каб зноў не знайшліся галовы,
Што пажадаюць,
Каб быў я жывы і здаровы...

*СТРАХ,*
*Ты і дасюль мяне не пакінуў,*
*Снамі табе*
*Плачу я жудасную даніну,*
*Радасцю,*
*Што знікае імгненна,*
*Толькі пачую вучэбны голас сірэны,*
*Голас,*
*Што гатовы завыць вайною...*
*Прывідам страх*
*Стаіць за маёй спіною.*
*Страх гаворыць са мною.*

— Чаму не бывае зялёных кветак?
Чаму не бывае жывёл зялёных?
Зялёны колер — спакойны самы:
Зялёныя дрэвы, зялёныя травы...
Чаму ж у гадаў зялёны колер
І шынялі ў пачвар двухногіх,
Што прыпаўзлі у зялёных танках,
Зялёнае жыта дратуюць-топчуць?..

Я, люты страх, не з дзіцячай казкі,
Дзе, як заўсёды, канец шчаслівы...
Я страх не той, у якога ноччу
Па сподку вочы бываюць часам,—
Гляджу я з рулі адным, маленькім
І не міргаючым чорным вокам.
Я бомбай выю над галавою,
Але ніколі не забіваю,
Пятлёй халоднай ляжу на шыі,
Але нікога я не павесіў,—
Ва ўсім жыву я, што забівае,
Калечу сэрцы, калечу душы.

Вайна мінецца, а я — не згіну,
У сны прыходзіць штоночы буду,

Будзіць і кідаць у пот халодны...
Мяне ніколі забыць не змогуць,
Хто быў тады дзіцянём, падлеткам
І колькі год па куп'і балотным,
Па бітым шкле, па калючым дроце,
Па мінным полі хадзіў... А рукі
Заўсёды ўгору, заўсёды ўгору —
Я і на міг не спускаў з іх вока...
Вайна мінецца, а я — не згіну.
Вайны працягам у снах іх буду.
І на дзяцей мае ўсе разлікі,
На тых дваіх — хлапчука й дзяўчынку,
Што ў журавіны пайшлі на гала...

## 12

Штодзень уранку летам,
Ледзь-ледзь пачне світаць,
Бяжыць сцяжынка з дому
Па лесе пагуляць.

Яна заўсёды знае,
Дзе ягады растуць,
Дзе перайсці па кладцы,
Балотца абагнуць.

А толькі звечарэе,
І стане цёмна зноў,
У лесе не заблудзіць
І прыбяжыць дамоў.

## 13

Сцяжынка дамоў прыбегла,
Рупілася дарма:
Дымяць галавешкі.

Цэгла...
Вёскі няма.

Заламалі рукі дрэвы,
Зайшліся ў немачы каміны.

...Хлопчык з дзяўчынкай,
Нібыта Адам і Ева,
На ўсім свеце адны.

. . . . . . . . . . . . . . .

Бязбацькавічаў
Шмат на Беларусі...
Павыраслі.
Мінула й маладосць...
Я часта сам сабе
Згадаю ў скрусе:
Яшчэ ў нас і бязвёскавічы ёсць...

14

...Студню капаю
і ямы для саду,
Нібыта карчую
магільнае ляда.

Згарэлі —
ні трун,
ні магіл не было ў іх.
Памяць адкопваю,
спавітую мглою.

І абсыпаецца,
быццам той прысак,
Яшчэ і сёння
зямля твая, Прыстань.

Пад дзірваном —
кроў ударыла ў скроні —
Трапіўся раптам
старэнькі гармонік.

І сам ён сатлеў,
і няма гарманіста,
Ды ў ім твае песні,
гаротная Прыстань!

Рыпнуў гармонік —
і рэха наўкола
Перахапіла, як полымя,
голас.

Перадало
зарунелай галінцы,
Кожнай травінцы
і кожнай пясчынцы,

Кожнаму сэрцу —
вяснова-вятрыста...
Рэха не змоўкне
бяды тваёй, Прыстань!

## 15

Згубіла сваё «кі-гі»
У счарнелым чароце чаіца...
Быццам ступіў я на пекла кругі —
У адчаі
Спаленыя крычалі:

— Не знойдзеце нашай магілы,
След наш у полымі згас —
Нас полымя спапяліла...
Ці помніце, людзі, нас?

Зірніце на чорную хмару,
Што неба заслала наўскос:
Хмурынка плыла над пажарам —
Зрабілася хмараю слёз.

А восенню сад загрукаў,
Нібыта
Зноў абгарэў:
У роспачы нашыя рукі
Сталі сукамі дрэў.

А вочы...
На чорныя ночы
Агонь іх тады памяняў...
Навошта былі нам вочы,
Калі не пабачыць дня?..

А мара...
Жыве яна ў песні.
Не страшны агонь ёй, ні час.
У песні мы зноў уваскрэслі,
Спявайце яе за нас:

«Прыстань, Прыстань,
знаёмая вёска,
Ці даўно ты садамі цвіла?..»

Замоўк кулямётны лёскат,
Халодзіць зямлю імгла.

16

Жывыя помсцілі па праву
З-за кожнай крушні і камля...
Сплываў,
Знікаў патоп крывавы
І вызвалялася зямля.

Мы праз віхуры і праз смерці
Прайшлі,
Пакляўшыся ў любві...
Цяжэй за шар зямны — паверце! —
Малая кропелька крыві...

Зноў гэта кропля
Стала куляй,
Што першай раніла байца...
І зноў яна застыла ў рулі
Тупым кавалачкам свінца.

А звер цікуе,
Зірк на ўзводзе...
Ды мы на варце — ў спёку, золь,
З той рулі мы вачэй не зводзім:
За намі —
Новы дзень на ўсходзе,
І Прыстань —
                    наша кроў і боль.



# Плуг

*(1978)*

## Вязьмо твайго дня

### ВЯЧЫСТАЕ ДРЭВА

Гора з плячэй,
З дарог камяні
Змыла
Кастрычніцкая залева.
Пусціла
Ў глыб зямлі карані
Рэвалюцыі
Радаслоўнае дрэва.

Білі
Няшчадныя перуны —
Выстаяла,
Галініцца зорна.
За яго трымаецца
Шар зямны,
З вятрамі ўладна
Гамоніць крона.

Вечназялёнаму,
Век стаяць,
Пад навальніцамі
Не схіліцца.
Удзячны лёсу павек,
Што і я
Лістком адным
На яго галінцы.
Несамавітую,
Даланёй захіналі ў бядзе...
Згарэла на ветры
Палынна-горкім.
А святло ад яе
Праз далеч ідзе,
Нібы ад пагаслай зоркі.

## ГАЗНІЧКА

Не пела,
Не ззяла яна
Ў чорнай бездані
Зыркай знічкай,—
У зямлянках хліпала,
Ў буданах
Самаробная,
З гільзы,
Газнічка.

У корку —
Сівой кудзелі шматок,
Дыміла-чадзіла,
Старалася, пасляпенька,
Пакуль не вылізвала
Згуслы

Змрок
Сваім язычком маленькім.

Міргала ласкава
За комінам,
Над сталом
Газоўка,
Газніца,
Газнічка...
Яе дзівосным,
Жывым святлом
Аззята першая кніжка.

## ПЕРАСЕЛЛЕ

Пад знос ідзе старая хата,
Выносяць скарб гаспадары...
Навошта вы цяпер, лапата,
Піла, каса і серп стары?

Пад плотам featureзнае начынне
Як непатрэбшчына ляжыць.
Мо раптам з гэтае прычыны
Хмурынка ў вочы забяжыць...

Бульдозер поблізу грукоча.
З яго ці з голай печы дым?
Над хатай ластаўкі свіргочуць —
Не зразумелы рэзрух ім.

Старых хвалюе пераселле,
Яшчэ нязвычнае жытло.

Перад дарогаю прыселі:
«Бывай усё, што тут было...»

Ў блакіце шапкай гмах вясёлы,
Не захінае вокны цень...
Прачнуцца ўранку навасёлы —
І новы свет,
І новы дзень.

І, можа, ўспомняць вінавата,
Хоць не было тут іх віны:
Свіргочуць ластаўкі над хатай...
Дзе ж пасяліліся яны?

## КАМЕННЫЯ СЛОЎНІКІ

На школьным зялёным пляцы
Статуя безыменная:
На руках
                у каменнай маці
Дзіцяя каменнае.

Цяпер ім агонь не страшны,
Не страшна пекла ім...
Звалі малое —
                        Ванем? Наташай?
Маці —
            Марыляй? Тэкляю?

Радок у радок на плітах
Імёны роўненька —
Навечна
            выбітыя з граніту
У крывавых прожылках слоўнікі:

Куліна,
Мікола,
Марыся,
Васіль,
Цімафей,
Алёна...

Імёны перабяры ўсе —
І кожнае ў спапялёных.

## ТВОЙ ДЗЕНЬ

Устань да сонца,
Хай само
Яно цябе сустрэне,—
З ягоным
Звяжуцца ў вязьмо
І дня твайго праменні.

Жалеза куй,
Гані загон,
Дзень —
Сам святлом напоўні.
Збірай у сноп шчырэння плён,
Ты — бог,
Не маеш роўні.

Шчыруй,
Пакуль усё не змог,—
Аддана, несуцішна,
Пакуль пад самае вязьмо
Больш каліўца не ўціснеш.

Вязьмо — твой дзень,
Твой німб навек.
Да сонца ўстань —
На ўсходзе
Не сонца ўсходзіць —
Чалавек,
І вышай сонца ходзіць.

## ВЕТЭРАНЫ ВАЙНЫ

Хоць нашу ласку і пашану
Ім аддаём усю спаўна,
Ўсё меней, меней ветэранаў,
Нанова крываточаць раны —
Да іх вяртаецца вайна.
Ідуць яны няспешным крокам —
Герой Дняпра,
Герой Дзвіны...
Ўсё аддавалі нам да кроплі,
На іх грудзях уся Еўропа
Далёкім водгуллем звініць.
І немагчымае б магчымым
Зрабіць,
Каб век іх быў даўжэй!
Як нам без іх у далячынях?
Нашчадкі іх — за іх плячыма
І разумней мы,
І дужэй.
І нам такімі б быць заўсёды,
І нам так жыць і працаваць —
Прайсці праз золь і непагоду
І перад сонечным заходам
Унукам так усё аддаць.

## ЦІТВА

У плёсах пакатых
Ля вёскі Цітва
Да звону напята
Пцічы цеціва.

Да вуснаў далоні
Прыклаўшы, гукні —
Нібыта з прадоння
Вяртаюцца дні.

Тут бродам хадзілі
Ў тумане зубры.
Самы тут вудзільны
Цягнулі ў віры.

І з правай бярозы
І з грабу плыты
Вязалі ў марозы
Тут на паўвярсты.

Мужык рос дзябёлы
І слыў сілачом.
Мядзведзя ад пчол
Адганяў дзеркачом.

А розную набрыдзь,
Што лезла сюды,
Так браў ён за жабры,
Што ў пельку й сляды.

Салдаты лясныя
Тут звеку раслі.
А славу сыны іх
Далей паняслі.

І як тут прапусціш —
Намоўка жыве:
Цітва была ў пушчы,
А пушча — ў Цітве.

З якое прычыны
Згадаў я Цітву?
Па бацьку радзіннаю
Вёску заву.

Крылата на ветры
Тут сцяг залунаў,
Што над сельсаветам
Ён першы узняў.

## БАЛАДА
## ПРА МАЛАДЗІК

Добры час маладзіковы,
Маладзік,
Расой умыты...
Гартаваная падкова,
Кім да неба ты прыбіта?

Кімсьці конь загнаны,
Ў мыле,
Падаў,
Плачучы нячутна,
І цябе згубіў у пыле
На дарозе шматпакутнай.

Хтосьці згорблены, лядашчы
Услед
Па той дарозе крочыў

І падняў цябе на шчасце —
Засвяцілася ты ўночы...

Гора, пэўна, зведаў многа
Ён пад хмурным паднябессем,
Што цябе
Не над парогам —
Над зямлёй усёй павесіў.

## СТОМА

З заімшэлых душных лёх
Цудам здолеў выбрацца.
Не падняць пудовых ног
І спіны не выпрастаць.

Пот чало ўсё акрапіў,
Гнуся я ляшчынаю.
Ледзьве-ледзь пераступіў
Сцежку мураўіную.

Цяжка кожны крок лічу.
Павуковы рэзгінкі.
Чорна-белыя ўваччу
Стракацяць бярэзнікі.

На чмяліны ўзбрыў грудок,
Лёг —
І ў апраметную...
Прыгадаю той куток,
Успаміны — светлыя.

## ТРЫВОГА

Зямля мая!
Колькі ў цябе
Уразаецца куль,
Колькі гарматных
Жэрлаў нацэлена,—
Як ты яшчэ дасюль
Навылёт не прастрэлена!

## ПАСТУКАЮ Ў АКНО

Здарожаны, заснежаны,
Пастукаю ў акно.
За шыбай занавешанай
Нічога не відно.

Я знаю — зачакаліся,
Здаваўся дзень, як год.
Згадалі — спаць не klaліся —
Прыкметы ўсіх нагод.

Па тупанню адгадваю,
Хто выйшаў адчыняць.
Стаю знямела-рады я,
Пачнуць мяне ўшчуняць:

— Хоць слоўцам бы паведаміў...
— Няўжо ж такі не мог?..
— А мыўся кот, як снедалі...

Снег лужынкай ля ног.

І будзе ўсё расказана.
То ж я вярнуўся ў дом,
Дзе ўсе мае завязаны
Шляхі тугім вузлом.

## СВЯТЛО ГАЛІНКІ

Лісток.
Галінка.
Яры першацвет.
Да сонца сокі выганяць галіну...
Паўтарацца ў ёй бліскавіцы след,
Разгалістасць вясновай ручаіны,
Нябачныя ў глыбінях карані,
Сцяжынкі ўсе
На шорсткай далані.

Галінка —
Дрэва чуйная рука,
Што пальцамі гучкоў сваіх збірала
Расінкі неба,
Подых свежака,
Пакуль не стала гузаватым ралам —
Працягам чалавечае рукі,
Што рыхліла дзірван на камякі.

Святло галінкі —
З сонечным раўня,
Насустрач сонцу
Шле прамень зялёны...
У турботах імі створанага дня
Не заўважаем,
Як шчыруе крона.
Святло яе —

Паверыць я гатоў —
Ідзе да зорак тысячы гадоў.

Зялёнай дзесьці —
За яе святло —
Зямлю завуць.
Агорне часам скруха,
Што гэтае святло да зор дайшло,
Калі ўжо дрэва на зямлі патухла.

Святло галінкі!
Жудасна,
Калі
Яно дачасна гасне на зямлі.

## БАЛАДА
## ПРА КАХАННЕ

Праз дрот калючы,
Аўчарак іклы,
Да болю сцяўшы дыханне,
Праз варту,
Краты
Яно пранікла
У лагер смерці,
Каханне.

За ім сачылі
І віжавалі.
Ласкавы позірк —
Як здрада.
Яго знішчалі,
Ды выжывала —
Не выдай яго паглядам!..

Яна і ён —
Па семнаццаць вёсен.
Вочы —
Вочы сустрэлі.
Пяшчоты ім
Схаваць не ўдалося —
Асуджаны да расстрэлу.

...Здзіралі вопратку з іх
Апантана,—
Ад жаху зайшліся сэрцы,
Не распранайце іх,
Закаханых!
Быць голымі —
Горш ад смерці.

Плыві хутчэй,
Туман вечаровы,
Будзь, туман, літасцівы.
Трава буйная,
Ўзыдзі над ровам,
Схавай, трава,
Іх цнатлівасць.

Перад каханым
Яна рукамі
Сваё захінала цела...
А ён першы раз,
Не міргаючы,
З ямы
Глядзеў на яе,
Знямелы.

## ВЯТРЫ

— Дзе, вятры, вы начавалі?
— Ў конскіх грывах.

— А чаго так рана ўсталі?
— Путаў мы баімся.

— Дзе былі пасля залевы?
— Лужыны студзілі.

— А нашто страху падралі?
— Акалот калоўся.

— А куды цяпер вы нанач?
— Сад зялёны трэсці.

— Вартаўнік жа мае стрэльбу?
— Ў рулю мы пасвішчам.

## РОДНАЯ ВЁСКА

Дзень добры, Варонічы,
Вёска над Пціччу,
Калыска маіх
Недаспелых гадоў!
Ледзь вочы заплюшчу —
Ў адведзіны клічаш,
Дарогу ўсцілаеш
Лістотай садоў.

Занятыя працай,
Мы бачымся рэдка,
А столькі ж у кожнага

Добрых навін!
Маўклівая ў будні —
Ты помнішся гэткай,—
Шуміш на вяселлях,
На святах радзін.

А колькі было б іх,
Радзін і вяселляў,
Каб хлопцы жывымі
Прыйшлі ўсе з вайны,
Каб сёння яны
За сталы твае селі!..
Прыходзяць жа толькі
Яны ў твае сны.

Я помню,
Сурова ты нас гадавала,
За працаю змалку
З нас кожны сталеў.
Мы кволымі вырасцем,—
Ты бедавала,—
Праснак не заўсёды
Гасціў на стале.

Пра ўсё не раскажаш
І ўсю не апішаш
Цябе, мая вёска
Над Пціччу-ракой.
Ты думы мае
І дагэтуль калышаш
І сэрцу заўсёды
Вяртаеш спакой.

Там журацца
Мной неабітыя росы,
У полі барозны,

Што колісь праклаў,
Мае там на лузе
Сумуюць пракосы,
Якія прайшоў я
З касою між траў.

Там памяць мая
І начуе, і днюе,
І ведае ўсё там
Яна да драбніц.
І я цябе, вёска,
І бачу, і чую,
І птушкай там буду
Да скону кружыць.

## ЧАКАННЕ

Пад снегам —
Бітыя сцяжынкі
Адпачываюць ад турбот.
Здаецца, бачу, як дажджынкі
Пылок прабілі навылёт...

Пад снегам —
Луг у звонкіх красках,
Пяшчота цёплай муравы
І баразны скупая ласка,
Маркота ціхай сон-травы...

Пад снегам —
Росныя паляны,
І верасовы гуд чмялёў,
І ветрык радасна-крамяны,
Прапахлы водарам палёў...

Цнатлівай радасці спаткання,
Напэўна, не адчулі б мы,
Калі б не вечнае чаканне
Зімой — вясны,
Вясной — зімы.

## НЕХТА ГУКАЕ

Марна гушчар
Цераблю непралазны,
Выйсця ў святло шукаю,
Чую ў сябе
За спіною выразна —
Нехта гукае...

Хмары аблогам,
Сячэ бліскавіца,
Ў дол карані пускае,
Варта ў нямоце
На хвілю спыніцца,—
Нехта гукае...

Над пагарэлішчам,
Над папялішчам
Печ — быццам здань якая,
Вецер самотна
Ў коміне свішча,—
Нехта гукае...

Хлеба акраец
Вазьму толькі ў рукі
І міжволі чакаю
Голас галоты,

Адчаю і скрухі,—
Нехта гукае...

Здарыцца,
У хадзе падаб'юся,
Смага горла сціскае,
Над прахалодай
Крыніцы схілюся,—
Нехта гукае...

Свет абыду я,
Свет аблячу я,
Дзень апошні спаткаю,
Рукі складу,
І тады я пачую,—
Нехта гукае...

## СКАЗ ПРА ВАДУ

Сасмягламу —
Самы жарт недарэчны:
Дзве трэція часткі сушы
Займаюць акіяны,
Азёры,
Рэчкі...
Вільгаццю жыццятворнай
Травы і дрэвы напоўнены...
Пасля веснавых дажджоў
Спраўляюць птушкі запоіны...
З чым, вада, цябе параўнаць?
Ты даражэй за скарбы ўсе...
Раздзетыя,
На марозе смяглі
Вадой аблітыя Карбышавы...

Як цябе ні бяры ў палон,
Воля твая няўмольная:
Выцякаеш з бочак,
Сцягнутых абручамі,
Праз днішчы прасмоленыя...
Сілы некуды дзець —
Ірвеш катлы паравозныя,
Змываеш заслоны ўсе
Паводак хваляю грознаю,
Бетону цябе не стрымаць —
Спробы дарэмныя...
І прасочваешся ледзь-ледзь
Праз краты турэмныя,
Каб кропелькаю свабоды
На вусны ўпасці
Змагару за людское шчасце.

## У ПАРКУ

У парку славутым —
Славутыя дрэвы, вядома.
То крона —
Крылом парасона,
То ў неба сігае строма.

І шыльдачкі — адпаведна:
Сямейства.
Назва.
Скуль родам.
І «Не чапаць!..» —
запаведнік.
Што ж,
Як гаворацць, згода.

Даводзіць гэта ці трэба?
Памяць
Маланкаю асвяціла
Кожнае ў лесе дрэва,
Што ў непагадзь прытуліла.

## ЦІХІ ГАРАДОК

Рудзенск — ціхі гарадок,
Нават, не раённы.
Быў ты — між балот грудок
З камарыным звонам,

Дзе шумеў калісь чарот
Над бядняцкім лёсам,
Дзе на вогнішчы Чарот
Бачыў голых, босых...

Рудзенск — ціхі гарадок.
Толькі ў нас па праву
Цябе ведаюць:
Куток
Партызанскай славы.

Трызніў квеценню ў вайну,
На вятрах здубелы...
Падымаешся са сну
У чаромсе белай.

Рудзенск — ціхі гарадок,
Гэта так здаецца.
Чуцен твой рабочы крок,
Гулка сэрца б'ецца.

Ты чыгункаю здаўна
З светам знітаваны.
Пасажыру ты з акна —
Проста як паўстанак...

Праз цябе ж таварнякі —
З Азіі, Еўропы...
Ды ўжо будзь заўжды такі:
Летам пахні кропам.

Хрумстай смачна агурком
З градкі прыдарожнай.
Ну, а ў свята вечарком
І пад закусь можна...

Добрым словам спамяні
Свой крылаты вырай:
Тут пускалі карані,
Кожны хватам вырас.

Што ж, бывай,
Здаровы будзь,
Некалі збяромся.
Да сустрэчы не забудзь
Наламаць чаромхі.

## КЛЯНЫ-КЛЯНОЧКІ

У клёна заламала
Віхураю крыло...
Сыноў нагадавала,
Забрала ўсіх навала,—
Было, як не было.

Слёз, маці, палыновых
Не выплачаш з вайны...
Пагоркі ўслаў кляновы
Асенні жар барвовы,
Дзе спяць твае сыны.

Па клёніку сыночкам
Прывезла па вайне:
— Прашу, кляны-кляночкі,
Пра ўсё ім днём і ночкай
Расказваць за мяне...

Праз леты ціхім звонам
Звіняць кляны твае...
Сыноў
Не лісце клёнаў,
А жар тваіх далоняў
У холад саграе.

## ЗГАДАЕШ ІНШЫ РАЗ

Раніцай іншы раз
Згадаеш сваю матулю.
Недзе цяпер якраз
Сняданак сабе гатуе.

Багат ён і невялік,
А есці адной не міла...
І ўспамінае,
Калі
На семярых варыла.

## НЕВЯДОМЫЯ САЛДАТЫ

На свет увесь вядомыя салдаты,
Чаму вас Невядомымі назвалі?
Наліта вам заўсёды чарка ў свята,
Хоць з Перамогай вас не прычакалі.

Дасюль гавораць з вамі, як з жывымі,
Матулі вашы,
Жонкі і нявесты,
Хоць вас ужо ніколі не падымеш
З-пад абеліскаў,
З-пад руінаў Брэста...

З пажоўклых павялічаных партрэтаў
Са сцен на ўнукаў гледзіце зычліва.
Імёны вашы,
Быццам запаветы,
Мы ім перадаём, шчаслівым.

Застылі бліскавіцы —
Абеліскі...
Чаму вас Невядомымі назвалі?
Сваёю кожнай незабыўнай рыскай
У сэрцы родных
Вы навек запалі.

## СОН

Ён наваліўся
Нябачнай глыбай...

Чую, стукаюць
У зледзянелую шыбу.
Сэрца б'ецца

На стук устрывожана...
А ўстаць не можаш —
Нібы заварожаны,
І путы скінуць з сябе —
Бяссільны...
А там жа, мусіць,
З патрэбай пільнай...
Ды гэта ж
З «жалезкі»
Вяртаюцца партызаны...
Перавязаць хутчэй ім
Патрэбна раны,
Ды абсушыцца і абагрэцца...
А ноч як звон —
На мароз бярэцца...

З вачэй нарэшце
Спадае шэрань,
Бягу спрасонку
І — насцеж дзверы!..

## МАТУЛІНЫ РУКІ

Матуліны рукі,
Нястомныя рукі,
Ніколі не зналі
Ў рабоце прынукі.

Бывала нялёгка,
Ды ўсё вы стрывалі,
Жыццё будавалі
І нас гадавалі.

Да сонейка ўвысь
Падкідалі высока:
— Ляці, мая птушка!..
— Ляці, ясны сокал!..

На сіверы шэрхлі —
Капалі зямлянкі,
Пяклі праснакі
На кастрах партызанскіх.

І раны гаілі,
І зброю трымалі,
Жыццё ўсё нанова
З руін узнімалі.

Матуліны рукі,
Руплівыя рукі,
Не знайце ніколі
Ні болю,
ні мукі.

Вам выпала сёння
Шчаслівая доля.
Ствараеце цуды
І ў цэху, і ў полі.

Ды колькі за век
Ні зазналі работы,
Сваёй не згубілі вы
Ласкі, пяшчоты.

Згадаецца часта:
Хлапчук ці дзяўчынка
Зрабілі харошыя,
Добрыя ўчынкі,—

Няма большай радасці,
Шчасце ў паглядзе,
Калі па галоўцы іх
Рукі пагладзяць,
Матуліны рукі,
Ласкавыя рукі...

## ПАРТЫЗАНСКІЯ АДВЕДЗІНЫ

Хоць столькі мінула
З апошняй вайны,
Трымаюць напятым паводдзе...
З заданняў
У родныя хаты яны
Начамі нячутна заходзяць.

За коўдрамі ў вокнах
Не бачна святла
І коней не чутна іржання.
У хатах садзяцца
Яны да стала,
І бавіцца ноч да світання.

Нарэшце,
Нарэшце пакутам канец!
Чуваць ужо грукат на ўсходзе...
Апошні раз
З роднае хаты, з сянец,
Не бразнуўшы клямкай,
Выходзяць.

Спяшаюць назад —
У лясы,

У бары.
Над вёскаю ясніцца, днее,
Чырвоныя стужкі
Шматкамі зары
На шапках гараць-палымнеюць.

На конях знікаюць
У гэтай зары
Сыны з дарагімі абліччамі...
Заплецены ў грывы
Тугія вятры,
Удалеч дарога ўскапычана.

## ІДУЧЫ ДА ЦЯБЕ

Ноччу ўсё чорнае:
Жоўтая гравійка,
Сцежка зялёная,
Белая вішня,
Блакітная брамка...
Толькі акно тваё
Светлае ноччу.

* * *

Ноч — вока выкалі.
Я ж усё бачу:
Жоўтую гравійку,
Сцежку зялёную,
Белую вішню,
Блакітную брамку...
Мне іх тваё акно
Праз ноч асвятляе.

* * *

Гравійка жоўтая —
Гэта расстанне
З брамкай блакітнай,
Белаю вішняй,
Сцежкай зялёнай...
Гасне святло
У тваім акне.

* * *

Сцежка зялёная
Уецца, смяецца:
З гравійкі жоўтай,
З белае вішні,
З брамкі блакітнай...
Сама ж да твайго
Прывяла акна.

* * *

Белая вішня
Выйшла насустрач
Гравійцы жоўтай,
Сцежцы зялёнай
І правяла
Да блакітнай брамкі,
Сама ж — зноў у змрок,
Каб, крый бог,
На яе не ўпала
Святло з акна!

* * *

Брамка блакітная,
Ледзь дакранешся —

Ўся затрымціць,
Захвалюецца раптам,
Бы ёй хваляванне
Перадалося
Гравійкі жоўтай,
Сцежкі зялёнай,
Белае вішні...
Ты па́даеш ценем да брамкі
У раме святла.

* * *

Жоўтая гравійка...
Сцежка зялёная...
Белая вішня...
Блакітная брамка...
Акно.
Сілуэт дзявочы
У раме
На палатне.
Дні між намі.
Між намі ночы.
Гасне святло ў акне.

## ШЧАСЦЕ

На моры валы,
Як стагоддзі сівыя,
Развага кладзецца
Вянцом да вянца.
Працуе да стогну,
У непагадзь вые,
Адвечнай рабоце
Не бачна канца.

Так мора шчыруе
Да сёмага поту,
То выкаціць гальку,
То цягне на дно...
Дзіўлюся з такое
Упартай работы —
Навошта каменне
Шліфуе яно?

...Знайшла незвычайны
Каменьчык дзяўчынка,
Ад шчасця смяялася
Мора ў вачах...

З-за гэтага й варта
Не ведаць спачынку,
Каменне варочаць,
Не спаць па начах.

## Асецінскія сустрэчы

### У ЦХІНВАЛІ

Там, у гарах,
На перавале,
Яшчэ зіма снягі мяла...
А ўнізе сонечны Цхінвалі
Не шкадаваў сябрам цяпла.

Яно было ва ўсім і ўсюды,
Ў душу, нябачнае, цякло.
Хіба цяпло вачэй забуду,
Далоняў шчырае цяпло!

Яно праменілася ў словах,
Ва ўсмешках светлай дабраты.
Цяплом дзяліцца так гатовы
Хіба што родныя браты.

І нездарма тут,
Мне казалі,
Калі агонь у Зеўса ўкраў,
Быў Праметэй на перавале
І пад гарой агонь схаваў...

Калі ў дарозе азалею —
Цхінвалі ўспомню і сяброў.
Цяпло нябачнае сагрэе —
Яно ў маю ўлілося кроў.

## СТАРЫ МЛЫНОК

Аброснеў, асеў ставок
На ручаіне горнай.
Вада з-пад самых аблок
Круціла калісьці жорны.

Замшэлыя камяні
Вось-вось уздыхнуць панура.
Здаецца, жарон скрані —
Сам пойдзе...
На далані —
Духмяныя хачапуры [1].

Быў горац гол,
Як сакол,—
Нук [2] не шчадрэў мукою,—
Закідваў увесь памол
За плечы
Адной рукою.

Вада паўз стары ставок
Да новай імкне плаціны...
Ссівелым горцам млынок
Схіліўся над ручаінай.

Прыгадвае ён сваіх
Памолаў з бліжніх паселляў.
Ён помніць,
Калі хто з іх
Страчаў гасцей дарагіх —
На свет увесь жорны пелі.

---

[1] Хачапуры — традыцыйны асецінскі хлеб.
[2] Нук — латак у млыне.

Даруй нам —
Прыйшлі не ў час...

Сумеўся стары нябожа,
Што хачапурамі нас
Пачаставаць не можа.

## ПАСПЕЎ КІЗІЛ

Не бачыў я вясной кізілу,
Як гурбы цвету намяло...
Дарогу нам загарадзіла
Яго асенняе святло.

Яно, чырвонае, сляпіла
І хвалявала, бы пажар.
Мо незнарок,
Глынуўшы піва,
Курдалагон [1] рассыпаў жар?..

Вышэй, пад неба —
Лес зялёны,
На схіле горцава жытло...
А жар іскрыўся па адхонах —
На шчасце, ветру не было...

Рачулка між кізілу пела,
А дно —
Чырвонае й яно.
Вада, як вар, у ёй кіпела,
Нібы ад ягад пераспелых,
Што з шыпам падалі на дно.

---

[1] Курдалагон — *(з асец. міф.)* нябесны каваль.

Аддаў я той красе даніну,
А ўсё карцела:
Не змаўчы,
Што недзе гэтак жа каліна
Гарыць на берагах Пцічы.

## БАРАЧЭТ

Забаронны знак — прасціна,
Не праедзеш, ягамось:
На ўсю вуліцу гасціна,
Ці вяселле, ці радзіны —
Злазь з машыны, будзеш госць!

Стол —
Канец ажно ў завулку,
Прыстаўныя — у дварах...
Ды ніхто тут не ў затулку,
Толькo рэха тостаў гулка
Адбіваецца ў гарах.

Хэбізджыны і фыдджыны [1],
Як у нас кастры бліноў.
Скуль пайшлі вы, асеціны,
Як і мы, народ гасцінны,
Не інакш, з-пад Сожа, Піны
Ці з наднёманскіх краёў...

Не падумаў бы ніколі —
І адкуль яны, спазнай,—
Залуналі над застоллем
У гарах,

---

[1] Хэбізджыны — бліны, начыненыя сырам, фыдджыны — бліны, начыненыя мясам.

Дзе неба столлю,
Вашы песні пра Дунай...

А гасціна весяліцца —
З гор чутно на цэлы свет.
Колькі ж з рога ўцехам ліцца?
Тамада!
Не смей забыцца
Тост апошні — барачэт.

Байка ёсць — перасцярога,
Як гасціў адзін бядак —
Мо хапіў ён лішку з рога,—
На гасціннасць той нябога
Адказаць не ведаў як.

І пайшоў да бога.
Моду
Меў калісь такую свет.
Цемя з гэтае нагоды
Бог пачухаў, як заўсёды,
І прыдумаў барачэт.

Барачэт —
Дастатак дому,
Злагадаю даражыць,
І малому,
І старому
Бегаць сернаю па стромах,
Менш як сто гадоў
Не жыць.

Тамада крыху на ўздыме —
Тосты з крэсіва сячэ:
— Гаспадар і гаспадыня,
Будзьце вечна маладыя,—
Барачэт!

— Каб міналі вас нягоды!
— А здараліся, дык зрэд...
— Каб гасцілі ў вас заўсёды
Мы,
Без нас —
Любоў і згода!
Барачэт!

Зняты з почапак прасціны —
Дазваляецца праезд...
Разыходзіцца гасціна...
Каб заўжды была прычына
Зноў вярнуцца ў дом гасцінны,—
Барачэт!

## ГАЮЧАЯ ВАДА

Ваду каштуй,
Дзе ні ступіш крок.
Гаючая,
З самых глыбінь прастуе...
Народ гасцінны:
— Ну хоць глыток!
— Асілкам стане,
Хто пакаштуе!

Я веру,
І сапраўды
У дарозе не будзе стомы,
Калі пап'еш той вады...

Пасля барачэту,
Вядома.

## ПЕРШАЕ СЛОВА

Слова —
Лязо бліскавіцы,
Слова —
Гаючы бальзам на рану...
Рады ў пояс табе пакланіцца,
Мова сяброў —
Шчодры скарб аланаў [1].

Мова вялікага Косты [2],
Нерушы скарбаў
Ты захавала.
Стала між намі братэрскім мостам,
Ззяеш вясёлкай
Над перавалам.

Мова —
Спрадвечныя сховы.
Як немаўля,
Пачынаў вучыцца
Я гаварыць на іронскай мове
З самага першага слова —
Гіццы [3].

## ТОСТ

Як валова вока,
Поўны
Рог духмянага віна.

---

[1] Аланы — продкі асецін.
[2] Коста — заснавальнік асецінскай літаратуры Коста Хетагураў.
[3] Гіццы — мама.

У застоллі госць шаноўны,
За здароўе п'юць да дна.

Тосты —
Гумару даніна,
Звычай даўні, ад дзядоў...
Кажа горац, сын цясніны,
Бровы —
Крыл узмах арліны,
Прыгажун і вастраслоў:

— Тост узяў,
Дык выпіць трэба —
Не паставіш рог з вінам...
П'ю, сябры,
За гэта дрэва,
Што гамоніць за акном...

Дрэва цвёрдае, што камень,
І прамое,
Як струна,
Не абняць дзвюма рукамі,—
Выйдзе добрая труна...

Вы даруйце горцу, людзі,
Я к таму вяду свой сказ,
Што труна такая будзе
Госцю нашаму якраз...

П'ю, сябры, за дрэва гэта,
Перад ім хілю чало,
Каб яно —
Праз зімы, леты —
Сто гадоў яшчэ расло!

## НАД ПЕРАВАЛАМ

Мы ў зорнай хуткасці ў палоне.
Да сонца ўзмыў крылаты птах.
Вясёлы хлопец у салоне,
Хітрынкі добрыя ў вачах.

Унізе — пікі гор.
Аблокі
На іх нанізаныя скрозь.
Ірон [1] з дзяўчат блакітнавокіх
Жартуе.
Дый прычына ёсць.

Ляцім якраз над пераваламі.
Ашчэрыў перавал клыкі.
— Чаго баяцца?
За штурваламі
Мае сябры і землякі!

Тлумачыць баязліўкам высяў
З сур'ёзным выглядам ірон,
Што самалёт
Яшчэ ў Тбілісі
Праверыў сам Курдалагон.

---

[1] Іроны — саманазванне асецін.

## ЖОЛУД

Узняўся дуб,
Пушчанскі волат,
І аглядае ўсё вакол.
Упаў на дол
Даспелы жолуд,
На цёплы дол,
На шчодры дол.

Упарта парастак з гадамі
Пацягнецца
Насустрач дню.
Сарваўся жолуд
З вяршаліны самай,
Каб зноў узняцца ўвышыню.

## ЗІМОВЫЯ СТАГІ

Спіць лета самлелае
У мятлушках,
У рамонку...
Паснулі, з'інелыя,
Стагі на сухім адзёнку.
У кожным —
Па лугу месціцца,
Ліпень красуе...
Сцежкаю месяца
Ходзяць у лета казулі.

## ДА РАКІ

Да ракі вярба бяжыць —
Як агонь, вадзіца...
Распранулася,
Дрыжыць,
А ў ваду — баіцца.

## АПАЛАЕ ЛІСЦЕ

Ад галля
Адарвалася з болем
Лісце ў восеньскай цішыні
І, мёртвае,
Ўкрыла сабою
Дрэва роднага карані.

## ГУСІ КЛІНАМ...

На дасвецці журавінным
Гусі клінам,
Гусі клінам —
Раскалолі цішыню...
Між зімою і між летам,
Між сцяблінкамі і цветам
Адплылі ўдалечыню.

## КРЫГАХОД

Штурхаюцца гнеўна крыгі
Па першасіні ракі —
Пад чаек адчайныя крыкі
Сыходзяцца
І разыходзяцца
Маленькія мацерыкі.

## КЛЁН

Расчырванеўся ўранку клён,
З сябе ў траву ўсё скінуў.
Пад вечар спахапіўся ён —
Аголены галіны.

Зазімак галяком сустрэў
І з ветрам ён бушуе:
Свавольнік гэты падурэў —
Схаваў яго кашулю.

## У МАРОЗ

Снег рыпучы.
Ступіш ледзь —
Рэха на падхваце...
Толькі могуць гэтак пець
Дзверы ў роднай хаце.



Генадзь Кляўко на мітынгу з выпадку адкрыцця мемарыяльнай дошкі Якубу Коласу ў Мар'інай горцы, 1962



Генадзь Кляўко (у першым радзе крайні справа) сярод удзельнікаў нарады маладых пісьменнікаў у Мінску, 1950



25 год «Вожыку», Генадзь Кляўко (трэці справа ў другім радзе) сярод супрацоўнікаў і гасцей часопіса, 1966



Сустрэча з чытачамі г. Мінска пад час тыдня кнігі для дзяцей і юнацтва; Васіль Вітка, Анатоль Астрэйка, Мікола Гамолка, Алесь Якімовіч, Генадзь Кляўко, 1975

## ПЕРШЫ ЛЯДОК

Птушкі стаіліся ў сховах,
Месяц ліхтар запаліў.
Ноч усю шкляр адмысловы
Лужыны сонныя шкліў.

Сонца яго не заспела,
Следам прыспешыла крок...
Дзесьці на сцежцы нясмела
Ціінькнуў сініцай лядок.

## НАПРАДВЕСНІ

Ля плота вішаннік заснуў,
Прыгрэўшыся ў зацішку.
Пачулі здалечы вясну,
Бурштыняцца пупышкі.

Залеюць без забаў вятры,
У іх адна надзея:
Ў пупышках вішань да пары
Спіць белая завея.

## УЗБОЧ ШАШЫ

Шаша спяшыць удалеч тлумна,
Уся на ўздыбленым хаду,
А дуб маркотліва-задумна
Гудзе ў сівую бараду.

## ЗВЫЧКА

Заблудным зайцам
Сцежка скача,
Бялеюць вываратні-пні...
У лесе я заўсёды бачу
Пад кожнай елкай капані.

## НЕЗАБЫТАЯ КАЗКА

Калі напаткаю
След капытка я,—
Чую, недзе ў гушчэчы
Жаласна, па-чалавечы
Нудзіцца казлянятка...

Алёнка дасюль
Не знайшла яшчэ братка.

Не плач, калі ласка,
Выходзь на палянку,
Гэта ўсё казка,
Братка Іванка.

## ПЛУГ

*(Паэма)*

> Бура ў зямлю ўразае
> (Ці то горад, аблога, ці луг),—
> У зямлю плуг.
>
> *Паўло Тычына*

### 1

Ары нястомна, плуг,
Глыбей,
шырэй бяры.
Не здзірванее круг,
Пакуль мы плугары.

Табой зямля красна,
Сягаем за абсяг,
І ў небе баразна —
Тваёй, да зор,
працяг.

Як ляда,
лёд аром,
І ў ззянні ўжо відна
Праз крыгаломны гром
На полюс баразна.

Хай цяжка ў цаліну
Ўразаецца нарог,
Мы гонім баразну —
І шырыцца разлог.

Нястомна, плуг, ары,
І ты, паэт,
пацей,
Шчырэй нарог вастры,
Спарней зярняты сей.

2

Да пары
Яна ў зерні трывае,
Сіла жней і аратых.
Абручы тую сілу трымаюць
У чатыры абхваты.

Расце,
Уладна ходзіць цеста —
Рошчына
Не зводзіцца звеку.
Стала цесту
У дзежцы цесна —
І зняло,
бытта шапку,
века.

Выспеў пот
На чале чалавечым,
Салёны, здаровы,
Каб ружовіўся хлеб у печы
На далонях кляновых.

Мякка́ бохану
Сцелюць на лавах,
Лапатай вымаючы з духу.
Хоць і ўдаўся хлябок на славу,
А глядзі, не гаруй,
маладуха:

— Закалец
На палец —
Будзе ў цябе малец,
На два пальцы —
Аж два мальцы!..

Навіна —
Цёплы хлеб,
З кменам духмяны бохан,
Шчырай дадзены працай,
Не богам,—
Пшанічны і жытні,
З памолу любога,
Каронай сонца аздоблены,
Крынічнай вадой акроплены.

Навіна —
Пах і кмену і хлеба
Ад зямлі
Аж да неба!

3

Вайна...
Дзе ты забавілася,
навіна?
Па краі зямлі і неба
Лягла ружовая баразна —
Запяклася крывёю яна,
Нібыта скарынка
На бохане хлеба.

Колькі было іх,
Галодных дзён?
Колькі было іх,
Бясконцых траншэй-баразён?

Калі б іх з клубка Зямлі
Ды ўсе разматаць змаглі —
Не зерне,
А слёз скамянелых жменькі
Назад
Пасыпаліся б
У сявенькі.
Ці ж насеяна мала было іх?
Сённяшняе і былое
Знітавана повяззю
Балюча-кроўнай...

Ёсць за Оршай Дуброўна.

Урадзіла добрая навіна,
Уразіла чорная навіна...

Поле,
Чым жа твае барозны
Засявалі парою грознай,
Што дагэтуль неміласэрна
Спее агніста
Чорнае зерне?

Ведайце гэта,
Дзеці і ўнукі!
Можа, сягоння
Бярэце вы ў рукі
Хлеб з-пад Дуброўна?
Там жа за плугам
Хадзіць рызыкоўна.

Помняць барозны,
Помняць бярозы
Хлопца-студэнта
Мішу Мароза.

Ён ад сяброў,
Іх ратуючы вёсны і лёс,
Бяду
На выцягнутых руках
Панёс...

З васількамі вачэй,
З чубам аўсяным хлапчук
Бег да камбайна
Праз поле...
Ці не я гэта?..
Уваччу
Гром
Застыг,
Каб не счэзнуць ніколі...

Горла здушыла
Жаху пятля,
У крыку
Зайшоўся нема:
У неба
Ўзлятала зямля,
На зямлю
Ападала неба...

4

Помніць добра
Лясны салдат,
Партызанскае поле
Помніць.
Атрад
Атрымаў загад
Пачынаць сяўбу,
Як узыдзе поўня.

А з сяўбой
Усчынаўся бой.
Хлопцы гатовы да бою:
Плугі і сявенькі,
І зброя —
З сабой,
Зярняты ў мяхах —
Даражэй за набоі.

Утравела зямля,
Чакае зярнят.
Яна сяўцоў
Не чакала ноччу.
Бой за жыццё
Вядзе на загонах
Атрад,
Пільна ў цемру
Ўглядаюцца вочы.

Зброі хлопцы
З плячэй не знялі.
Поўня лешыць загон.
Звычны рупны занятак:
У наступ
Ідуць ланцугом па раллі,
Сеючы
Спорнаю жменяй
Зярняты.

Век не бачыла поўня
Такой сяўбы
І свяціла сяўцам,
Аж пакуль не заднела...
Сцяг зялёны жыцця,
У агні барацьбы
Партызанскае жыта рунела.

Жыта — жыць.
Падрастай, зеляно!
На яго, як на дзіва, глядзелі.
Пойдзе ў колас,
Нальецца,
Не згіне яно —
Будзе жыць,
Выспяваць надзея.

*Ой, паспела жыта,*
*Трубой завілося,*
*Росамі наліта,*
*Як цапы, калоссе.*

*З лёгкаю рукою*
*Тут сяўба хадзіла.*
*Як сцяна, густое*
*Урадзіла дзіва.*

Жыта — жыць...
На жыццё, на ўмалот
Поўня бохан спяліла начамі.
Ліпень сплыў туманом
На азёрны чарот.

— Жаць пара! — перапёлкі крычалі.

*Згубіла зара ключы,*
*Каля позніх жней ідучы.*
*Месячык за ёй ішоў,*
*Ён тыя ключы знайшоў.*
*Месячык, мой брацечка,*
*Аддай мае ключыкі:*
*Жнеечкі дамоў ідуць —*
*Нечым нівачку замкнуць...*

— Хто, калі
Тут засеяў палі?! —
Злюцянеў гарнізон у адчаі.—
Здратаваць!
Растаптаць!
Спапяліць!..

— Жаць пара...— перапёлкі
крычалі.

Жыта жаць —
Залатая пара,
Ды прымоўклі
Ў жытным перапёлкі:
Едуць карнікі жыта караць,
Стогнуць цяжка лясныя прасёлкі.

З гулам-грукатам
Хмарай плылі,
Неслі жыту
Крыжы на байніцах.
Бы па целу жывому,
Прайшлі.
Жыта спелае
Клалася ніцма.

Сонца глянула —
Жыта ў крыві,
Партызанскае жыта,
надзея.
Ты ж мая,
Ты ж мая, ажыві,
Растапталі цябе ліхадзеі...

Ды жытнёвы
Адкуль гэта звон,
Над усёю зямлёй разгайданы,

Звон,
З усіх чатырох старон
Нечаканы?

Аржаны,
Быццам з печы,
З нівы дымнае дух.
Па-над ніваю
Сонца ўчарнела.
Грозна вузіўся вогненны круг —
Звонам-полымем
Жыта звінела.

Гэта — крык.
Гэта — кліч.
То трывога мая і твая.
Партызаны сюды прыімчалі.
Стрэла іх Васіліха,
Сівая жняя,
У вачах ані слёз,
Ані жалю:

— Што рабіць?
Цэлы свет як аглух.
Ну-тка, Насцечка, Кацярынка!..
Абабеглі мы з вехцямі ўкруг —
Вось і справілі, людцы, дажынкі.

Жыта —
            жыць...
Не згарэлі яны,
Партызанскага жыта зярняты.
Хоць не мелі з яго
На стале навіны —
Адліліся,
Як кулі адплаты.

## 5

Жорны
На хлеб пражорны.
Два камяні і млён.
Вяртанне
Не ў век пячорны —
Мелецца мліва
Бясхлебных дзён.

Бульбіна
Вялікодным яечкам
Была
Галоднай парой,
Булкаю —
Чорная перапечка
З гірсой папалам,
З карой.

Прыходзілі з лесу таты,
У кішэнях —
Не зайцаў хлеб,
У кішэнях —
Патроны, гранаты,
Каб вораг
І глух, і сляп.

Ад тыфусу
Дзеці, як мухі,
мёрлі,
Шчаўем
Не ўратавала вясна...
...Каціліся торба
З высокага горба...—
Хлебам трызнілі
Дзеці ў снах.

У лапціках
Сумна па сёлах
Брылі маленькія жабракі.
Намацвалі клямку
Рукою кволай:
— Хлеба, цётачка,
Ці хоць шчопаць мукі...

Спыталі
Голаду ўдосталь,
Закажанелі за час вайны.
Колькі іх спіць, дзяцей,
На пагостах,
Не дачакаўшыся
Навіны.

Разам з дарослымі
Гора
Агораць яны не змаглі.
Гарэлі ў хатах,
Пунях,
            аборах,
Заложнікамі былі.

Досвіткамі,
Заспаных,
Ставілі іх да сцяны...

Маленькія партызаны
Вялікай Айчыннай вайны!

Не ўсе іх імёны
Ліха
Паставіла ў вечны слупок...
Не прычакаў навіны,
                                        Васіліха,

І твой унук —
Васілёк.

Была
Партызанскай пякарняй
Печ твая на сяле.
Людзі нашкрэбвалі гарнец
Апошняй мукі для яе.

Не белую пухлую здобу
Ты з гэтай пякла мукі,
Ведалі ў пушчы добра
Твае ласкавыя
Праснакі.

Лес акружалі карнікі.
«Як жа там...
Без яды...»
Каля сваёй «пякарні» ты
Завіхалася, як заўжды.

Сцежкаю патаемнай,
Ручаінкаю між асок
Пад бокам варты нядрэмнай
Прасочваўся Васілёк.

Твайго праснака кавалак
Сілы дзесяцярыў...
Грозным пушчанскім валам
Ішлі байцы
На прарыў.

Горка, бабка, заплачаш,
Не вернецца Васілёк.
Спаткала яго няўдача —
Аўчаркі ўчулі здалёк.

Са звязанымі рукамі
Ішоў у апошні шлях...
Торбачка з праснакамі
Матлялася на грудзях.

Усё перабыта,
Ды не забыта.
Дзятва,
Што загінула на вайне,
Глядзіць васількамі з жыта,
Радая навіне...

6

Свет не бачыў
Такой запрэжкі —
Жанчыны ў пастронкі
Упрэгліся самахоць.

Там, дзе гара,
Там і ўсмешка:
— Не трэба пугі,
Не патрэбна аброць...

Не пусціш паверсе плуга.
Напяты пастронкі туга,
У грудзі ўеліся,
У плечукі.
Уваччу туман,
У вушах малаткі —
Тах-тах! —
звіняць...
Тах-тах! —
пяюць...
Ці то іхнія мужыкі
У кузні коней куюць?..

Скрыгоча каменне,
Дзярэцца дзірван...
Дзе ты, Яўмене?
Дзе ты, Іван?
Можа, цяпер і куеце коней,
Толькі адсюль за тысячу гоней.
Ды на тых конях
Рана дахаты —
Яшчэ ім на захад
Цягнуць гарматы!

Дзярэцца дзірван,
Каменне скрыгоча...
Чырвоны туман
Уядаецца ў вочы...

— Но-о, даражэнькія! —
Волька бадзёрыць.—
Но-о, Васіліха!
Но-о, Кацярына!

Да вечара гонейка хоць бы агорадь...
Край сонца вядуць баразну жанчыны.

Зялёны дзірван,
Чырвоны туман...

Цені даўгія — праз усё поле,
Цені варушацца сумна, паволі...

Поле ўтравелае, поле вайны,
Як дачакацца тваёй навіны?

Сілы не шкода, рвуцца хай жылы,
Толькі б ты, поле, хутчэй зарадзіла.



У Палацы культуры сваёй роднай вёскі Варонічы выступае Генадзь Кляўко, з ім Валянцін Мыслівец і Мікола Гроднеў, 1971



Сябры па смеху ў «Вожыку»: Генадзь Кляўко, Павел Кавалёў, Рыгор Барадулін, 1971



І дома клопаты намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», 1978

Дзетак накормім, хаты накрыем...
Хай падрастае ў буслятак крылле!

Прыйдуць мужчыны —
Скора ўжо, скора,—
Нам перад імі
Не будзе сорам.

Хоць і нялёгка
Цяпер ў запрэжцы,
Му́ку — муку́
Мы рашчынім у дзежцы...

Зялёны туман,
Чырвоны дзірван...

— Тпру-у, Васіліха!
— Тпру-у, Насця!..

Яны распрагліся.

Якое шчасце!

Ідуць салдаткі ўзараным полем,
А скіба кожная —
Горкім болем
Душу вярэдзіць,
За сэрца кратае.
І раптам ціха —
Нібы ў забыцці:

«Пракаці нас,
Пятруша, на трактары,
За ваколіцу нас пракаці...»

7

У песні той слова не зрушыш.
Інакш тут аралі палі,
Былі і свае ў іх Пятрушы,
Свае трактарысты былі.

У сінь веснавую ваколіц
Ехалі з песняй араць,
Што вораг не будзе ніколі
Па нашых палетках гуляць...

Пасеялі ўсё, ды не ўбралі.
Як, ніва, табе памагчы?
Не трактары — танкі на Ўрале
Каваць давялося ўначы.

Плугар... Ён панікнуў у скрусе:
«Навала?.. Навала міне...
Не кіну я трактара, не...
Дай божа, жывы я вярнуся,
Паслужыць яшчэ ў баразне...»

Сказаў трактарыст на растанку,
Пажылы плугар-дабрахот.
На трактары, як бы на танку,
Падаўся ён проста на ўсход.

Выводзіў свой трактар з палону —
Не мог яго кінуць на здзек.
Нямала ўзараў з ім загонаў,
Зямля іх здружыла навек.

Спявалі жанчыны ў маркоце,
А думалі думу адну:

Гарыш без упыну ў рабоце,
Да сонца вядзеш баразну.

Ці жывы вы, хлопцы-танкісты?
Якая ж чужая зямля?
Заслону б, што болем навісла,
Рассунуць і ўбачыць здаля,

Якімі кладуцца шляхамі
Ад гусеніц вашых сляды.
Ці чуеце, як лемяхамі
Грыміць ужо гром маладых?

8

— Жаць пара! —
Перапёлкі ў жытным адкрычалі.
Першую восень
Дажынкамі людзі страчалі.

Білі паклоны,
Лавілі сярпамі сцябліны.
Жнеям пара
Разагнуць набалелыя спіны.

Сталі, стаялі
На зжатай апошняй палосе:
Бабак не густа,
Ды ўжо на дабро павялося.

Ў сноп залацісты
Звязалі апошнія жмені,
Быццам звязалі
Тугім перавяслам прамені.

Неслі яго,
На руках падымалі высока —

Бачны хай будзе,
Хай свеціць далёка-далёка.

Жыта — каб жыць...
Будзем жыць,
будзем сеяць на шчасце.
Вышай жа сноп падымайце,
І Волька,
і Насця!

Бачыць хай свет:
Ваша вера ў пакутах не згасла.
Вунь старшыніха —
Вяжыце хутчэй перавяслам.

Выкуп прасіце —
Не соладка жалася жыта.
Песня знайшлася
На звычай стары, незабыты:

*Рады, рады*
*Пчолкі й перапёлкі,*
*Што зімачка прайшла,*
*Лецечка дачакалі.*
*Надаелі цяжкія маразы,*
*Лютыя завеі.*
*Рада, рада*
*Наша гаспадынька,*
*Што жыта пажала,*
*У копы пастаўляла.*
*Надаела цяжкая работа,*
*Жаркая пагода.*
*Нажыліся без кіслага квасу,*
*Без пухлага хлеба.*
*Надаела ранняе ўставанне,*
*Позняе ўкладанне...*

Сноп, быцам сват,
Стаў на покуце, падперазаны,
Сёння яму —
Песня, гонар, пашана.

Вёска сабралася,
Ўсхліпнуў гармонік паціху.
Рэй за сталом
Васіліха вядзе,
Старшыніха.

Конаўку і гільзы
Ў застолле пусціла па кругу,
Ўспомніла тых,
Хто не вернецца болей да плуга,

Ўдоў і сірот
Суцяшала ў бядзе як умела,
Рада была
За Іванаў усіх і Яўменаў,

Што з Перамогай
Вярнуліся з пекла, з нябыту
Ладзіць калгас,
На дабро, на жыццё сеяць жыта.

Гэтак сказала,
І ўпала цяжкая слязіна
На каравай
Першых тых
Незабыўных дажынак.

9

Нядзеліцца арка...
Ўставай, прачынайся, сяло.

На вуліцы нашай
Такога даўно не было.

Вясёла рыпяць
І пад арку кіруюць вазы.
Вясёлкамі дугі —
У вянках баравой дзеразы.

Чырвоны абоз,
Не багата мяхоў і калёс,
Ды першы ён,
Пасляваенны
Чырвоны абоз.

Вясёлыя колы
Каціліся па бальшаку.
А дзе ж Васіліха? —
Са сцягам яна ў перадку.

Ад сцяга не можа
Замглёных адвесці вачэй,
Не можа злічыць
Тых пакутных,
бяссонных начэй,

Як некалькі жменяў зярнят,
Быццам скарб, берагла
У глінянай пасудзіне
Разам са сцягам
Ад тхла.

У дол закапала.
«Мо згінем у пекле вайны,
А сцяг і зярняты —
Згарэць не павінны яны!»

Абоз праязджае
Пад голлем пажоўклых бяроз
Са сцягам,
Што ў бурах
З зямлі нашай дрэўкам прарос:

Карэнне ў глыбінях,
А сам ён на ветры гарыць —
Маленькае полымя,
Здольнае свет азарыць.

На ўзгорак уз'ехалі —
Вось яно, дзіва, якраз:
Насустрач —
два трактары...
Можа, да нас,
У калгас?..

На першым — пазналі! —
Жывы наш плугар дарагі.
А хто ж гэта следам?
Зусім незнаёмы другі...

Такая сустрэча!
Як гром нечаканы з нябёс.

Мы бачылі гора,
А гэткіх не бачылі слёз...

— Казаў жа, вярнуся,—
І выцер слязіну стары.—
А новы — за працу
Далі ў падарунак сябры,

З якімі, выгнаннік,
Араў і скародзіў я стэп,

Расцілі, спялілі
Для фронту за Волгаю хлеб...

О бежанец-трактар!
Назаўтра народ пазіраў,
Як ён здзірванелае,
Чорнае поле араў.

І клаліся скібы
Раўнютка, адна да адной.
Запахла,
Да самага неба,
Зямля навіной.

10

Выгнуўшы
Гоніста шыю,
Крылатаю птушкаю плуг
Імкнецца
Раллю сваю шырыць —
Ці поле-аблога, ці луг.

Ён — фенікс,
Адроджаны з прыску,
Дзе выжыць не мог
І быльнёг.
З камення выкрэсвае іскры,
Распалены блішча нарог.

Аблога
Ўздымаецца дыба.
Як брук —
Скамянелы папар.
Плуг рэжа на цёплыя скібы
Зямлі набрынялае шар.

Калі, журавы,
Закрычыце —
Ён, быццам жывы,
Задрыжыць.
Ды толькі ніколі ў блакіце
Ён з вамі не зможа кружыць.

Яго зазямленне жывое —
Адвечнае
І назаўжды.
Ідзе ён сваёй баразною,
За ім —
Каласяцца гады.

Пароюшчымліва-балюча
Ён так скрыгатне па жарстве —
Здаецца, што жораў курлыча
Ў асенняй смузе-сіняве.

А восень над шэрым палеткам
Затрубіць, пакліча зіму —
У вырай ляцець пад паветку
Да новых барознаў яму.

Вясна журавам адгукнецца —
Ад цёплага ветру іх крыл
Ён зноў, як жывы,
Страпянецца —
Чакае яго небасхіл.

Зноў выгне ён шыю,
На ўсхібах
Адбеліць сталёвы лямеш,
Як хлеб —
Наразаючы скібы,
Люструючы поле без меж.

Хай стома,
І пот,
І напруга —
Імкнецца струной-баразной.
І нельга здабытчыку-плугу
Сысці ўжо з арбіты зямной
Вечназялёнай,
Калоссем
Улетку спавітай важкім,
Прапахлаю хлебам увосень,
Палітаю потам людскім.

11

Сягоння хлеба ў нас —
Па густу выбірай.
І чулі мы не раз:
— Ды гэта ж проста рай!..

Так, хлеба ў нас стае,
На хлеб багаты дом,
Заўсёды на стале,
А часам... пад сталом.

І нездарма, відаць,
Мы ў звон пачалі біць:
Хлеб трэба шанаваць
І мазалём любіць!

Успомнім хоць на міг —
«Васьмушка на байца...»
Ці галасы жывых
З блакаднага кальца?

Дарогу, што зіма
Праклала з небыцця,

Назвалі нездарма
«Дарогаю жыцця».

Ці час другой жуды,
Што знікнуў назаўжды,
Як з дахаў цягнікоў
Здымалі мерцвякоў...

Згадаць не грэх падчас,
Як сеюць хлеб і жнуць...
Ды не вядзецца ў нас,
Каб хлебам папракнуць.

У жніўня сто трывог,
І ўсе яны — твае:
Там недзе хлеб палёг...
Там недзе лівень лье...

Пакуль не прыбяром
Усё да каласка,
У полі — аграном
І сакратар ЦК.

Ёсць хлеб — не быць бядзе.
А дуж ён, хлеб, табой...
І бой за хлеб ідзе,
Па ўсёй краіне бой.

12

Даверыў плуг свой лёс —
Вяршы ім вечны круг.
Наступнік твой падрос —
Пастаў яго за плуг.

Хай баразна — з-пад ног,
Хай у вушах званы,

Трымаеш за нарог
Зялёны шар зямны.

Шчыруй, папар двai
I помні, хлебадар,
Што ў даланях тваіх
Усёй зямлі цяжар.

Хай сёмы пройме пот,
Ты баразну гані —
Адчуеш сілы ўзлёт
I прагу вышыні.

Нарогам, як разцом,
Дзірван з зямлі здзяры,
Засей усю дабром
У полымі зары!

Няхай зямля пяе,
I ўбачыць цэлы свет:
Наступнікі твае
У твой ступаюць след.

# СЕМ ПІСЕМ

*(Паэма)*

Палкоўніку Міхалёву: «Разлічваю на цябе і тваіх дзяўчат з радыёроты...
Займайце абарону, бо вы мой апошні рэзерв...»

*З радыёграмы камандарма*

Сем пісем — сем салдат
Гавораць моўчкі з намі.
Сем пісем — як набат
Над нашымі шляхамі.

Дасюль яшчэ іржой
Не з'едзены асколкі.
Імёны над зямлёй —
Сем колераў вясёлкі.

Дасюль яшчэ, зірні,
У жураўлінай высі
На восеньскім агні
Трохкутнікі тых пісем.

Імкнуць у вечны шлях,
Ледзь толькі дзень на ўсходзе.
А сонца па радках,
Як пальцам, промнем водзіць.

Сягоння адрасоў
Ніхто не прачытае,
Бо столькі з тых часоў
Залевы грукаталі.

Размыліся яны —
Як трапіць адрасату?

Сем пісем з той вайны...
А мо і ў вашу хату?

З пазіцый агнявых,
Са сцежак беззваротных —
Сем галасоў жывых,
Сем жыццяў бессмяротных...

* * *

Сем лістоў —
Сем імён дарагіх.
Дзяўчаткі з радыёроты
Перад атакай пісалі іх
З апошняй да нас пяшчотай.

Тады інакшыя ў іх былі
Імёны —
Іх пазыўныя:
Пралескі, Валошкі цвілі
Пад сполахі агнявыя.

Люта аточаная агнём,
Радзела штабная рота...
І стала кожная з іх байцом —
І Незабудка, і Лотаць...

Потым з лесу зязюль галасы
Гукалі іх без надзеі,—
Палеглі
Ў крывавых кроплях расы
Яргіня, Ружа, Лілея...

## ПРАЛЕСКА

Трывожна, звонка, нязвычна
Прадвесне сінее ў лесе.

Пралесак пагляд крынічны —
Вочы, вочы па снезе...

Не быў гэты свет ніколі
Светлы такі і чысты.
У вочы сінеча коле,
Вейкі — лапкай іглістай.

Сярод гаманы вяснянай
Ты пекнатою гэткай
Чаго расцвіла так рана,
Сакавікова кветка?

Сумёты — сляды завеі.
Кроплі неба на ўзлеску.
Дрыготка ўзнімае веі
Здзіўленая пралеска.

Зажурыцца неба ўранку
Па жаўруковым крыллі.
Не раз адцвіце вяснянка
На тваім небасхіле.

А столькі ж нашчадравала
Вёсен табе зязюля...
Пралесачкай называла
Доньку сваю матуля.

Над водарнасцю праталін,
Над цеплынёю млечнай
Бязвоблачная світае
Ціхіх вачэй сінеча.

## ЛОТАЦЬ

Лотаць золатам на ўвесь луг —
Сонца вогненна разлілося.

У калюжынах жар не стух,
Жоўты луг ды нябёсаў просінь.

Ды вяслуюць —
Зірні! —
Буслы:
Будзеш лёгка ўсё лета лётаць.
Два абпаленыя крылы...
Абпаліла бяда ці лотаць?

Буслянём цыбатым дзяўчо
У пырсках лотаці на ўзбалоцці...
Дзе згубіўся твой каснічок?
Красавік валасы залоціць.

Раздае залаты свой дар,
Рассыпае па шчоках дзіва...
Будзе крыўдай дзяўчаці жарт:
«Нашто ў лотаць на луг хадзіла?»

Водар лотаці ўхмеліць ноч,
Будуць сны залатыя сніцца.
Чуб русявы ды просінь воч...
Будуць мары ў лугах вясніцца.

Ты свой лёс у руцэ нясла,
Шчаслівейшая ва ўсім свеце...
Махам сонечнага крыла
Хату вызалаціў букецік.

Будуць светла грымець грамы
І буслы над лугамі лётаць.
Лотаць, лотаць...
Праз дзве зімы
Стане імем і лёсам Лотаць...

## ЛІЛЕЯ

Цішыня на сонцы млее,
Аблачынкі матылёк...
На вадзе,
Ў вадзе Лілея,
Пругкай хвалі халадок.

Плынь ласкавая рачная
Абдымае і нясе.
Немата ў вушах канае.
Пырскі сонца на касе.

Як злілося цела з плынню,
З цёплым небам,
З ясным днём!
Дзе пачатак ваш, глыбіні?
Свет увесь — блакітным дном.

Неабдымнае прадонне
Смутнай радасцю жыве,
І яна ў яго палоне
Аблачынкаю плыве.

Свет,
Блакітны аж да донца,
У палёты акрыліў,
Мару даў — ляцець да сонца,
Імем светлым надзяліў.

Дык адкуль жа гэта хмара
Ценем крыжа на вадзе?
Дык няўжо ж пагасне мара,
Ў бездань чорную падзе?

Хмара юшыцца, шалее,
Змеркла чэрвеня святло...

Не крані, міні Лілею,
Навальнічнае крыло.

## ВАЛОШКА

Сцяжынка праз жыта
Між домам і школай,
Не, ты не забыта
Валошкай вясёлай.

Смяяліся леты
На ўзмежках у жыце...
А песня не спета,
А мара ў блакіце!

З-пад хіжага крыжа —
Уранні бамбёжка...
Дым котлішча ліжа.
Схмурнела Валошка.

А потым... у дыме
Шляхі грукаталі.
Гады маладыя
Шынель апраналі.

Праз вогнішчы неслі
Нялёгкую ношку —
За мару, за песню,
За кветку валошку.

Сцяжынка праз жыта
Між домам і школай,
Пастой, не бяжы ты,
Хто тут невясёлы?

Стаіць ля дарожкі,
Глядзіць вінавата...

Чакаюць Валошку
І школа, і хата.

### РУЖА

Раніца ў спелай красе,
Вокны насцежыць сонейка.
У досвіткавай расе
Ружа на падаконніку.

Цнатлівая, ўся ў агню,
Кім жа праз фортку ўкінута?
Пялёсткі насустрач дню
Раскрыла нявінна ты.

Песня — нібы пра цябе,
Кветку-дзяўчыну,
Складзена.
Помніш, матуля ў журбе
Пела яе за прадзівам?

*Плыла, плыла ружа-кветка*
*Ды стала круціцца,*
*Выйшла маці воду браці*
*Ды стала дзівіцца.*

— *Што ж ты, мая ружа-кветка,*
*На вадзе завяла?*
*Відаць, доўга ты, дзіцятка,*
*На вадзе ляжала?..*

Кветкі падорыць каму
Ліпень,
Да вокан ліпнучы?
Боль па дзіцятку свайму
Песня ніяк не выплача:

*Ўзяла маці ружу-кветку,*
*Палажыла ў хаце,*
*А як гляне, ўспамінае*
*Аб сваім дзіцяці.*

## НЕЗАБУДКА

Зацвіла пад посвіст кос
Кветачка малая,
Быццам сіняя з нябёс
Зорачка палае.

Таямніца ты заўжды,
Незабудка-фея,
Хто цябе каля вады,
Дробненькую, сеяў?

Не крануў цябе касец,
Абышоў касою.
Ходзіць у журбе хлапец,
Трызнячы красою.

Вочы — поўні яснаты.
Дык за што ім кара?
Усміхнешся шчыра ты —
Прэч хмурынка з твару.

Будзе ён блукаць вясной
Па зялёным гаі
І прадонне тваіх сноў
Маем закідае.

У паглядзе — дабрыня,
Ціхі сум і ласка...
Над табою цішыня,
Лугавая краска...

Не з паданняў даўніны,
А з нядаўняй былі
Незабудку — боль вайны —
Помнім, не забылі.

## ВЯРГІНЯ

Восень, восень...
Агонь вяргінь.
Чырвань выквецiла сурова.
І з якіх надхмарных вышынь
Гэты жар — аксаміт барвовы?

Хата — попелам па двары,
Пасівела зямля ў той ранак...
Толькі полымна куст гарыць
Незагойнай балючай ранай.

Ён трапеча жывым агнём,
Палымнее пад сэрцам самым...
І калі гэта пад акном
Ты садзіла вяргіню, мама?

Сярод восеньскае слаты
Жар цнатлівы яе не стыне.
Мама, мама, не ўбачыш ты,
Як твая расцвiла Вяргіня.

Заірдзелася ўпершыню,
На ўвесь свет бы
Агніцца цвету.
Як жа выжыць таму агню?
Папялее бабіна лета.

Пасля буры ўставаць заўжды
Ёй з дажджынкамі на пялёстках...

Не сталеюць яе гады...
З зоркай полымнаю пілотка...

Кветцы верасня стынь трываць,
На вятрах пунсавець вяргіні...
У жальбе табе,
Сон-трава,
Век маркоціцца цветам сінім.

* * *

Без часу скошаныя ў палях,
У цяжкіх ботах кірзовых,
У шэрых, да пят, шынялях
Пайшлі ў свой апошні золак

*Самотная Вяргіня*
*Натхнёная Лотаць*
*Гарэзлівая Лілея*
*Журботная Пралеска*
*Задумная Ружа*
*Вясёлая Валошка*
*Ціхая Незабудка*

## САТЫРЫК
## І БЫТПАСЛУГІ

Калі натхнення жар патух,
Заелі струны ў ліры,
Упершыню
Ў бюро паслуг
Забег паэт-сатырык.

— Ніяк не клеіцца радок,—
Паэт пачаў даводзіць,—
То наўскасяк,
То папярок,
То на дыбкі, дый годзе...

Шавец яму без лішніх слоў:
— Вы тут ужо не першы.
Няма стандартных капылоў,
Дый вакса не для вершаў...

— Ад сэрца я памог бы вам,—
Сказаў кравец з увагай,—
Ды строчка ў нас —
Не проста ямб,
У нас часцей зігзагам...

Гадзіннікавы майстар так
Сказаў,
Як верш праверыў:
— Нам нельга, брат,
Цік-так, цік-так...

Гнаць час ні ў зад,
Ні ўперад...

Тады да століра зайшоў.
Паэту кажа столяр:
— Сякерай, брат, наломіш дроў,
А калуном — тым болей...

І тут, як кажуць, не на жарт
Пакрыўдзіўся сатырык,
Успыхнуў абурэння жар,
Зайгралі струны ліры!

І скаргу-верш ён напісаў
Адразу,
Без натугі...

У кнізе скаргаў бачыў сам
Той верш я
Ў бытпаслугах.

## ЯК КУЗЬМУ КРЫТЫКАВАЛІ

Працуе цэх,
Шчыруе цэх,
Ідзе ўсё чынна-гладка.
Ды завялася, як на грэх,
Адна авечка ў статку...

Глядзіш, там — глум,
А там — прастой,
Дзе трэба роўна — крыва...

Бо часта
Ад «авечкі» той
На працы пахла... півам.

І вось —
З абвесткай грознай сход:
Кузьму даць прачуханца
Ды так узяць у абарот,
Каб і забыў аб п'янцы,
Каб і другога засцярог...

Актыў з'явіўся дружна,
І ўсе,
Хто не прыйсці не змог
Па абавязку службы.
Усе, усе,
Хто толькі меў
Грамадскія нагрузкі,
Хто чаркі зроду не цярпеў
Ні пры якіх закусках.
У клубе гул,
У клубе шум,
Народу — не прабіцца...

— Дакуль рабіць ён будзе глум?!.
А нам — дакуль мірыцца?!.
— Спрадвек: дзе п'янка —
Там і брак,
Яны — як брат з сястрою!..
— Калі ўжо кіне ён, лайдак,
Брацць... гэта... для настрою?!.
— Ён ганьбіў нас ужо не раз
І гонар наш рабочы!..
— Як можа ён сядзець між нас
І нам глядзець у вочы?!.
— Заплямiў дружную сям'ю —

Усіх, хто ў гэтай залі.
— Я праваліўся б скрозь зямлю,
Каб мне вось так казалі!..

Кузьму ўшчувалі сяк і так,
Стаміліся пясочыць.
— Хай слова скажа сам лайдак,
Хай людзям гляне ў вочы!

Гукалі-клікалі — няма!
І пачалі дзівіцца:
Няўжо ад сораму Кузьма
Мог праўда правαліцца?

На жаль,—
І сведкі ёсць таму,—
Не здарылася дзіва.
Калі «пясочылі» Кузьму,
Ён быў...
Ля бочкі з півам.

## НА ВЫДАННІ...

Выдавецтва ў ліхаманцы —
Паэтэса выдаецца!
Ўспомніць той аб роднай мамцы,
Хто рэдактарам завецца.
Ну, а кніжка — толькі назва.
На прыманку клюне смелы.
Там падгладжвай,
Там падмазвай,
Каб хоць нейкі выгляд мела.
Выціскай бурду пад прэсам...

Тлуму — з ранку да змяркання.
Іншы скажа:
— Паэтэса
Ці... нявеста на выданні?

## ДВА ДНІ ВЫХАДНЫЯ

Мы ў пятніцу вечарам
З другам сядзелі...

— Два дні выхадныя —
Субота, нядзеля...
Паедзем за горад,
Па лесе паходзім...
Што можа быць лепш,
Як пабыць на прыродзе!
Такія там сосны,
Такая там ціша!
Не выкажаш словам,
Пяром не апішаш.
Паветрам такім
І не дыхаў ты зроду!
На год набярэм
У запас кіслароду...

Два дні выхадныя —
Субота, нядзеля...

— У горадзе нашым
Такія музеі!
За горад мы лепей
Другі раз паедзем,
А нашы музеі

Нарэшце агледзім.
Такія там, браце,
Скульптуры, карціны!
У кожнага хопіць
На год успамінаў...
Два дні выхадныя —
Субота, нядзеля...

— Даўно мы [redacted] табою
Кіно не глядзелі.
Музеі —
на потым,
Не так ужо й пільна,
А лепей паглядзім мы
Новыя фільмы.
Любімы герой,
Як жывы,
на экране...
Што можа быць лепш
За такое спатканне!..

Два дні выхадныя
За чаркай сядзелі...

Прапала субота,
Прапала нядзеля.

## РАЦПРАПАНОВА

Вершы чытач прачытаў і забыў.
Ды ўспомніў пазней ён крышку:
Адзін з іх, здаецца, нядрэнны быў...
Цяпер гартай усю кніжку!

Вершы здавайце ў друк,
Але перш
Такая ёсць прапанова:
Па балаболцы
Чапляць на верш,
Як пастухі
У гушчары
Каровам.

## ВЫЙШАЎ З МОДЫ

Я — адсталы,
Выйшаў з моды,
Стаў нібыта лішні тут,
Бо спазняцца на работу
Перастаў на пяць мінут.

Аніхто з былых кампаній,
Як раней,
не падміргне.
Толькі ўсе са спачуваннем
Паглядаюць на мяне.

Што рабіць цяпер —
Не знаю.
Як пазбавіцца пакут?
Мне для шчасця не хапае
Толькі нейкіх пяць мінут.

## СТУПА ДЛЯ МУЗЕЯ

*(Жарт)*

Век імклівы наш, сябры,
І бяда такая:
Быт мінулы,
Быт стары
На вачах знікае.

Карцы,
        прасніцы,
                збаны
Зараз у навінку.

...Едуць знаўцы даўніны
Ў самую глыбінку.

Абшукалі ўвесь калгас,
Ды знаходак скупа.
Трэба,
        трэба ім якраз
Для музея ступа.

— Трэба ступа?
Не бяда,—
Дзядзька абнадзеіў,—
Толькі б ён яе аддаў —
Рэдкасць для музея!

Не рассохла,
        не цячэ...
Ужо год каторы
Ён у ёй ваду таўчэ,
Седзячы ў канторы.

## ЭКСПЕРЫМЕНТ

Ні дня не знаў, ні ночы:
Працую, сяду снедаць,
Мяне, як шашаль, точыць
Адна неадпаведнасць.

Апранута прыгожа
Жанчына на рабоце,
А дома нават можа
Быць і ў старым капоце.

З работы звоніць мужу
Ласкава так: «На кухні...»
Ды радуйся не дужа —
Пачуеш дома: «Хукні!..»
На працы ўсё па штату,
Як след распланавана.
А дома месці хату —
Ні графіка, ні плана.
Калі б была на працы
Яна такой, як дома,
Не сталі б з ёйваждацца
І звольнілі б, вядома.
На працы — то ж не дома,
Засвоіла парадак:
Не дакучаць нікому
Апекай ці парадай.
Хоць спраў на працы столькі,
Заўсёды без шуміхі,
Што трэба, зробіць толкам
І, на здзіўленне, ціха...
Я змучыўся дарэшты,
Зусім не меў спакою.
Прыдумаць трэба нешта
(Ды як і што якое?),

Каб дома жонка стала
Такою,
          як на працы.

Прайшло ўжо год нямала,
Цяпер магу прызнацца.

Спярша яе ў дакладзе
Я крытыкнуў зычліва.
Заслухаў на нарадзе
Сямейнага актыву.
Так завастрыў пытанне
Ды так абсек на слове...
І за «невыкананне»
Ёй уляпіў вымову.
Пасля,
          ужыўшы ўладу,
Сурова і няўмольна
Па хатняму загаду
З пасады жонкі —
Звольніў!
Фармуліроўку гладка
Я напісаў,
З натхненнем.
Так я зрабіў спачатку,
Ды адмяніў рашэнне.

Калі б мы гэткім чынам
Звальнялі жонак самі,
Напэўна,
          ўсе мужчыны
Былі б халасцякамі.

## МНАГАДЗЕТНЫ

*(З раскаазу пенсіянера)*

Хоць не модна гэта зараз,—
Я ў нашчадкаў не ў даўгу:
У мяне дзяцей пад старасць —
І злічыць іх не магу.
З панталыку проста збіўся.
Паспрабуй тут не забудзь,
Хто калі з іх нарадзіўся,
Як каторае завуць.
Не сям'я, а сад дзіцячы,
Лямант, крык і калгата...
Адзін плача,
Другі скача,
Трэці тузае ката...
Так пад старасць і жыву я...
Ды і то сказаць — жыву:
Гэткі лямант на сівую,
На старую галаву!
Тлуму мне ад іх найболей,
Не схаваешся нідзе...
Ды ніводнае ніколі
Не сказала слова «дзед».
Я ж — не няньчуся з малымі,
Гэта справа не мая,
Бо жыву, прабачце, з імі
Толькі ў доме разам я.
Ну, а дом —
Наш дом адметны!
Замест сцен — мембраны ў ім...
Вось і стаў я мнагадзетны,
Хоць жыву адзін-адным.

## СУСЕДЗІ ВІНАВАТЫ

*(З расказу пасажыркі)*

Куды я еду?
Што пытацца...
Скажу вам, мілы чалавек,
Каб гэтак ім перасяляцца,
Мяняць работу цэлы век!..

Хіба жыццё, скажыце, гэта?!
Суседзяў мелі б вы такіх,
Напэўна, збеглі б за паўсвету,
Каб толькі збавіцца ад іх.

Кватэра ў нас цяпер — як трэба,
Аклад у мужа...
Ўсё дарма...
Ёсць хлеб, як кажуць, і да хлеба.
Суседзі ж — проста сіл няма!

Бывае, возьме муж са склада,
Ну, тэлевізар там, касцюм...
Дык укусіць, здаецца, рады,
Усчыняць звон,
Узнімуць шум!

Ім гэта, бачыш, вочы коле,
Дабра чужога ім шкада.
Ці ж мог цярпець ён гэта болей?
Усё назад на склад аддаў...

Вось месца новае прыгледзеў —
Хіба ж сышоўся клінам свет!
Дык еду...
Трэба пра суседзяў
Параспытаць усё як след.

Па-людску жыць не ўмеюць людзі.
«Сумленне!..
Гонар!..» — толькі й сказ.
Дасць бог, суседства добрым будзе —
Дык будзе добра ўсё
І ў нас.

## ЛАДАЧКІ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

Ладачкі-ладкі,
Ладачкі-ладкі...
Дарагія мамкі,
Дарагія таткі,
З вамі год ад году
Водзім карагоды
Мы вакол пытання
Яслебудавання.

Ладачкі-ладкі,
Ладачкі-ладкі...
А бадай іх качкі,
Тыя непаладкі.

Пайшоў у садочак
Мой малы сыночак,
З цэглы ад падмурку
Збудаваў пячурку.

Ладачкі-ладкі,
Ладачкі-ладкі...
Сын мой будзе майстрам
Мураванай кладкі.

За ягоных дзетак
Я ўжо не бядую:
Змалку ў нас ён муляр —
Яслі сам збудуе.

## НА КНІЖНАЙ ВЫСТАЎЦЫ

— Выданне — цуд!
Выданне — ўзор! —
Казалі знаўцы афармлення.—
Які дзівосны каленкор!
А супервокладка!
Цісненне!

Выданне — цуд!
Ды кепскі твор.
Не той, як кажуць, каленкор.

## БЫЛЬ ПРА ДАЎГУНЕЦ

Ой пасеялі дзяўчаты
Ў полі лён.
Шмат яны перажылі
Трывожных дзён.
Шчыравалі ад зары
І да зары
Ільнаводы —
Працавітыя майстры.
Клапаціліся, як кажуць,

Не за страх.
Лён пад восень рассцілалі
На лугах,
Каб у росах жніўня
Вылежаўся ён...
Пра дзяўчат загаварыў
Увесь раён.
І хвалілі, віншавалі
Ўсё звяно,
Што трасту здало
Выдатную яно,
Што парадуе людзей
Іх даўгунец...

Ды на гэтым нашай былі не канец.

Каб урэшце на заводзе
З той трасты
Даўгунец шаўковы выйшаў,
Залаты,
Не адна там змена дружная
Дзяўчат
І стараннасці, і спрыту
Ўклала шмат
У рэкордны той калгасны
Даўгунец...

Ды на гэтым нашай былі не канец.

Запраменілася сонцам
Валакно.
Потым спрадзена як след
Было яно.
Любаваліся ткачыхі
Пражай той
І з любоўю называлі

Залатой.
Дзень і ноч станкі
На фабрыцы гулі —
Вахту тут ужо
Ткачыхі занялі.
І яны не шкадавалі
Рук сваіх —
Праца спорылася дбала
І ў ткачых.
Палатно, што ўмела выткалі
Яны,
Ззяла радаснаю квеценню
Вясны...

Ды на гэтым нашай былі не канец.

Працаваў у атэлье
Адзін кравец.
І, вядома, жыць не мог ён
Без нажніц
Для раскрою там сукенак
Ці спадніц...
І з-пад тых нажніц
Такі ішоў тандэт,
Лепш яго б ужо не бачыў
Белы свет.
Так адзін вось
Недарэка-працаўнік
Справу соцень рук спаганіў,
Звёў на пшык!

Кроіць-рэжа, шые-пора
Той кравец...

Зноў дзяўчаты дзесьці сеюць
Даўгунец...



# Каб не сурочыць

*(1971)*

## І чаму я халасцяк?

### ПАЧАТАК БІЯГРАФІІ

Акушэр,
            як і другім,
Ясю-немаўлятку
Да рукі і да нагі
Прычапіў цыраткі.
Ім не знойдзеце цаны! —
Бацька меў надзею.—
Будуць некалі яны
Ў Яськавым музеі.
Іх схаваўшы для эпох,
Хваляваўся надта —
Не паблыталі б, крый бог,
«Гістарычных» фактаў:
Тры з паловаю — вага...
Даўжыня — паўметра...
Слова першае — ку-га...
Дыхае — паветрам...

Неўзабаве (зручны час!) —
На сваіх адведках
Заручыўся ў люльцы Ясь
Вуснаю даведкай.

Распісалі сваякі
Яся, хто як можа:
— А разумненькі такі!
— А такі прыгожы!

Усміхнуўся першы раз
Хлопчык неўпрыкметку.
— Райкін!.. Райкін, а не Ясь!..
— Трэба ж, талент гэткі!..

У пацверджанне таму
Ўсе знайшлі прыкметы:
— Генералам быць яму!..
— Быць яму паэтам!..

Ад прароцкіх тых прамоў
І ад буры ўсплёскаў
Яська — ў крык (відаць, прамок).
— Чуеце?! Казлоўскі!..

Каб даследчыкам пасля
Менш было турботаў,
Несвядомы Яськаў шлях
Люстравалі фота.

Пяць альбомаў тата склаў —
Па пуду з іх кожны.
У паўгода асядлаў
Яська «спадарожнік».

Ў два — пад казырок руку! —
Яська едзе конна,

Шашка ў Яся на баку,
На плячах — пагоны.

Я ўжо тут не гавару,
Як зіхцяць лампасы!..
Проста завідкі бяруць,
Гледзячы на Яся.

Я на Яськаў «юбілей»
Раз патрапіў неяк.
Век не бачыў я мілей
Гэткіх юбілеяў!

Прамінула акурат
Дзесяць год шчаслівых,
Да таго ж,
тры дні назад
Здарылася дзіва:

Аблупіў яечка Ясь
Сам, без маці, бацькі...
Што ж, відаць, падумаць час
Пра музей для Яські!

## НЯЎДАЛІЦА

Не загарэўшыся,
Пусціўшы толькі дым,
Няўдаліца-запалка прапішчала:
— Вось так, мае сяброўкі,
Ўсе згарым,
Карысці з нас і толку мала...

## ЛАЙДАК І КНОПКІ

Ёсць між намі дзе-нідзе
Аматары «памарыць»...
Такі вам будзе цэлы дзень
Разводзіць тары-бары.

«Пры камунізме, мілы мой,
Не трэба бегчы ў краму.
Заўсёды кнопкі пад рукой,
І вінцікі, і краны.

Вось будзе, брат, лафа так жыць.
Адно, займеўшы кнопкі,
На ложку ты сабе ляжы
І пі, і еш, хоць лопні.

На кнопку «К» націснуў — раз!..
І вось — дзіўное дзіва:
Ліецца з крана хлебны квас,
На «П» націснуў — піва.

Перабірай за кранам кран.
Згубіў — пакажа стрэлка:
Дзе кнопка «НАР» — там, знай, нарзан,
Дзе кнопка «ГАР» — гарэлка.

Падсілкавацца зажадаў?
Браточак, калі ласка!
Каб толькі кнопку адшукаў —
І яйкі, і кілбаска.

Ніякіх тут табе клапот.
Рот разяўляй старанна —
І панясуцца самі ў рот
Блінцы ды са смятанай.

Каб для навук не траціць час,
Не быць без сэнсу тлумным,
На кнопку «РАЗ»
націснуў раз —
І раптам стаў разумным».

Калісь настане дзень такі,
На ўсё ў нас кнопка будзе.
Адно вось толькі лайдакі
Дарэмна чэшуць языкі,
Калі працуюць людзі.

## САРОКІ СТУДНЮ АБЯРНУЛІ

Аднойчы неяк дзве сарокі
Трашчалі, крылы ўзяўшы ў бокі:
— Вы чулі?..
Голуб прыляцеў
У сваты да Сініцы.
Сямёра кінуў ён дзяцей,
А з імі — маладзіцу!..

— Вы чулі?..
Кажуць, што Ласю
Скруціла гэтак рогі,
Бо ні разочку ён дасюль
Не памаліўся богу...

— Вы чулі?..
Зайцу-русаку,
Каб зняць у лесе хатку,
Прыйшлося сунуць Вепруку
Аж сто рублёў задатку...

— Вы чулі?..
Воўк пражыў сем дзён
Капусткаю заечай,
Бо ўжо даўно баіцца ён,
Нібы агню, авечак...

Прабачце, вы не чулі?
Сарокі студню абярнулі.

## І ЧАМУ Я ХАЛАСЦЯК?

Колькі мне?
Пад сорак маю.
Як працуецца?
Сяк-так...
Ды сяджу вось, разважаю:
І чаму я халасцяк?

Ростам — быццам ладнаваты.
Нос — у меру. Рот — як рот.
Дык чаму ж даюць дзяўчаты
Ад варот мне паварот?

Стася?.. Ёй прызнаўся прама.
Стасю моцна я любіў...
Нават, помню, дзвесце грамаў
Ёй «падушачак» купіў.

Быў і дома я ў каханкі.
Выпіў гляк і з'еў кумпяк.
Правяла мяне да ганка...
І чаму я халасцяк?

А яшчэ заваражыла...
Помню — во! — было дзяўчо.

Нат аднойчы палажыла
Мне галоўку на плячо.

Ёй кажу пяшчотна гэтак:
«Слухай, ты ж не бервяно?!»
А яна — купі ёй кветак,
Намякае на кіно.

На дармоўку, бач ты, цэліць.
Я ёй тут без лішніх фраз:
«Адгуляем перш вяселле,
А тады ўжо іншы сказ...»

А яна і адказала:
«Перш на ґорцы свісне рак...»
От дык ліха, от навала!
І чаму я халасцяк?

Хлопец з выгляду я — класны,
І наконт глуздоў — не ўрод.
Да дзяўчат я маю ўласны,
Свой, культурны падыход.

Падтрымаць умею марку,
Памятаю, шасцярым,
Пазнаёміўшыся ў парку,
Карткі з надпісам дарыў.

Трэба ж, гэтулькі адразу
Раніў сэрцаў — любата!..
І... ніводная адказу.
Ат, вядома,— цемната!

Я сяджу цяпер, бядую,
Разважаю, небарак,
Ды ніяк тут не дайду я:
І чаму я халасцяк?

Вось куплю пінжак у клетку
І з заклёпкамі штаны,
Безразмерныя шкарпэткі
І берэцік шыкаўны,

На плячо павешу «ФЭДа»,
У кішэні — «рок-н-рол»...
Пабягуць дзяўчаты следам —
Буду крочыць, як арол!

Паміж намі,
                    толькі свата
Па сабе цяпер знайду,
Сцеражыцеся, дзяўчаты,—
У сваты да вас прыйду!

## СВАЯ РАДАСЦЬ

Пяе, гудзе адвечны бор,
Галінамі калыша...

І ананімшчык піша твор —
Што гіне бор, ён піша.

Сасоннік порсткі, малады
Па новых лядах крочыць —
Шумяць зялёныя гады...

Паклёпнік пасквіль строчыць.

Ідзе ў таежныя бары
Брыгада за брыгадай,
Звіняць там пілы, тапары...

І плагіятар рады.

Прабіцца праз рачны туман
Патрэбна плытагонам...

А ўжо вядомы графаман
За стол засеў натхнёна.

На папяровы камбінат
Вязуць драўніну людзі...

І рады скаржнік, бюракрат,—
Папера, значыць, будзе!

## ЭХ, АГУЛЬНАЯ КВАТЭРА...

Эх, агульная кватэра,
І далася ты мне ў знак!..
Светлы дзень здаецца шэрым.
Як мне быць, скажыце, як?

У суседа лямпак поўна,
Позна вечарам — сябры.
За святло ж — плаці пароўну...
Згасні ты, бадай, згары!

Ды хай будзе вам вядома,
Я чужога не хачу,
Але ўласнага нікому
Я таксама не спушчу.

І вось з гэтае прычыны
У халасцяцкі свой пакой
Я купіў сабе лічыльнік
І... зусім згубіў спакой.

Як трава пад восень жухну...
Вы спытаеце, сябры,
Як хаджу цяпер на кухню,
Калі там святло гарыць?

Перш за ўсё ў мяне — сумленне:
Я са свечкаю хаджу.
На чужое ж асвятленне
Нават вокам не гляджу...

* * *

Цэлы вечар жар на вуснах
Полымем гарыць.
Не адважыцца дзяўчыну
Хлопец прытуліць.

І тады сама дзяўчына
Хлопца абняла...
Ды ўцякла хутчэй за брамку —
Вусны апякла.

## ПАХОМ І ЛАЎКА

Неяк раз увесну рана
Здзейсніць даўні угавор
Два суседы — Кім з Раманам —
З інструментам выйшлі ў двор,

Каб пад ліпкамі ля плоту
Лаўку новую зрабіць:
Будзе кожнаму ў спякоту
Дзе прысесці адпачыць.

Цвёрды грунт узбілі ломам.
Ямкі — з жоўценькім пяском...
Выбягае раптам з дому
І крычыць сусед Пахом:

— Як жа вам, браткі, не сорам
Пакідаць мяне ўбаку!
Я ж не зломак і не хворы,
Прылажыць магу руку...

Ды і Грышка не павінен
Адцурацца грамады.
Пачакайце вось хвіліну,
І яго гукну сюды.

Неўзабаве выйшаў Грышка,
А Пахом ізноў крычыць:
— Пачакайце, хлопцы, крышку,
Клікну Стася памагчы!

Заадно скажу і Саўку.
Што ж ён, лысы? Не, пастой!
Раз для ўсіх мы робім лаўку,
Значыць, трэба грамадой...

Кожны ўдзел прыняць павінен,
Так сказаць, прыткнуць руку,
Бо ніхто ж мо не адкіне
Прахалодацца ў цяньку?!

Пэўна, дзве гадзіны з гакам
Гуртаваў людзей Пахом.
Каля будучае лаўкі
Ледзь не ўвесь сабраўся дом.

Гаманіла шумна маса —
Не прыткнуць нідзе рукі!

А Раман і Кім
тым часам
Укапалі два слупкі.

І калі ізноў Пахомка
У пад'ездзе раптам знік,
Сеў Раман на лаўцы ёмка
І загнаў апошні цвік.

## «АДАРВАЎСЯ...»

На зямлі бывае часам,
Як у космасе якраз.
Чалавек усёю масай
Адрываецца ад мас.

Быць яму з сябрамі цяжка,
Цяжка крочыць у нагу.
І трапляе у бязважкасць,
Траціць ён сваю вагу.

Быў усімі паважаны,
І сябры ў яго былі...
Ды павага і пашана
Пры бязважкасці сплылі.

## ТРАЯНСКІ КОНЬ

Да нас прыйшоў ён на папас
Са старажытнай Троі
І за даверлівасць не раз
Паскудства нам падстроіў.

Ага, той самы конь,
Які
Не пасся на атаве
І ашуканствам на вякі
Ўвесь конскі род зняславіў.

Без пута ходзіць з тых часоў,
Без шораў ён, злашчасны.
Ды не адным жыве аўсом
Траянскі конь сучасны.

Інакшы з выгляду ён стаў —
На дзвюх уласных ходзіць.
І толькі грыву захаваў —
Яна цяпер у модзе.

Не заіржэ, як колісь, ён,
Прывабна ззяе глянцам,
Займеў прыемны барытон,
А падкаваны... лямцам.

І на сваіх дваіх нідзе —
Крый бог! — не спатыкнецца.
Паміж даверлівых людзей
Ён найчасцей пасецца.

Без дай прычыны не ўбрыкне —
Ціхманы і рахманы.
Губой за вухам казытне —
Хоць прыкладай да раны.

Ніколі ён не б'е ў хамут,
І ўсё ў яго — у меру.
І ў зручны час —
ён тут як тут,
Цішком «адчыніць дзверы».

І кляўза коршакам ляціць,
Паўзуць вужамі плёткі,
Драчом пяро дзярэ, сіпіць,
Хрыпяць ад спрэчак глоткі.

А воз, што справу рухаў-вёз
У шчырасці і згодзе,
Пайшоў, нібыта без атос,
У лукаткі — дый годзе.

Каню ж Траянскаму начхаць,
З рукі яму ўсё гэта.
Пад шум што-кольвечы ўварваць —
Яго разлік і мэта.

І чуткі гэткія былі
(Відаць, няма памылкі),
Што ад яго крыві пайшлі
Траянскія кабылкі.

Умеюць спрытна падбрыкнуць,
Абы не зведаць лейцаў,
Абы ў прыпрэжцы не цягнуць,
Абы заўсёды ўлегцы.

Што ім лядашчы і стары
Жарэбчык той мышыны?!
Яны пацерпяць да пары,
А там —
камфорт, машына...

Ад ліха не чакай дабра...
Ды як пазнаць, уласна,
Калі конь гэты —
без таўра,
Пароды — разнамаснай.

Траянскі конь — не «і-го-го»!
Яшчэ ён тым славуты,
Што як ні путалі яго,
Ды ўсё ірвецца пута.

## САРОЧЫНА ДЗІВА

Хваліла раз Сарока Салаўя:
— Прабачце, гэта ж чула я,
Што вы такі руплівы гаспадар...
Ды гэта ж проста божы дар!

На пахвальбу Салоўка не рэагаваў
І сам сабе, па звычцы, заспяваў.
Здзівілася Сарока:
— Як жа так?!
Дык вы яшчэ й спяваць мастак?..

## АДУКАВАНЫ ФЕДЗЯ

Выступаў — ляцела рэха,
Апладзіравалі ўсе.
Заклікаў у вёску ехаць,
Сам — у горадзе асеў.

Пэўна, так падумаў недзе:
«Там прастора не для ўсіх...»
Сёння «Волгу» водзіць Федзя —
Ўладкаваўся на таксі.

У рабочы клас падаўся,
Не шуткуй, брат, ведай нас!

Ды адно гнілы, бяда ўся,
Атрымаўся з Федзі клас.

Хлопец ён — не лыкам шыты.
Калі ласка, пасажыр!
Можа ён давезці з шыкам
І «культурна» абслужыць.

Паспрабуй рахунак звесці!..
О-го-го! Аддаць — не ўзяць!
Можа лекцыю на месцы
Пра валюту прачытаць.

Будзе так даводзіць нешта:
Не шафёр — прафесар сам.
І замест рубля на рэшту
Дасць ураз цытату вам.

Ён не знаецца з нястачай.
Іншы скажа: — Што ж, сумеў!..
У сяле адгрукаў дачу,
«Масквіча» свайго займеў.

І рулюе, і махлюе,
Толькі мог бы — ўсё б загроб...
Гэй, браток, куды кіруеш?
Бачыш, знак?
Машына, стоп!..

## ПУСТАМАЛОТ

На палетку урадлівым
Колас біў ва ўсе званы:
— Я адзін, усім надзіва,
Дам паўпуда збажыны!

Гэты голас між калосся
Быў чуваць за паўвярсты...
Ў малатарню ж як прыйшлося,
Аказалася — пусты.

Я таго на ўвазе маю,
Хто працуе з халадком:
Дрэнна ніву засявае,
Даглядае — языком.

Ён падаць умее голас,
Аж цурчыць з натугі пот.
Толькі ён — парожні колас,
Ці інакш — пустамалот.

## РАЗВАЖЫЎ...

Сказалі:
— На гэтай пасадзе
Трэба мець розуму на сем пядзей...
Падумаў, разважыў ён:
— Не,
Дайце лепш сем намеснікаў мне.

## СКАРГА ЖАНІХОЎ

«Шаноўны рэдактар!
Турбуем мы вас
З такое вось прыкрай нагоды.
Хутчэй як мага
Прыязджайце ў калгас,
Зірніце на нашы нягоды!

Як сумна жывём мы
Каторы ўжо год,—
Любая раскажа дзяўчына.
І верце,
Нікому ніякіх турбот,
Каб людскі ў нас быў адпачынак.

Пра клуб свой
Куды ні пісалі — дарма,
Ніякай няма дапамогі.
Паверце,
Там веніка нават няма,
Няма чым падмесці падлогі.

Ды выбіта шыба
Даўно ўжо ў акне,—
Шкляра хоць выпісвай з-за свету.
Зімою там сыплецца
Снег за каўнер,
Скразняк прадзімае нас летам.

Хоць колькі
У размовах сваіх дзелавых
Пытанне ні ставілі рубам,—
Ніводнага дрэўца
Не ўбачыце вы,
Ніводнае лаўкі ля клуба.

Вось так і жывём мы
Каторы ўжо год:
Ні ў нас спевакоў, ні танцораў...
Сумуюць дзяўчаты
Ля ўласных варот
І замуж выходзяць у горад...»

Шаноўныя хлопцы!
Такі мой адказ

(Ды толькі, як кажуць, між намі):
Пакуль не ўцяклі
Ўсе дзяўчаты ад вас,
За клуб свой самім
Ужо ўзяцца вам час,
Каб век не пражыць
Бабылямі!

## ПРАГНАСЦЬ

Людзям патрэбны
Кватэры і дачы,
Патрэбны ім сонца,
І мора, і пляж.
У працы патрэбны ім
Шчасце і ўдачы,
Шляхі і дарогі —
У кветках наўсцяж.

Ды іншы абнёс бы
Усё гэта плотам,
Каб нават не сеў
На суку верабей...
Ён свету не бачыць,
Аблiўшыся потам,
Суседскую курыцу
Ў градах — заб'е.

Глядзіць толькі ў неба ён
Печы уласненькай.
Вішчыць у хляве
Цэлы статак свіны...
Лепш музыкі гэткаму
Бразгае засланка,

Песняй найлепшай
Звіняць чыгуны.

Уласнай сядзібай
Ён толькі й любуецца:
Ўласная бульбінка,
Ўласны гарод...
Хоць бульба у краме,
Насупраць, праз вуліцу,
Танна і зручна,
Без лішніх турбот.

Каб засланка чорная
Сонца не засціла,
Кветкі цвілі
І сады над ракой,
Ствараем сягоння
Вялікае шчасце мы,
Скваппасць пракляўшы
На векі вякоў.

## ЛЯСНЫ КАНДЫДАТ

Аспірант ён быў нядрэнны,
Рос, як грыб той пад сасной,
Бо вучыўся недарэмна
Ў акадэміі лясной...

(Змалку помніў ён навуку:
Як на дрэва часам лез,
Бацька рэмень браў у рукі:
— Вырас, гледзячы на лес!..)

У тамах пудовых — мудрасць.
Праштудзіруй, разбяры!..
Назубок цытаты зубраць
Аспіранцкія зубры.

Дысертацый тэмы самі
Выбіраюць па душы.
(Варушы тут больш мазгамі,
Менш нагою калышы!)

Распрацоўваюць праблемы —
Ўсё ідзе на лад, як след.
А ў яго няма і тэмы,
Чым жа здзівіш белы свет?!

...Скрыгаталі пёры ў цішы.
Мільганула думка тут:
Кожны піша,
крэсліць,
піша...
А паперы трэба — пуд!

Значыць, вось ён, самы верны,
У навуку просты мост!
З дрэва робіцца папера...
Як яго паскорыць рост?

Каб лясы раслі надзіва —
I сасна, і граб, і бук —
Не па днях, а па гадзінах,
Як у тропіках бамбук!

Толькі доследам належным
Трэба ўсё абгрунтаваць.
I узяўся ён паспешна
Гадаваць і натаваць.

Неўзабаве на дзялянцы
Акуратна, рад у рад,
Падрасталі гадаванцы,
Рос і новы кандыдат.

Кожны год кальцо ў сасонкі
І галінак пэўны лік.
Кожны год на паўстаронкі —
Іх дакладны ўлік, падлік.

Колькі ж год,
                    развабжыў, трэба,
Каб узняць іх ад зямлі
Хоць на сажань, не да неба?
Кандыдатам стаць калі?

Значыць, вось ён, самы верны
У навуку просты мост:
Дрэва ўзросцім на паперы,
Хай праверацць гэты рост!

Назіранні, меркаванні,
Развабжанні, чарцяжы
Ён паднёс на атрыманне...
Атрымаў,
                    што заслужыў.

Дзе вучоны гэты сёння,
Як ягоны склаўся лёс?..

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Сам сабе шуміць сасоннік,
І расце ён, як і рос.

## НА ЗДАРОЎЕЧКА!

Ў краме робячы, Кузьма
Выпівае не дарма —
За здароўечка.

Цягне ўсё ён для кумы.
Толькі й клопату ў Кузьмы —
Пра здароўечка.

І баяцца нездарма
І кума, і сам Кузьма —
За здароўечка.

Ўчора гэтага Кузьму
Пасадзілі у турму...
— На здароўечка!

## КУКІШ У КІШЭНІ

Кукіш, ці іначай дуля,
Не абы-якая цаца.
Ён жыве і не бядуе —
Кукіш выкусіць баяцца.

І з чыйго ён роду-племя,
Што такі заўсёды грозны?
(Лепш пакінем гэту тэму
Для даследванняў сур'ёзных...)

Быў калісьці смачным кукіш:
Кукіш з маслам,
Кукіш з макам...
За яго што хочаш купіш,

Калі грошай —
Кот наплакаў...

Ды ў ягонай радаслоўнай
Ёсць і кукіш асаблівы:
Ён і сціплы, і тактоўны,
І надзіва сарамлівы.

Бы яго сурочыў хтосьці —
Ён свайго баіцца ценю.
Як пачнеш дрыжаць ад злосці,
Дык хаваецца ў кішэню.

І адтуль,
Нібыта з будкі,
Пагражае,
Шчэрыць зубы.
З ланцуга сарвацца — дудкі!..
У яго свая рахуба.

Там ніхто яго не ўбачыць,
Там спакойна,
Там утульна.
За абразу — кукіш здачы.
Ну, і квіты.
І культурна.

Стаў для некага мішэнню
Жартаў,
Кпінаў
І насмешак,
Кукіш ты скруці ў кішэні —
Цалкам будзеш ім суцешан.

За спакой пахваляць людзі.
Кукіш —

Быццам фіззарадка:
У парадку сэрца будзе,
Нервы будуць у парадку.

Прыйдзе час —
І застанецца
Ён
Як сродак ад «ячменю».
Калі толькі не затхнецца
Там без продыху ў кішэні.

Жартаваць з ім —
Я не раю...
Хоць хваліце кукіш, ганьце,
На свайго гаспадара ён
Так падобны ў профіль...
Гляньце.

## КРЫЎДА ЛАЗОВАГА ВЕНІКА

Я, венік лазовы,
Не думаў нізвання,
Што буду ў людзей
У вялікай пашане.

З дзяцінства маю
Паспытаўшы навуку,
Шчэ некалі прадзед
Заказваў унуку.

Сягоння ж вось, людцы,
Ад крыўды я плачу,
Хоць спраўна сваё
Адслужыў, не лайдачыў.

Бо часам, бывае,
Як сход ці нарада,
Павінен прысутнічаць
Я у дакладах.

Павінен я сцёбаць
Кагосьці з размаху,
Каб больш было шуму,
Каб больш было страху.

І лічаць, што я
Незаменны прамоўца,
А я ж — толькі венік
У кожнай лупцоўцы.

І лічаць, што лепш я
Ўсялякай парады,
Што любяць мяне ўсе,
Што мне дужа рады.

Што я ўжо й не венік,
А... «соль» у дакладзе,
Што я ўжо й не сцёбаў,
А ўсё толькі гладзіў.

Прызнаюся шчыра,
Я вельмі засмучан:
Хоць «гладжу» кагосьці,
А мне ўсё ж балюча.

Даўно ўжо я ў кадцы
Дубцы свае пару,
Даўно аб заслужанай
Пенсіі мару.

## ПА САКРЭТУ

*(З расказу загадчыка базы)*

Тавар заляжалы —
Звычайнае мыла —
Збываць трэба неяк,
Хоць міла, не міла.

І чутку пускаю
Пад строгаю тайнай,
Што фабрыка стала —
Рамонт капітальны.

Перш жонцы пра гэта
Сказаў па сакрэту.

А жонка — сяброўцы
Адразу ж, вядома:
— Глядзі, па сакрэту...
— Дальбог жа, нікому...

Сяброўка — сваёй
Расказала сяброўцы:
— Глядзі, па сакрэту...
— Нікому ні слоўца...

А тая — сястрыцы
Пад чэснае слова:
— Глядзі, па сакрэту...
— Была б я здарова...

Сястрыца — суседцы
З усёй засцярогай:
— Глядзі, па сакрэту...
— Пабойся ты бога...

Суседка — суседцы
Сказаўшы, прасіла:
— Глядзі, па сакрэту...
— Маўчу, як магіла...

Пай-шло-о маё мыла!

Каб толькі між намі —
Скажу па сакрэту:
Тавар заляжалы
Яшчэ ёсць, кабеты!

## З ПІСЬМА ДА ЖОНКІ

Не верым, ты знаеш,
Ані мы душой,
Дальбог жа, ні ў д'ябла,
Ні ў бога з табой.

Ды, пэўна, існуюць
Два нават багі:
Першы — што сварыць,
Што мірыць — другі.

Давай жа ў іх сілу
Мы верыць пачнём,
Ды першага бога
Да д'ябла пашлём!

## НЕ СЫШЛІСЯ ХАРАКТАРЫ

Суд ідзе.
І суддзя
Бацькам тут пасаджоным —
Не сышліся характары
У маладажонаў.

Жонка мужа мяшае
З гразёю пры сведках:
Ён ціхоня, маўчун,
Ён такі, ён і гэткі...

Не прыцісне начальства,
Не ўласціць знаёмых,
Каб кватэру далі
Без чаргі ў новым доме.

Вечарамі над кнігамі
Горбіцца крукам,
Вунь знаёмы шафёр
Без таго дом адгрукаў.

А якое з навукі той
Будзе наедку?
Прыбіральшчыц узяць:
Іх прафесія — з рэдкіх.

Галава не баліць.
Хоць малая пасада,
Тры канторы падмёў —
Тры штомесяц аклады.

Ёсць шчаслівыя сем'і,
Шчаслівыя жонкі:

Муж згатуе абед
І памые пялёнкі.

Выпіць чарку? Хай піў бы.
Мне трасцы не шкода.
Ды каб толькі была
З тае чаркі выгода...

Дык скажыце вы мне,
Хіба гэта мужчына?!
Я прашу нас развесці,
Так жыць немагчыма...

І цікаўная зала
Прыціхла, варожыць:
Перадумаюць раптам,
Паміраццa, можа?..

Крый божа!

## ТАКАЯ СІТУАЦЫЯ

Даруйце, ледзьве не забыў.
Цяпер магу прызнацца вам...
Аднойчы я запрошан быў
На абарону дысертацыі.

Сам дысертант — нібыта Ной,
Нікім яшчэ не ўслаўлены,
Што новай працаю сваёй
Уратаваў нам фауну...

З уласнай думкай тут усе.
Загадкава-паважныя.

Хто шэпча, каб не чуў сусед,
Хто бараду пагладжвае.

А навуковы кіраўнік —
Нібыта сват са Случчыны,
Хоць павяжы яму ручнік...
(Хутчэй бы ўжо заручыны
З нявестаю — навукаю,
Ды ўсе за стол — з прынукаю...)

І з лёгкай «сватавай» рукі
Усё і ўсімі сказана.
І нават дзе, на час які
Банкет ужо заказаны.

Адна вось толькі драбяза,
Няўмольная, фатальная,—
Галасаваць, хто «супраць», «за»...
Галасаванне — тайнае.

Спакойна пахаджае «сват»,
Хвалюецца ягоны кандыдат:
Малыя жарты з урнаю,
Што можа стаць хаўтурнаю...

Ціпун мне, дурню, на язык,
Ледзь не сурочыў справы ўсёй:
Навука — паказаў падлік —
На... галаску ўтрымалася.

Ды ўсе віталі, як адзін,
І ўсе ў далоні пляскалі,
І ўсе з выпадку «імянін»
Глядзелі ў вочы ласкава.

І ўсе нарзан пілі, крушон...
У столь стралялі коркамі...

Крый бог, каб нехта не прыйшоў,
Адразу б пальцам торкнулі.

І спіны ўсе выпроствалі
І выступалі з тостамі.
З банкета ўсе пад ранне
Выходзілі сябрамі...

Пілі крушон, пілі нарзан,
Хвалілі дысертацыю
Усе, хто «супраць» быў, хто «за»...

Такая сітуацыя!

## «БЮРО ДАВЕДАК»

Выключнае бюро!
Бажуся ўсім дваром.

Звяртайся ў будні, свята,
Удзень звяртайся, ўночы,
Ніколі не занята —
І ўночы дзень рабочы.
Зімой звяртайся, ўлетку —
Любую дасць даведку:
Хто што сягоння снедаў
І хто каго адведаў,
Хто з кім па чарцы выпіў,
Хто з жонкай пасварыўся,
Хто шкло ў суседа выбіў,
Хто ўчора нарадзіўся,
Хто мае нарадзіцца,
Хто думае жаніцца...

Здараецца нярэдка
З памылкамі даведка:
Хто звольнены — працуе,
Хто выехаў — жыве,
А хто памёр — танцуе
І крапаком слыве.
Узяў даўно развод,
Хто жэніцца праз год...

У рэдкім тым бюро
Даведкі мы бяром:

У краме і на рынку,
Ў трамваі і на працы,
Ў дарозе, на прыпынку,
На вуліцы і ў хаце...

Ды перш чым марна голаў
Тлуміць сабе і вам,
Я з вашага дазволу
Адну даведку дам:

Бюро — твая суседка...
Не блытай з «Гардаведкай»!

## ПАЛЯЦЕЎ...

Чулі? Нехта выхваляўся
Ў рэстаране ўначы.
Потым так, бядак, набраўся,
Ледзьве ногі валачыў.

І калі спускаўся з лесвіц,
Гарлапаніў гэты хват:

— Што мне космас! На ракеце
Паляцець не штука, брат!

На ракеце кожны мог бы,
Не геройства гэта, не!
Пасадзі туды любога,
Ну, вось хоць бы і мяне...

І якраз унізе лесвіц,
Трэба ж, лужына была,
Плыў у ёй рагаты месяц,
Хмарка шэрая плыла.

Наш герой і даў тут маху:
Штось сказаць яшчэ хацеў,—
Спатыкнуўся
І з размаху
Прама ў «космас» паляцеў.

## НАЛЕЖНЫ ПАДЫХОД

Ён добра мне знаёмы,
Сусед шаноўны мой.
...Выходзім разам з дому
На працу раніцой.

— Гляджу, ў цябе, Антоне,
Пад пахай парасон.
Ці будзе дождж сягоння?

Адказвае Антон:

— Яно, брат, рэч такая...
Тут, я табе скажу...

Вось часам прыпякае...
Бывала, без дажджу

Парэпаецца глеба,
Як бубен, агарод...
Тут справа, брат, і злева
Патрэбен падыход...

І разам жа апоўдні
Мы едзем на абед.

— Вось у цябе, Антоне,
Ёсць праязны білет.
Ці выгадная штука?

Антон, каб даць адказ,
Трэ аб штаніны рукі
І так вядзе свой сказ:

— Білет — яно нічога.
Што ехаць — не ісці...
Дык гледзячы з якога
Тут боку падысці.

І зверне ўбок гамонку:
— Тут, брат,
                глядзі ў нутро.
Ўзяць балаголаў, конку
Ці, скажам, вось метро...

Такая, братка, справа.
Жыццё, як калаўрот.
Тут злева, брат, і справа
Патрэбен падыход...

Вяртаемся з абеду.

— Антоне, ну, дык як?
Нарэшце «нам» твой зведаў,
Які хабару смак?
Напэўна, ўжо сягоння
Падпішаш ты загад?..

Адказвае Антон мне:
— Тут рэч такая, брат...
Калі прыйшлося к слову,
На ўвазе трэба мець...

Патрэбна ўсебакова
На гэты факт глядзець.
Ці, скажам, вось хабарнік,
Ці той жа бюракрат...

Які ён мне напарнік!
Тут рэч такая, брат.
Такая, братка, справа...
Такі, брат, паварот...
Відаць, тут злева, справа
Патрэбен падыход.

...Адзін назаўтра з дому
Я выйшаў раніцой.
Прабач мне, мой знаёмы,
Сусед шаноўны мой.

Такая выйшла справа...
Такі, брат, паварот...
Як кажуць, злева, справа
Быў зроблен падыход.

Табе, скажу да слова,
На ўвазе трэба мець —
Таксама ўсебакова
На гэты факт глядзець!

## З МІНУЛАГА

*(Быль)*

Шмат гадоў, як Фрыц згубіў
Ў Мінску амуніцыю.
Засталася толькі быль
Аб прыгодах Фрыцавых...

«Фрыц мастак паесці ўсмак —
З ненажэрным брухам ён.
Носам круціць сяк і так
Ды паветра нюхае.

Павярнуў свой нос на Ўсход —
Пахне там закускаю:
Масла, яйкі, сала, мёд
І каўбасы рускія.

— Нават,— кажа ціха Фрыц,—
Каля Мінска, бачу я,
На агні кацёл кіпіць...
Пахне кашай смачнаю.

Там задкі і кумпякі
Варацца з прыправаю...
А кацёл той — вось такі! —
Шмальц наверсе плавае...

Падцягнуў тужэй жывот
Фрыц пяньковай дзягаю.
І папёр хутчэй на Ўсход
З ненасытнай смагаю.

«Частавалі» ад душы
Мы фашыстаў кашаю.

Будзе помніць, колькі жыць,
Завядзёнку нашую:

Калі справа так пайшла —
Трэба быць «гасціннымі»!
Фрыц ірвауся да катла?
Зробім чын па чыну мы.

Толькі юшку Фрыц уцёр,
І з разбітай храпаю
Каля Мінска у «кацёл»
Акурат патрапіў ён.

Паддалі як след агню
Ды лінулі вару мы,—
Ледзьве ногі пацягнуў —
Зад увесь ашпараны».

Ў нас прыпас сякі-такі
Ёсць заўжды з прыкрасаю...
Хай запомняць на вякі
Да чужога ласыя!

## БІЗУН І ПЕРНІК

Калі ў Лісы кішэня апусцела,
Задумалася рыжая ўсур'ёз:
Як ёй паправіць свой лісіны лёс?
Памазгаваўшы трохі,
Рашыла, як калісьці скамарохі,
Даваць з Мядзведзем прадстаўленні.
Глядзіш, напоўніцца кішэня.
Яна Мядзведзя ўгаварыла,
Бізун і пернікаў купіла

І на паляну да сівой сасны
Сабраўшы ўсіх насельнікаў лясных,
Давай паказваць нумары...
Гула звярыная пацеха —
Ажно ляцела рэха.
Смяяліся драпежныя звяры,
А касалапаму было тут не да смеху:
Ліса сядзельца на яго надзела,
Сама ў сядзельца тое села
І, каб Мядзведзь скакаў ямчэй,
То па спіне,
То між вачэй
Сырцовым бізуном лупіла.
Ў Мядзведзя не ставала сілы.
Ды толькі ён скакаць перастае,
Ліса мядовы пернік дастае
І Мішку тыцкае пад нос.
Глядзіш, той зноў Лісу павёз.
Сядзіць Ліса як ягамосць.
Тут Мішку разабрала злосць.
Як толькі зноў бізун Ліса дастала
І зноў без жалю сцёбаць пачала,
Праз галаву кульнуўся ён удала
І выкінуў кудлатую з сядла.
Сядзіць ліса —
Ні «тпру!», ні «но!».
Бізун і пернік
Made in «USA»
Вядомы ўсім даўно.
Сягоння, ўзбунтаваўшыся, народы
Ўзялі у рукі самі бізуны,
Няпрошаных душыцеляў свабоды
Далоў з сядла выкідваюць яны.

# МЫ БУДЗЕМ СМЯЯЦЦА...

Мы будзем смяяцца
Штодзённа і шчыра.
Нам смех, як паветра,
Патрэбны ў жыцці.
І гумарам лёгкім,
І вострай сатырай
Да новых вышынь
Дапаможам ісці.

К малодцы пад'ехаў
Ласун пасівелы.
(Як бачыце, ў сэрцы
Агонь не патух...)
Дык смейцеся ж так,
Каб аж шыбы звінелі,
Каб смех разлятаўся
Вакол на вярсту.

Другога не раз
Праганялі з пасады,
А ён усё пнецца,
Ірвецца к рулю...
Давайце ж смяяцца
З такога да ўпаду,
Каб ён праваліцца
Быў рад скрозь зямлю.

А гэты — хоць з выгляду
Мажны і сціплы,
Ды толькі няма
Мазаля на руцэ.
І слоўцам удалым,
І жартам дасціпным

Бярыце такога
На меткі прыцэл.

А той вунь — на бацькавай
«Волзе» паехаў.
Надзьмуўся, сядзіць
За рулём, як гарбуз.
І нельга ж ніяк
Абысціся без смеху
І смехам не ўвесці
Такога ў канфуз.

Узлез на трыбуну
Заядлы прамоўца —
Гадзіну гаворыць
Пра леташні снег.
І як пашкадуеш тут
Ёмкага слоўца,
Каб грымнуў, як выбух,
Раскацісты смех.

Мы смехам знішчаць будзем
Хібы, агрэхі,
Што плямяць сабою
Наш радасны час.
Ад едкага, вострага,
Трапнага смеху
Усё больш будзе добрага
Смеху у нас.

# Журавіны ў цукры

## ЖЫЎ-БЫЎ...

Жыў-быў пісьменнік...
Карацей,
Няшчасны самы ў свеце:
Пісаць аповесць пра дзяцей
Перашкаджалі... дзеці.

## КАЛІ ЖАНІЎСЯ ГРАФАМАН

Калі жаніўся графаман,
Ён кляўся любай Ганне:
«Я прысвячу табе раман
У вершах пра каханне».
І за паўгода творчых мук
Ледзь напісаў старонку.
«Тварыць патрэбна аднаму!» —
Рашыў і... ўцёк ад жонкі.

## ПРЫХІЛЬНІКУ БЕЛЫХ ВЕРШАЎ

Ты можаш рыфмаў не любіць,
Ды толькі дай мне веры:
Верш можа нават белы быць,
Але ні ў якім разе — шэры.

## САМАКРЫТЫЧНАСЦЬ

Ён маладых без жалю джаліў,
Без лішніх слоў:
— Калі яшчэ вы лыка дралі,
Я лапці плёў.

## ТАПОРНІКУ

Абставіў свой кабінет —
Светла, утульна, міла!
У краму пайшоў паэт —
Купіў цэлы гляк чарніла,
Бярэмя алоўкаў,
Паперы стос,—
Словам, усё, што трэба...

Ў рэдакцыю верш прынёс —
«Купіце,— сказалі,— гэбель».

## «АДКАЗНАЯ» САКРАТАРКА

Была яна адказнаю
Ў прыёмнай нездарма,—
Заўсёды ўсім адказвала:
— Дырэктара няма!

## КРЫТЫЧНЫ МОМАНТ

Прысніўся крытыку сон,
Што псеўданімы ў нас забаронены,
Што быццам бы гэты закон
У рэдакцыях узаконены...

Дзякаваць, крытык прачнуўся ў час
І выратаваў сябе і нас.

## ЗААДНО

Пяць год крытыкаваў, шумеў,
Што рэч ані не вартая...

На гэтым ён сабаку з'еў,
А заадно і... аўтара.

## ПРА СОЛЬ

Пісаў пра соль адзін паэт,
Пра нашу соль кухонную,
Крычаў у вершы на ўвесь свет,
Што соль, як хлеб, надзённая.

— Шкада,— ўздыхнулі ўсе міжволі,
Што выйшаў верш без солі.

## ПЕРАГЛЕДЗЕЎ

Яму сказалі наадрэз:
— У вашым вершы цёмны лес...
І перагледзеў верш цвяроза ён:
Лес пасвятлеў — ён стаў бярозавы.

## ПЛЮС

Адзіны у вершах
Быў плюс безумоўны:
Пастаўлены зверху
Псеўдонім цудоўны.

## НАД ЭПІТАФІЯЙ АНАНІМШЧЫКУ

На пліце — ні імя, ні даты,
Ні звання няма, ні чыну...
Тут ананімшчык заціяты
Знайшоў сабе супачынак.

## ЖОНКА І ЧЫТАЧ

Паэта жонка дакарала:
— Ў апошні час ты пішаш мала...

А чытачы здаволены:
Не дакучае болей ім.

## НЯЗЖАТЫЯ ЛАЎРЫ

Напэўна ўжо раман цудоўны
Ён нам падараваў бы,
Каб трызніў менш вянком лаўровым,
Менш спачываў на лаўрах.

## РАЗГРУЗКА

Заводскі цэх пад столь завален.
З прычыны гэтай быў аўрал.
Дэталі ў скрынку спакавалі,
А брак адвозіў... самазвал.

## НА АДНОЙ ПАЛІЦЫ

У шафе Збо́ру-Твораву
Сказала кніжачка:
— На сціпласць я не хворая,
Пасунься крышачку.

## АДКАЗНЫ

Рэдактар сеў пяро вастрыць...
Пачаў з вядомай фразы ён:
— Паэтам можаш ты не быць...
За гэта — не адказваю.

## РАЗУМНАЕ, ВЕЧНАЕ...

Хваліўся, што сеяў заўжды
Разумнае, вечнае толькі...
О, колькі было б лебяды
Без вечнай разумнай праполкі!

## УСЁ НАПАЛАВІНУ

Кахаў аж да паўсмерці
І да паўзабыцця...
...Каб роспіс шлюбны сцерці —
Аддаў бы паўжыцця.

## КРЫТЫК-ПАЛЯЎНІЧЫ

Знаў крытыка я, паляўнічага
(Даўно ён ужо на пенсіі!),
У рэдакцыях меў за звычай ён
Прасіць... ліцэнзію
На рэцэнзію.

## ХАБАРНІК

З ім — да трох не гавары:
Не пяцёрку — дай хоць тры...

## ЭПІГРАМІСТУ-РАЗГРАМІСТУ

Не помслівай пароды я,
Мне па душы пародыя.
Спытайце нават маму —
Не дасць зманіць ні грама...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Што?! На мяне пародыя?!
От я вас эпіграмай!

## АПРАЎДАННЕ ХАБАРНІКА

Хабарнікам тут без падстаў
Яго мы назвалі:
Ён хабар і праўда не браў...
Бо не давалі.

## «ПІЛЬНАЯ» ПАТРЭБА

Патрэбен ідэлец кату,
Як люстэрка крату.

## БЫЎ ХАЛІМОН...

Быў Халімон як Халімон
(Не ганім мы імёны),
Перад начальствам гнуўся ён
І стаў... Падхалімонам.

## СПЛАЎШЧЫК

Кузьма лічыўся майстрам сплаву —
Сплаўляў налева і направа.

## РАДАСЦЬ

Паэт слязінку з твару сцёр,
Зірнуў на свет гарэзліва:
Ў дзесяты раз прынёс ён твор,
І раптам... не зарэзалі.

## ЗМЕСТ

## Сто крокаў (1967)

## Прыстань (1974)

*Далёкі гром*

## Плуг (1978)

*Вязьмо твайго дня*

## Каб не сурочыць (1971)

**Кляўко Г.**

К 52 Вязьмо: Вершы; Паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 302 с. іл., 4 л. іл., 1 л. партр.

У пер.: 1 р. 50 к.

У росквіце творчай сілы заўчасна адышоў ад нас таленавіты паэт, выдатны знаўца роднай мовы, майстра лірычнага верша, паэмы, дасціпны гумарыст Генадзь Кляўко. Аднатомнік «Вязьмо» склалі старонкі з прыжыццёвых кніг руплівца на ніве беларускай літаратуры.

К $\frac{4702120200-044}{М302(05)-84}$ 128—83

ББК 84Бел7

Бел2

Геннадий Яковлевич
КЛЕВКО

ВЕЗЬМО
*Стихи, поэмы*

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар Р. І. Барадулін*
*Мастак Н. В. Сустава*
*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар К. А. Капцэвіч*

ІБ № 1813

Здадзена ў набор 13.06.83. Падп. да друку 05.01.84. АТ 05505. Фармат 70×100$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 12,25+0,40 укл. Ум. фарб.-адб. 12,62. Ул.-выд. арк. 12,47. Тыраж 3000 экз. Зак. 3774. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.